МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ВУЧЭБНАЯ ПРАГРАМА

ДЛЯ АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНЫХ УСТАНОЎ
З БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАМІ НАВУЧАННЯ

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

## V–XI класы

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2009

## ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА

Праграма па беларускай літаратуры для агульнаадукацыйных устаноў з 11-гадовым тэрмінам навучання распрацавана ў адпаведнасці з актуальнымі задачамі ўдасканалення як сістэмы адукацыі ўвогуле, так і літаратурнага навучання ў прыватнасці.

Вывучэнне беларускай літаратуры ў школе арыентавана на дасягненне мэт, вызначаных Законам Рэспублікі Беларусь «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь», і ажыццяўляецца ў адпаведнасці з асноўнымі палажэннямі Канцэпцыі літаратурнай адукацыі і адукацыйнага стандарту. Змест падручнікаў па беларускай літаратуры, якімі сёння карыстаецца агульнаадукацыйная школа, суаднесены са зместам вучэбных праграм.

Беларуская літаратура як самастойны прадмет у 11-гадовай школе вывучаецца з V класа. Курс беларускай літаратуры ў агульнаадукацыйных установах з 11-гадовым тэрмінам навучання забяспечвае пераемнасць і бесперапыннасць працэсу літаратурнай адукацыі, прадугледжвае магчымасць пераходу ад адной ступені да другой, характарызуецца сістэмнасцю.

Праграма грунтуецца на прынцыпах дэмакратызацыі і гуманізацыі навучання, арыентуе на засваенне духоўных і маральных каштоўнасцей, на эстэтычны і творчы характар засваення прадмета, улічвае ўзростава-інтэлектуальныя асаблівасці вучняў.

Галоўная мэта навучання прадмету — далучэнне школьнікаў да багацця беларускай і сусветнай мастацкай літаратуры, эстэтычнае спасціжэнне вучнямі свету, складанасці чалавечых узаемаадносін і на гэтай аснове — выхаванне асобы з глыбока гуманістычным і дэмакратычным светапоглядам, самастойным мысленнем, з развітым, высокакультурным пачуццём нацыя-

нальнай і асабістай самапавагі, адданасцю агульначалавечым ідэалам, асобы з выразна выяўленымі творчымі схільнасцямі, здатнай успрыманне прыгажосці (эстэтычнае ўспрыманне) ператварыць у стымул маральнага самаўдасканалення, інтэлектуальнага і духоўнага развіцця.

Беларуская літаратура — дысцыпліна культуралагічнага цыкла, якая паслядоўна і сістэматычна далучае вучняў да мастацтва. Літаратура ў школе — сродак эстэтычнага спасціжэння жыцця, яго маральных нормаў і вартасцей.

Родная літаратура каштоўная сваімі ідэямі і тым асобасным сэнсам, які маюць сюжэт літаратурнага твора, мастацкія вобразы, адносіны і стаўленне самога аўтара да герояў і падзей, да жыцця і свету. Вывучэнне літаратуры дапамагае ім убачыць разнастайнасць свету, адкрыць таямніцы пісьменніцкага майстэрства, набыць вопыт маўленчай і творчай дзейнасці, авалодаць культурай чытання, з павагай і любоўю ставіцца да мастацкай кнігі. Такім чынам, у арганічнай сувязі з пазнаннем літаратуры як мастацтва ідзе і працэс фарміравання сістэмы каштоўнасных арыентацый вучня, адносін яго да жыцця, да людзей, працэс усведамлення сябе асобай. Урок літаратуры — гэта найперш працэс жыццепазнання, скіраваны на выпрацоўку крытычнага і мадэлюючага тыпаў мыслення. Асаблівая ўвага пры гэтым надаецца развіццю творчых здольнасцей, навыкаў і ўменняў самастойнай працы.

Зместавую частку праграмы складаюць высокамастацкія творы нацыянальнай класікі і вядомых майстроў слова. Гэтыя творы маюць выключнае значэнне ў гісторыі літаратуры, вызначаюцца багатым пазнавальным і выхаваўчым патэнцыялам, з’яўляюцца даступнымі для вучняў пэўнага ўзросту. Зарыентаванасць праграмы на вывучэнне нацыянальнай літаратуры ў суадносінах з сусветнай, што сведчыць пра культуралагічную накіраванасць навучання і выхавання, пашырае магчымасці ў пазнанні шляхоў развіцця літаратуры, спрыяе спасціжэнню эстэтычных асаблівасцей беларускага мастацкага слова.

Развіццё вуснага маўлення — важная ўмова прадуктыўнага літаратурнага навучання. Праграма акрэслівае асноўныя віды вусных і пісьмовых творчых прац па літаратуры. Лепшыя ўзоры нацыянальнага мастацкага слова з’яўляюцца асновай для фарміравання маўленчай культуры школьнікаў.

Структура ўрокаў і іх форма абумоўліваюцца мэтавымі ўстаноўкамі, узростам вучняў, мастацкай своеасаблівасцю твора, этапамі яго вывучэння. Гутарка і лекцыя, чытанне і абагульненне, аналіз і сачыненне, абарона рэферата і завочная экскурсія, «паэтычная хвілінка» і работа з падручнікам — усе гэтыя формы навучання маюць сваю спецыфіку, якая праяўляецца ва ўнутранай логіцы разгортвання ўрока, і забяспечваюць такія яго якасці, як цэласнасць, адукацыйная, навучальная, выхаваўчая і развіццёвая накіраванасць, праблемнасць, дзейсны характар, дыялагічнасць.

У V—VIII класах галоўным аб'ектам вывучэння на ўроку літаратуры з'яўляецца мастацкі твор. Таму ўвага школьнікаў не засяроджваецца на жыццёва-творчым шляху пісьменнікаў. Аднак, хоць вывучэнне пісьменніцкіх біяграфій у гэтых класах спецыяльна не прадугледжваецца (яны будуць у цэнтры ўвагі ў наступных класах), настаўнік, выступаючы пасрэднікам паміж пісьменнікам і вучнямі, у працэсе гутаркі можа звярнуцца да асобных біяграфічных звестак, якія будуць спрыяць больш глыбокаму спасціжэнню канкрэтнага мастацкага твора.

**V клас**. Курс V класа ў сістэме літаратурнай адукацыі займае асобае месца як пераходны ад пачатковага этапа навучання (літаратурнае чытанне) да сярэдняга (літаратурнае навучанне).

Прапедэўтычны курс літаратуры мае на мэце сфарміраваць у вучняў уяўленне пра літаратуру як чалавеказнаўства і як мастацтва слова, якому ўласцівыя адметныя спосабы вобразнага адлюстравання жыцця. Усведамленне вучнямі чалавеказнаўчага аспекту літаратуры — пазнання свету і чалавека праз мастацкае, эстэтычнае іх адлюстраванне і ўспрыманне, праз маральна-эстэтычную ацэнку рэчаіснасці, жыццёвых з'яў і падзей — асноўнае ў курсе літаратуры V класа. Галоўным аб'ектам на ўроку літаратуры з'яўляецца мастацкі твор, яго жыццёва-пазнавальныя, мастацка-эстэтычныя, каштоўнасна-ацэнachныя якасці.

***Асноўная задача*** настаўніка на ўроках літаратуры ў V класе заключаецца ў тым, каб зацікавіць вучняў чытаннем, скіраваць іх увагу на пазнанне мастацкай прыроды фальклорных і літаратурных твораў, навучыць успрымаць літаратуру як мастацтва слова.

Напрамак вывучэння літаратуры ў V класе і прынцыпы структуравання зместу вызначаны ў адпаведнасці з логікай чытацкага ўспрымання мастацкага твора, калі асваенне жыццёвага матэрыялу (зместу) у яго вобразным увасабленні натуральна спалучаецца з пазнаннем і ўсведамленнем галоўных асаблівасцей літаратуры як мастацтва. Матэрыял пададзены сістэмна, згрупаваны ў адпаведныя тэматычныя блокі, для таго каб вучні авалодвалі параўнальным падыходам у працэсе аналізу мастацкіх твораў і іх кампанентаў. У выніку такога структуравання зместу кожны асобны твор выступае як адметная мастацкая з'ява, а ўсе тэксты разам узятыя дазваляюць убачыць ідэйна-тэматычную разнастайнасць літаратуры, яе эстэтычнае багацце. Пры гэтым настаўнік у працэсе асэнсавання твора дапамагае вучням назапашваць неабходныя літаратурныя веды на аснове засваення сутнасці канкрэтных тэарэтычных паняццяў. Па тэорыі літаратуры адабраны асобныя, даступныя ўзросту вучняў паняцці, звязаныя з мастацкім творам і яго кампанентамі (тэма, сюжэт, літаратурны герой у мастацкім творы; моўныя вобразныя сродкі — эпітэт, параўнанне), а таксама звесткі пра фальклор і некаторыя яго жанры.

У адпаведнасці з узроставымі і псіхалагічнымі асаблівасцямі пяцікласнікаў, іх жыццёвым і чытацкім вопытам быў вызначаны змест курса літаратуры — фальклорныя і літаратурныя творы, больш складаныя (у параўнанні з IV класам) і разнастайныя па тэматыцы і жанрах, мастацкіх асаблівасцях, якія даюць магчымасць шырокага «агляду» жыцця. Паколькі ў падлеткавым узросце фарміруецца сістэма каштоўнасных адносін да жыцця, адбываецца працэс самаўсведамлення асобы, яе духоўнага станаўлення, вялікая ўвага надаецца творам гераічнага, рамантычнага зместу, якія выяўляюць найважнейшыя грамадзянскія, маральна-этычныя якасці ў характары і паводзінах чалавека, яго адносінах да Радзімы, яе мінулага і сучаснага, да сваёй культуры і мовы, да захавання прыроды і г. д.

Такім чынам, у курсе літаратуры V класа дамінуе жанрава-тэматычны падыход, а ў цэнтры знаходзіцца мастацкі твор і яго будова.

**VI клас.** Навучанне беларускай літаратуры ў VI класе з'яўляецца працягам прапедэўтычнага курса, які будуецца з улі-

кам пераемнасці з папярэднімі этапамі навучання і паступова, мэтанакіравана падводзіць школьнікаў да ўспрымання літаратуры на больш высокім узроўні ў наступных класах. Праграма прапануе творы больш складаныя па змесце і разнастайныя па сваіх мастацкіх асаблівасцях, працягвае знаёмства вучняў з жанрамі і тэматыкай фальклорных і літаратурных твораў, найважнейшымі прыёмамі і сродкамі вобразнага адлюстравання свету.

Пры вывучэнні твораў асабліва важным застаецца паўнавартаснае ўспрыманне вучнямі зместу і сэнсу прачытанага, пашырэнне іх чалавеказнаўчых, жыццёвых і эмацыянальна-вобразных уяўленняў. Па-ранейшаму вядучай застаецца ўстаноўка на ўсведамленне глыбіні і непаўторнасці мастацкага слова. Вывучэнне літаратурных твораў адбываецца ў адпаведнасці з логікай спасціжэння мастацтва слова: першаснае ўспрыманне — аналіз — абагульненне. У аснове зместу праграмы ляжыць ідэя Радзімы, родных вытокаў, а таксама агульны прынцып уладкавання Сусвету: я — мой род — народ — родная зямля — чалавецтва. Падабраны тэкставы матэрыял заключае ў сабе вялікі пазнавальны змест, мае несумненнае грамадска-выхаваўчае значэнне, дае вучням уяўленні пра літаратуру як чалавеказнаўства і мастацтва слова, асноўныя тэмы і вобразы літаратурнай творчасці, садзейнічае абуджэнню фантазіі, інтэлектуальнаму развіццю і эстэтычнаму ўзбагачэнню асобы.

Уводзіны ў свет міфатворчасці даюць першапачатковыя звесткі пра ўзнікненне вобразнага, мастацкага слова, закліканы абудзіць у малодшых падлеткаў цікавасць да прыгожых і таямнічых поглядаў на свет нашых продкаў, даць уяўленне пра выкарыстанне міфалагічных вобразаў у літаратурных тэкстах. Знаёмства з Бібліяй і літаратурнымі творамі з біблейскімі матывамі падорыць вучням цудоўную магчымасць адчуць мудрасць адвечных маральных запаветаў, убачыць «вечную кнігу» як крыніцу вобразнасці беларускай літаратуры і яе сапраўднай духоўнасці.

Духоўнаму сталенню асобы, больш глыбокаму ўспрыманню нацыянальных каштоўнасцей і традыцый беларускага народа паспрыяе разгляд жанраў вусна-паэтычнай творчасці і літаратурнай песні, бо песня з’яўляецца багаццем душы чалавека і

яднае народ. Вывучэнне лірычных твораў мае на мэце паглыбіць эстэтычны падыход да ўспрымання паэтычнага слова, адчування яго мілагучнасці, вобразнай яркасці і маляўнічасці на прыкладзе аналізу мастацкіх тропаў.

Празаічныя творы, асабліва вялікія па аб'ёме, вымагаюць папярэдняга самастойнага прачытання. Аднак перад гэтым пажадана звярнуць увагу вучняў на асноўныя моманты зместу і ключавыя пытанні, якія будуць разглядацца ў працэсе аналізу мастацкага тэксту. Вывучэнне аб'ёмных твораў прозы будзе эфектыўным толькі пры ўмове паўторнага чытання іх фрагментаў у класе, аналізу твора з удзелам настаўніка, які ставіць пытанні, прапануе заданні і робіць каментарыі. Празаічныя тэксты даюць магчымасць для больш шырокага ахопу жыццёвых з'яў і маральных праблем, далучаюць юных чытачоў да разумення характараў герояў і матываў іх учынкаў, адносін да іншых людзей, мінулага і сучаснага, прыроды і Радзімы. Вучні спасцігаюць пазіцыю і канцэпцыю аўтара-апавядальніка, яго ацэнкі і погляды на чалавека і свет. На матэрыяле прозы паглыбляюцца навыкі аналізу мастацкага тэксту, вуснага і пісьмовага пераказу, выразнага чытання. Школьнікі назапашваюць першапачатковыя веды пра асаблівасці эпічнага роду і асобных празаічных жанраў.

З улікам падлеткавых чытацкіх прыхільнасцей і ў адпаведнасці з узроставымі і псіхалагічнымі асаблівасцямі шасцікласнікаў у асобны раздзел вылучаны творы фантастычнага зместу, якія развіваюць эмацыянальна-творчыя ўяўленні дзяцей, спрыяюць фарміраванню гуманістычных ідэалаў і маральных перакананняў.

Вывучэнне чалавеказнаўчага зместу мастацкай літаратуры і яе аналіз як мастацтва слова павінны быць падпарадкаваны ***галоўнай задачы*** — абуджэнню цікавасці да чытання, да беларускай кнігі і роднага слова.

**VII клас**. Праграма па беларускай літаратуры ў VII класе скіравана на фарміраванне асобы ва ўсёй яе шматграннасці.

***Мэта*** вывучэння літаратуры на гэтай ступені адукацыі — выхаванне ўдумлівага, дасведчанага чытача, які разбіраецца ў асноўных вартасцях мастацкіх твораў, умее ацэньваць іх змест, інакш кажучы, мае добрае адчуванне і разуменне спецыфікі

літаратуры, багаты чытацкі вопыт, уласны эстэтычны густ.

Вучні, якія пазнаёміліся з разнастайнасцю жанраў і тэматыкі літаратурных твораў, вобразаў, асноўнымі тропамі, працягваюць спасцігаць сутнасць слоўнага мастацтва, спецыфічныя законы яго функцыянавання. У VII класе ўвядзенне ў свет мастацкай літаратуры працягваецца праз параўнальны разгляд двух асноўных відаў (тыпаў) мастацкай творчасці — паэзіі і прозы, а таксама шляхам супастаўлення мастацкіх твораў з творамі публіцыстычнай, навуковай (гістарычнай) літаратуры.

Гэта, аднак, не жанравы падыход. Родава-жанраваму аспекту будзе прысвечана вывучэнне літаратуры ў VIII класе. У VII класе галоўнае — даць уяўленне пра літаратуру як мастацкую з'яву ў сістэме яе сувязей з іншымі відамі мастацтва, праз увагу да майстэрства пісьменніка, яго мастацкага таленту, з боку яе ўнутранай мастацка-эстэтычнай дыферэнцыяцыі (паэзія—проза); нарэшце, праз суадносіны з такімі не мастацкімі, але блізкімі да літаратуры па сваіх чалавеказнаўчых функцыях з'явамі, як публіцыстыка, гуманітарныя навукі (гісторыя).

Праца ў такім кірунку будзе працягвацца і ў наступных класах. Але ўжо ў VII класе ў вучняў павінна быць сфарміравана ўяўленне пра тое, што паэзія — гэта не толькі рытмічная мова, але і мастацкая творчасць, якая абуджае моцныя перажыванні, пачуцці, выклікае асаблівую настроенасць душы пры ўспрыманні з'яў навакольнай рэчаіснасці. Проза ж — гэта слоўна-мастацкая творчасць, якой уласцівы шырокі агляд жыцця, аналіз жыццёвых з'яў у іх канкрэтным і вельмі разнастайным праяўленні; гэты від літаратуры пабуджае да разважанняў, пошуку ўласных адказаў на складаныя пытанні і праблемы.

Літаратурны матэрыял у VII класе падаецца асобнымі цыкламі-блокамі, якія аб'ядноўваюць творы, падобныя па сваіх ідэйна-тэматычных і мастацкіх якасцях, выяўляюць пэўныя спецыфічныя асаблівасці літаратуры. Такі падыход да структуравання матэрыялу ў працэсе навучання дае вучню магчымасць паглыбіцца ў мастацка-эстэтычную атмасферу, атрымаць сістэмнае ўяўленне пра суадносіны жанраў, тэм і г. д.

**VIII клас.** Вывучэнне беларускай літаратуры ў VIII класе завяршае прапедэўтычны курс, які пабудаваны ў цеснай сувязі і пераемнасці з папярэднімі этапамі навучання. Увага вучняў

засяроджваецца на розных спосабах паказу рэчаіснасці і чалавека ў літаратуры, г. зн. на літаратурных родах і адпаведных ім жанрах, жанравых формах з уласцівымі ім вобразна-выяўленчымі асаблівасцямі і сродкамі.

У праграме відавочна павышаюцца патрабаванні да авалодання паэтыкай мастацкага твора. Дзякуючы сістэмнай арганізацыі літаратурнага матэрыялу, мэтанакіраванай падачы яго адпаведнымі блокамі ствараюцца такія дыдактычныя ўмовы і сітуацыі, калі вучань на працягу некалькіх урокаў «пагружаецца» ў пэўную родава-жанравую сістэму і натуральна спасцігае асаблівасці гэтага віду твораў і тыя літаратуразнаўчыя паняцці, якія з імі звязаны. Такі спосаб структуравання зместу забяспечвае дастатковую гатоўнасць вучняў да аналізу мастацкага твора і падводзіць да засваення прадмета ў гісторыка-храналагічным аспекце ў наступных класах.

Праграма ўлічвае індывідуальныя творчыя магчымасці васьмікласнікаў, іх жыццёвы і чытацкі вопыт, агульнае і літаратурнае развіццё. Яна прапануе больш складаныя (у параўнанні з папярэднімі класамі) па змесце і форме творы, замацоўвае і паглыбляе звесткі па тэорыі літаратуры, знаёміць са спецыфікай адлюстравання рэчаіснасці і чалавека ў лірыцы, эпасе і драме, развівае ўвагу да мастацкага слова, выпрацоўвае адпаведную моўную культуру, фарміруе чытацкія інтарэсы і прыярытэты.

Праграмай прадугледжана вывучэнне літаратуры ў суаднесенасці з іншымі відамі мастацтва: музыкай, жывапісам, тэатрам, кіно, тэлебачаннем; гэта спрыяе ўспрыманню літаратуры як мастацтва, фарміраванню каштоўнасных арыентацый вучня.

Чалавеказнаўчы аспект прадмета — пазнанне свету і чалавека праз іх мастацкае адлюстраванне і ўспрыманне, праз маральна-эстэтычную каштоўнасную ацэнку рэчаіснасці — забяспечваецца падборам твораў, якія даюць магчымасць шырокага агляду жыцця, пранікнення ў самыя разнастайныя яго сферы. Параўнальны спосаб прэзентацыі матэрыялу, які прадугледжвае супастаўленне блізкіх або кантрастных па змесце і форме твораў, садзейнічае спасціжэнню галоўных асаблівасцей літаратуры і іншых відаў мастацтва, узмацняе развіццёвую скіраванасць курса.

У васьмікласнікаў мэтанакіравана фарміруюцца эстэтычны падыход да мастацкага твора, свядомыя адносіны да яго ўспрымання і ацэнкі. Эфектыўнасць літаратурнага навучання дасягаецца ў працэсе аналізу зместу і формы, пранікнення ў сутнасць аўтарскай канцэпцыі свету і чалавека, асэнсавання канфлікту, характараў герояў, матываў іх паводзін і ўчынкаў. Выхаваўчае ўздзеянне твора на чытачоў ажыццяўляецца ўсёй яго цэласнай мастацкай прыродай. Этычнае і эстэтычнае разглядаюцца ў гарманічным адзінстве.

Па тэорыі літаратуры вылучаны тэрміны і паняцці, звязаныя з літаратурнымі родамі і жанрамі.

Праграма складаецца з пяці раздзелаў, у кожнага з іх — свае пазнавальныя, дыдактычныя, выхаваўчыя задачы. Параўнальны аналіз твораў, прадстаўленых у першым раздзеле, тэматычна блізкіх, але розных у мастацкіх адносінах (верш, апавяданне, драма), дасць вучням эмпірычнае ўяўленне пра спосабы адлюстравання рэчаіснасці ў лірыцы, эпасе, ліра-эпасе, драме. Наступныя раздзелы дапамогуць усвядоміць асаблівасці кожнага літаратурнага роду, яго фальклорныя вытокі, удасканаліць навыкі аналізу твораў розных жанраў з улікам іх родавай спецыфікі. Вывучэнне лірычных твораў спрыяе паглыбленню эстэтычнага ўспрымання вучняў, абвастрае адчуванне паэтычнага слова, яго яркасці, вобразнасці, мілагучнасці. Эпічныя, ліра-эпічныя і драматычныя творы дапамагаюць спасцігнуць жыццёвыя рэаліі і маральныя праблемы, зразумець характары герояў, матывы іх паводзін і ўчынкаў, усвядоміць аўтарскую пазіцыю пісьменніка, даведацца пра мінулае і сучаснае.

Асноўная ***мэта*** навучання беларускай літаратуры ў **IX—XI класах** — сфарміраваць у вучняў цэласнае ўяўленне пра беларускую літаратуру ад старажытнасці да сучаснасці, дапамагчы асэнсаваць ідэйна-мастацкі змест лепшых твораў беларускага мастацкага слова і паасобных твораў замежных аўтараў у перакладзе на родную мову.

На гэтым этапе навучання ў вучняў інтэнсіўна фарміруецца сістэма каштоўнасных арыентацый, ідэалаў і перакананняў, інтарэсаў і схільнасцей. Таму ў праграму ўключаны творы маральна-этычнай праблематыкі, дзе выяўляюцца канфлікты характараў, ідэй, поглядаў. Мастацкія тэксты размешчаны ў паслядоўнасці, адпаведнай асноўным этапам развіцця літаратуры.

Гісторыка-храналагічны прынцып канструявання зместу літаратурнай адукацыі ў IX—XI класах паспрыяе фарміраванню гістарычнага падыходу да літаратурных з'яў, першапачатковаму разуменню ўзаемасувязей і ўзаемаўплыву ў творчасці розных пісьменнікаў, успрыманню літаратуры як працэсу.

Значным кампанентам зместу літаратурнай адукацыі з'яўляецца сістэма тэарэтыка- і гісторыка-літаратурных паняццяў, звязаных з фарміраваннем уяўленняў аб развіцці і станаўленні мастацтва слова. У працэсе навучання ў IX—XI класах паглыбляюцца веды школьнікаў пра структуру мастацкага твора, літаратурныя роды і жанры ў гістарычным аспекце, даецца ўяўленне пра асаблівасці творчай манеры, стылю пісьменніка. Асэнсаванне тэарэтычных пытанняў паспрыяе больш глыбокаму ўспрыманню літаратуры як мастацтва. У працэсе вывучэння манаграфічных тэм прадугледжана атрыманне школьнікамі крытыка-біяграфічных ведаў пра жыццё і творчасць пісьменнікаў.

У IX—XI класах вядзецца работа па актуалізацыі, паглыбленні і сістэматызацыі ведаў і ўменняў, атрыманых у папярэдніх класах. На гэта скіраваны розныя віды работы з літаратурным матэрыялам. Акрамя традыцыйных формаў урока шырока практыкуюцца семінары, дыспуты, чытацкія канферэнцыі і г. д. Метады навучання ў сваёй сукупнасці спрыяюць праяўленню ўсіх функцый літаратуры: пазнавальнай, выхаваўчай, эстэтычнай, эўрыстычнай, камунікатыўнай, геданістычнай. Накіраванасць методыкі на рэалізацыю толькі адной з іх, напрыклад пазнавальнай, аслабляе ўздзеянне літаратуры на асобу вучня. Агульным патрабаваннем для ўсіх метадаў навучання з'яўляецца зарыентаванасць на эстэтычную сутнасць літаратуры, яе мастацкую спецыфіку. Умелае спалучэнне метадаў навучання з задачамі грамадзянскага, патрыятычнага выхавання робіць працэс спасціжэння ведаў яшчэ больш мэтанакіраваным і выніковым. Назапашванне маральных і эстэтычных уражанняў, наступная іх сістэматызацыя і абагульненне, тэарэтычнае асэнсаванне ўзбагачаюць жыццёвы вопыт вучняў, уплываюць на іх духоўна-інтэлектуальнае сталенне.

Развіццё асобы пры вывучэнні літаратуры адбываецца ў двух асноўных напрамках: развіваюцца здольнасці агульныя

і ўласна мастацкія. Гэты працэс можа быць паспяховым пры ўмове творчай скіраванасці навучання і рэалізацыі спецыяльнай сістэмы аналітычных і творчых заданняў.

Веданне параметраў развіцця асобы дазваляе рэалізаваць дыферэнцыраваны падыход да навучання літаратуры. Каб развіць здольнасці вучняў з аналітычным тыпам мыслення, мэтазгодна часцей даваць ім заданні творчага характару; вучням з развітым эмацыянальным успрыманнем, наадварот, часцей прапаноўваць аналітычныя ці абагульняльныя пытанні. Важна скарэкціраваць першапачатковае суб'ектыўна-індывідуальнае ўспрыманне, каб школьнікі маглі паступова ўзнімацца ад эмпірычнага ўзроўню засваення матэрыялу да канцэптуальнага. Гэтаму спрыяюць заданні на выяўленне аўтарскай пазіцыі ў творы, знаёмства з рознымі інтэрпрэтацыямі і ацэнкамі твораў у крытыцы і інш.

**Навучанне літаратуры і выхаванне літаратурай.** Літаратуры ў сістэме адукацыі і выхавання належыць асаблівая культуратворчая роля: яна здольная пераўтвараць унутраны свет асобы і ўплываць на духоўнае ўзбагачэнне школьнага жыцця, рабіць яго па-сапраўднаму цікавым, змястоўным, насычаным. З гэтай прычыны неабходна імкнуцца ўключыць вучняў у працэс пазакласнай работы і выхавання.

Факультатыўныя заняткі, праца літаратурных гурткоў, сістэматычны выпуск насценных і радыёгазет, бюлетэняў, часопісаў і альбомаў; падрыхтоўка спецыяльных літаратурных стэндаў, тэматычных выставак, аглядаў сучаснай літаратуры, ранішнікаў, вечароў, віктарын, алімпіяд і свят, сустрэч з пісьменнікамі, дзеячамі культуры і мастацтва — усё гэта спрыяе стварэнню ў школе атмасферы творчасці, духоўнасці, павагі да кнігі, да мастацкага слова.

Методыка факультатыўных заняткаў у V—VIII класах скіравана на абуджэнне і фарміраванне цікавасці, захопленасці мастацтвам, на выхаванне мастацкага густу і развіццё творчых здольнасцей, асабліва літаратурных. Тут выкарыстоўваюцца розныя віды чытання, праблемныя пытанні і заданні, міні-даследаванні, гульнёвыя сітуацыі: узнаўленне працэсу нараджэння казкі, народнай песні, падарожжа ў свет казак, экскурсіі па памятных літаратурных мясцінах, прайграванне роляў рэжысёраў, акцёраў, ілюстратараў кніг і г. д.

Факультатыўныя заняткі і літаратурныя гурткі ў IX—XI класах могуць быць скіраваны на пашырэнне і паглыбленне асноўнага курса, прысвечаны найбольш значным з'явам літаратурнага працэсу, праблеме «індывідуальнасць пісьменніка і літаратурны працэс», узаемадзеянню літаратуры і іншых відаў мастацтва, тэарэтычным праблемам (стылі і жанры літаратуры, мастацкі напрамак і інш.), адной з літаратур народаў свету і інш.

Паглыбленню і пашырэнню сувязей літаратурнай адукацыі з духоўнай культурай народа, выхаванню нацыянальнай самасвядомасці вучняў спрыяе выкарыстанне літаратурнага і фальклорна-паэтычнага матэрыялу ў пазакласнай рабоце: стварэнне літаратурна-музычных кампазіцый, прысвечаных традыцыйным народным святам, развіццё розных напрамкаў літаратурна-краязнаўчай дзейнасці.

Пастаянна дзеючыя формы пазакласнай работы: літаратурныя гасцёўні, гурткі, клубы, літаратурныя і краязнаўчыя музеі, школьныя мастацкія галерэі — усё гэта таксама павінна быць максімальна выкарыстана для ўмацавання сувязей школьнікаў з мастацтвам, развіцця іх інтарэсаў і творчых схільнасцей.

Важную ролю ў далучэнні вучняў да мастацкай культуры мае афармленне школы, кабінетаў, класаў, холаў, вестыбюля, рэкрэацый. «Куткі казак», «храмы роднага слова», галерэі партрэтаў пісьменнікаў, этнаграфічныя музеі робяць школу вельмі інфарматыўнай, прыцягальнай для вучняў. Эфектыўнасць літаратурнай адукацыі, эстэтычнага выхавання вучняў залежыць ад стварэння ў школе культу кнігі, культу роднага слова.

* * *

На вывучэнне літаратуры ў V—VI класах адведзена па 70 гадзін (з іх адпаведна 62 гадзіны — на вывучэнне і абмеркаванне твораў, 4 гадзіны — на творчыя работы, 4 гадзіны — на ўрокі пазакласнага чытання).

Курсы беларускай літаратуры ў VII—VIII класах разлічаны на 53 гадзіны (з іх 45 гадзін — на вывучэнне і абмеркаванне твораў, 4 гадзіны — на творчыя работы, 4 гадзіны — на ўрокі пазакласнага чытання).

На вывучэнне літаратуры ў IX—XI класах таксама адводзіцца па 53 гадзіны (з іх 49 гадзін — на вывучэнне і абмеркаванне твораў, 4 гадзіны — на творчыя работы). Праграмай для гэтых класаў не прадугледжаны гадзіны на ўрокі пазакласнага чытання, але настаўнік рэгулярна цікавіцца самастойным чытаннем вучняў і можа, па-свойму пераразмеркаваўшы вучэбную нагрузку, правесці на працягу навучальнага года некалькі ўрокаў пазакласнага чытання па абраных творах.

Прапанаваныя праграмай анатацыі да аглядавых і манаграфічных тэм маюць арыентацыйны характар: у іх акрэсліваецца кола праблем, ключавыя моманты, на якія мэтазгодна звярнуць увагу пры вывучэнні і абмеркаванні твораў. Настаўнік засяроджвае ўвагу на асобных пазіцыях, найбольш актуальных у канкрэтных класах.

Са спіса твораў, прапанаваных для самастойнага ці пазакласнага чытання, настаўнік выбірае тыя, выкарыстанне якіх ён лічыць больш дарэчным на пэўным уроку, улічваючы індывідуальныя магчымасці вучняў і наяўнасць тэкстаў у бібліятэчным фондзе.

Гадзіны, адведзеныя на творчыя работы, настаўнік размяркоўвае ў адпаведнасці з уласным каляндарным планам.

## V КЛАС

**(70 гадзін)**

**Уводзіны** (1 гадзіна)

Падарожжа па Краіне літаратуры. Тэматычная, змястоўная разнастайнасць фальклорных і літаратурных твораў. Пазнавальнае, выхаваўчае і эстэтычнае значэнне літаратуры.

**І. РОДНАЕ СЛОВА** (4 гадзіны)

● **Для чытання і вывучэння**

**Пятрусь Броўка. «Калі ласка».** Родная мова — крыніца натхнення пісьменніка. Эмацыянальнасць выказвання. Мастацкая дасканаласць паэтычных вобразаў, інтанацыйнае багацце верша. Раскрыццё характара беларуса. Заклапочанасць паэта лёсам роднай мовы.

**Уладзімір Караткевіч. «Бацькаўшчына».** Гонар паэта за сваю радзіму, захапленне яе краявідамі. Мастацкае адлюстраванне прыроднага наваколля ў вершы. Глыбокі лірызм, шчырасць і непасрэднасць у перадачы пачуццяў паэта. Вобразнасць, эмацыянальная насычанасць мовы.

**Анатоль Грачанікаў. «Дрымотна ціснуцца кусты...».** Паэтызацыя роднай прыроды ў творы. Выяўленне трывогі, душэўнага ўзрушэння паэта на фоне гарманічнага быцця прыроды. Роля аўтарскага звароту да роднага краю. Сумленне, воля, незалежнасць, самабытнасць як галоўныя чалавечыя каштоўнасці. Асаблівасці будовы верша.

■ **Для чытання і абмеркавання**[1]

*А. Грачанікаў.* «Мова», *Я. Крупенька.* «Ёсць у кожнага з нас...», *Я. Янішчыц.* «Мова».

***Мастацтва***[2]. Ж ы в а п і с: *В. Цвірка.* «Мая Радзіма», «Заслаўе»; *М. Ісаёнак.* «Песня аб маёй зямлі»; *І. Пушкоў.* «Вясна на Нёмане»; *А. Казлоўскі.* «Зялёны май»; *М. Рагалевіч.* «Сімфонія вясны»; *В. Бялыніцкі-Біруля.* «Лотаць зацвіла»; *В. Бяляўскі.* «Беларускі краявід» і інш.

## **ІІ. ВУСНАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ** (11 гадзін)

### Народныя казкі

● **Для чытання і вывучэння**

**«Разумная дачка».** Займальнасць казачнага сюжэта. Выяўленне народнай кемлівасці, дасціпнасці, спрыту і розуму ў вобразе дачкі бедняка. Вобразы мужыка, пана, багацея і яго жонкі. Індывідуалізацыя мовы персанажаў. Дыялог як сродак характарыстыкі пана і дзяўчынкі-сямігодкі. Роля фантазіі і выдумкі, характар канфлікту, адметнасці вобразнай сістэмы і стылю бытавой казкі. Гумар у творы.

**«Залаты птах».** Сцвярджэнне высокіх маральных каштоўнасцей: працавітасці, смеласці, дабрыні і спагадлівасці. Супрацьстаянне дабра і зла як пастаянны матыў народнай казкі. Вобраз галоўнага героя. Мастацкая гіпербала як сродак характарыстыкі персанажа.

**«Музыкі».** Характарыстыка казачных герояў — асла, сабакі, ката і пеўня. Сіла адданага, вернага сяброўства ў пераадоленні жыццёвых нягод. Займальнасць казачнага сюжэта. Адметнасць казкі пра жывёл.

---

[1] Тут і далей творы ў рубрыцы «Для чытання і абмеркавання» прапануюцца на выбар настаўніка.

[2] Разгляд твораў рубрыкі «Мастацтва» адбываецца на выбар настаўніка і ў першую чаргу з апорай на вядомае. Яны выкарыстоўваюцца ў якасці ілюстрацыйнага матэрыялу, дадатковыя гадзіны на авалоданне імі не патрабуюцца.

■ **Для чытання і абмеркавання**

Беларускія народныя казкі «Як Сцёпка з панам гаварыў», «Залатая яблынька»; руская народная казка «Воўк і сабака».

### Легенды

● **Для чытання і вывучэння**

**«Нарач».** Гісторыя паходжання возера. Еднасць чалавека і прыроды. Фантастычнае і чароўнае ў легендзе пра Найрыту. Паэтызацыя прыгажосці, душэўнай чысціні, вернасці ў каханні. Маральная перавага Найрыты над панам. Лаканічнасць і мастацкая выразнасць мовы.

■ **Для чытання і абмеркавання**

Легенды «Пестунь», «Лазовы куст».

***Мастацтва.*** Беларускія легенды, казкі ў творах мастакоў *А. Александровіча, А. Навіцкага, Ю. Зайцава, В. Валынца, У. Гладкевіча* і інш.; мультфільмы, тэатральныя, тэле- і радыёспектаклі па легендах, казках.

### Загадкі

Паэтычнае асэнсаванне свету ў загадках.

Дасціпнасць і мудрасць беларускіх загадак, іх тэматычнае багацце. Роля загадкі ў выхаванні кемлівасці, знаходлівасці. Будова, іншасказальны характар, лаканізм загадак.

### Прыказкі

Увасабленне ў прыказках вопыту і мудрасці народа. Разнастайнасць тэматыкі, сцісласць і выразнасць, пераносны сэнс прыказак. Лаканізм, трапнасць і дакладнасць мовы. Прыказкі як своеасаблівыя мастацкія творы.

### Прыкметы і павер'і

Спасціжэнне чалавекам навакольнага свету і ўсведамленне свайго месца ў ім. Дарадчая, перасцерагальная, забаронная функцыі прыкмет і павер'яў, іх скіраванасць на паляпшэнне дабрабыту працоўнага чалавека. Афарыстычнасць, трапнасць народных прыкмет. Блізкасць прыкмет і павер'яў да іншых фальклорных жанраў (загадак, казак, легенд, прыказак).

***Тэорыя літаратуры.*** Народная казка. Віды казак (пра жывёл, чарадзейныя, бытавыя). Легенды, іх асаблівасці. Загадкі. Прыказкі. Прыкметы і павер'і.

## III. ЛІТАРАТУРНЫЯ КАЗКІ І ЛЕГЕНДЫ (10 гадзін)

● **Для чытання і вывучэння**

**Максім Танк. «Ля вогнішч начлежных»** (урывак з паэмы **«Нарач»).** Мастацкае пераасэнсаванне легенды пра ўтварэнне возера Нарач. Выкарыстанне ў творы фальклорных матываў і сюжэтаў. Паэтызацыя вернасці і кахання. Вобразы Галі і Васіля. Драматызм і напружанасць сюжэта. Сродкі мастацкай выразнасці ў творы.

**Якуб Колас. «Крыніца».** Алегарычны змест і патрыятычны пафас казкі. Характарыстыка крыніцы праз яе адносіны да родных мясцін. Усведамленне гарой сваёй адказнасці перад будучыняй. Аўтар-апавядальнік у творы. Сувязь паэтыкі казкі з вуснай народнай творчасцю.

**Уладзімір Караткевіч. «Нямоглы бацька».** Фальклорная аснова твора. Гуманістычны пафас казкі. Шанаванне мудрасці і вопыту бацькоў, выхаванне ўдзячнасці, павагі, уважлівасці і міласэрнасці да іх. Адносіны аўтара да герояў і падзей.

**Георгій Марчук. «Чужое багацце».** Сюжэт казкі, яго займальнасць. Маральна-этычныя праблемы твора. Сродкі мастацкага выяўлення.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*П. Сіняўскі.* «Зачараваная гаспадарка»; *А. Федарэнка.* «Падслуханая казка».

***Тэорыя літаратуры.*** Літаратурная казка, яе блізкасць да народнай казкі. Легенда ў літаратуры, падабенства да народных легенды і падання і іх адрозненне.

## IV. ВЫРАЗНАСЦЬ МАСТАЦКАГА СЛОВА (9 гадзін)

● **Для чытання і вывучэння**

**Максім Багдановіч. «Зімой».** Паэтычны малюнак зімовага вечара. Непасрэднасць, вастрыня паэтычнага света-

ўспрымання. Фальклорна-рамантычны каларыт карцін прыроды, іх эмацыянальная выразнасць. Вобразна-выяўленчыя сродкі. Гукавая інструментоўка верша.

**Я к у б  К о л а с. «Песня ляснога жаваранка»** (урывак з трылогіі **«На ростанях»**). Майстэрства пісьменніка ў перадачы колеравай і гукавой гамы навакольнага свету. Замілаванасць хараством прыроды, захапленне цудоўнай песняй ляснога жаваранка, перададзеных праз арыгінальныя эпітэты, метафары, параўнанні. Вобразнасць, выразнасць і пластычнасць мовы.

**Я к у б  К о л а с. «На рэчцы»** (урывак з паэмы **«Новая зямля»**). Паэтызацыя зімовага пейзажу. Выяўленне паўнаты і радасці жыцця праз вобразны і інтанацыйны лад верша. Адухоўленасць карціны прыроды. Мастацкая выразнасць мовы.

**У л а д з і м і р  К а р а т к е в і ч. «Лісце».** Суладнасць пачуццяў паэта і прыроды, адчуванне духоўнага адзінства з зямлёй. Паэтычная адухоўленасць з'яў прыроды. Майстэрства аўтара ў стварэнні вобраза восені, тонкасць паэтычнага светаадчування. Эмацыянальная пранікнёнасць, цеплыня, задушэўнасць выказвання, даверлівасць інтанацыі. Захапленне хараством восені, перададзенае праз шматлікія тропы, напеўны рытм верша.

**А н а т о л ь  Г р а ч а н і к а ў. «Верасень»**. Паэтычнае адухаўленне прыроды ў вершы. Майстэрства паэта ў стварэнні вобраза восені, арыгінальнасць паэтычнага светаадчування, шчырасць пачуццяў. Эмацыянальная пранікнёнасць, цеплыня, задушэўнасць выказвання, даверлівасць інтанацый.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*П. Броўка.* «Кропля»; *А. Грачанікаў.* «Зоры спяваюць», «Як ападае ліст...», *А. Астрэйка.* «Над ракой».

***Тэорыя літаратуры.*** Сродкі мастацкай выразнасці ў літаратурным творы. Эпітэт, параўнанне.

***Мастацтва.*** Ж ы в а п і с: *В. Бялыніцкі-Біруля.* «Восень», «Лес задрамаў», «Аголеныя бярозкі»; *В. Ціханаў.* «Восеньскі матыў»; *У. Сулкоўскі.* «Бервянец. Восень»; *А. Бараноўскі.* «Восень на Прыпяці»; *Ф. Рушчыц.* «Зімовая казка»; *В. Цвірка.* «Беларускі пейзаж» і інш.

## V. ЛІТАРАТУРНЫ ТВОР — СКЛАДАНАЕ І НЕПАДЗЕЛЬНАЕ МАСТАЦКАЕ АДЗІНСТВА (22 гадзіны)

● **Для чытання і вывучэння**

**Якуб Колас. «Дарэктар»** (урывак з паэмы **«Новая зямля»**). Паэтычнае асэнсаванне штодзённага жыцця сялянскіх дзяцей. Прырода і дзеці, іх дапытлівасць, назіральнасць. Аўтарскі гумар у паказе паводзін хлопчыкаў. Рытмічны малюнак, вобразна-выяўленчыя сродкі (адмоўныя паралелізмы, эпітэты, параўнанні).

**Алесь Гарун. «Датрымаў характар».** Майстэрства пісьменніка ў абмалёўцы вобразаў хлопчыкаў-братоў Зюка і Вінцуся. Раскрыццё характараў герояў праз дыялог, рэплікі, аўтарскія рэмаркі. Гумар у п’есе.

**Міхась Лынькоў. «Васількі».** Трагедыя Міколкі і яго родных. Аўтарскі боль па загубленым маленстве. Кантраснасць і эмацыянальная сугучнасць карцін прыроды і настрою хлопчыка. Прыёмы абмалёўкі характараў Міколкі і дзеда Нупрэя. Драматызм, напружанасць сюжэта. Роля заключнага эпізоду ў раскрыцці тэмы. Пейзаж у творы. Лірычнасць апавядання.

**Рыгор Барадулін. «Бацьку».** Роздум паэта пра лёс бацькі, трагедыю дзяцей — ахвяр вайны. Спалучэнне ў вершы глыбокага лірызму з патрыятычным пафасам.

**Сяргей Грахоўскі. «Мама».** Лірычная споведзь паэта. Запозненае ўсведамленне ўласнай віны з-за таго, што не заўсёды пяшчотна і ўважліва ставіўся да маці. Глыбіня пачуццяў, шчырасць і даверлівасць інтанацый. Апавядальнасць верша.

**Анатоль Кудравец. «Цітаўкі».** Маральна-этычныя праблемы ў творы. Узаемаадносіны дзяцей з вартаўніком Агеем. Прыёмы псіхалагічнай абмалёўкі характараў. Уплыў дзеда Агея на маральнае сталенне Кастуся. Сюжэт апавядання.

**Генрых Далідовіч. «Страта».** Рэальная аснова апавядання. Трагічны лёс Міці Бокуця. Чуласць, міласэрнасць, спачуванне Стасіка ў адносінах да хворага сябра. Майстэрства пісьменніка ў абмалёўцы характараў хлопчыкаў, псіхалагізм у раскрыцці перажыванняў Стасіка. Адметнасці будовы апавядання. Аўтар-апавядальнік у творы.

**Максім Лужанін. «Добры хлопец Дзік».** Рэальная аснова твора. Гісторыя Дзіка. Майстэрства пісьменніка ў стварэнні вобраза сабакі, узаемаадносіны Дзіка з Гаспадаром, іншымі персанажамі аповесці. Сродкі раскрыцця характараў герояў твора. Асоба аўтара-апавядальніка. Адметнасць будовы аповесці.

**Уладзімір Караткевіч. «Былі ў мяне мядзведзі».** Выяўленне духоўнай шчодрасці чалавека ў клопаце аб прыродзе. Гісторыя Бурыка, яе значэнне ў раскрыцці ідэі апавядання. Паяднанасць жыцця людзей з жыццём прыроды. Пластычнасць вобразаў. Асоба аўтара-апавядальніка ў творы.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*Якуб Колас.* «У старых дубах»; *В. Зуёнак.* «Прыйдзі аднойчы...»; *Х. Лялько.* «Касцы».

***Тэорыя літаратуры.*** Тэма, сюжэт мастацкага твора. Эпізод у творы. Літаратурны герой, сродкі яго паказу — перажыванні, учынкі, партрэт, мова, мастацкія дэталі, пейзаж, аўтарская характарыстыка (пачатковыя паняцці).

***Мастацтва.*** Жывапіс: *У. Зінкевіч.* «Шчасце мірнага дня»; *С. Гарачаў.* «Дзяцінства»; *М. Селяшчук.* «А раптам гэта ўзнікне перад табой?»; *М. Савіцкі.* «Дзеці вайны», «Партызаны. Блакада» і інш.

## VI. ПРЫГОДЫ І ПАДАРОЖЖЫ (5 гадзін)

● **Для чытання і вывучэння**

**Міхась Лынькоў. «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў».** Прыгодніцкі характар аповесці. Займальнасць сюжэта. Роля гумарыстычных элементаў у выяўленні аўтарскіх адносін да байцоў і іх любімцаў: Мішкі, Жука, Барадатага. Кампазіцыя аповесці.

Усяго: на вывучэнне твораў — 62 гадзіны;
на творчыя работы — 4 гадзіны;
на ўрокі пазакласнага чытання — 4 гадзіны.

### Рэкамендацыйны спіс твораў для завучвання на памяць

*М. Багдановіч.* «Зімой».

*Якуб Колас.* «На рэчцы» (з паэмы «Новая зямля») — урывак на выбар настаўніка.

*Р. Барадулін.* «Бацьку».

*М. Лынькоў.* «Васількі» (пачатак апавядання да слоў: «Над купчастай імшарынай...») ці «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў» (пачатак раздзела «Як Мішка трапіў на вайсковую службу» да слоў: «І Мішка стараўся»).

## Прыкладны спіс твораў для пазакласнага чытання[1]

«Ветразі: кніга для пазакласнага чытання ў 5 кл.» ШБ (уклад. Л. Цітова).

«Сіняя птушка: кніга для чытання» (уклад. Л. Цітова).

*В. Адамчык.* «Сонечны зайчык», «Маці».

*Х. К. Андэрсен.* «Казкі».

*У. Арлоў.* «Адкуль наш род».

Беларускія народныя казкі.

«Бяздоннае багацце: легенды, паданні, сказы» (уклад. А. Гурскі).

*Я. Брыль.* «Цюцік».

*Э. Валасевіч.* «Дняпроўскі чарадзей».

*Браты Грым.* «Казкі».

*А. Грачанікаў.* «Казка пра Івана-ганчара і пачвару цара».

*А. Дзятлаў.* «Зарок».

*У. Дубоўка.* «Як сінячок да сонца лётаў».

*А. Жук.* «Мужчыны».

*Д. Зальтэн.* «Бэмбі».

*М. Зарэмба.* «Паддаўкі», «Арэхавы Спас».

*П. Кавалёў.* «Спытай сябе, Аніска».

*Карусь Каганец.* «Скрыпач і ваўкі».

*У. Караткевіч.* «Чортаў скарб», «Кацёл з каменьчыкамі».

*Д. Р. Кіплінг.* «Маўглі».

*Якуб Колас.* «Што яны страцілі», «Стары лес».

*А. Ліндгрэн.* «Браты Львінае Сэрца».

*М. Лупсякоў.* «Дняпроўская чайка».

*М. Лынькоў.* «Міколка-паравоз».

*А. Масла.* «Таямніцы закінутай хаты».

«Прыстань ваўкалакаў: чарадзейныя казкі» (уклад. А. Гурскі).

*Э. Распэ.* «Прыгоды барона Мюнхаўзена».

*А. Федарэнка.* «Шчарбаты талер».

*А. Якімовіч.* «Рыжык», «Залатая дзіда»,

---

[1] Тут і далей творы, прапанаваныя для пазакласнага чытання, даюцца на выбар.

## АСНОЎНЫЯ ВІДЫ РАБОТ ПА ЛІТАРАТУРЫ Ў V КЛАСЕ

Беглае чытанне ўголас знаёмага тэксту. Выразнае чытанне мастацкіх твораў, прадугледжаных праграмай.

Складанне плана апавядальнага твора ці ўрыўка з яго.

Вусны пераказ (сціслы, выбарачны, падрабязны) невялікага апавядальнага твора або ўрыўка з яго; вуснае сачыненне з элементамі апісання і разважання па вывучаным творы: разгорнуты адказ на пытанне з элементамі характарыстыкі літаратурнага героя.

Вусны водгук на самастойна прачытаны літаратурны твор, на твор выяўленчага мастацтва, кінафільм або тэлеперадачу. Вуснае сачыненне-апавяданне на аснове асабістых назіранняў і ўражанняў пра падзеі і з'явы жыцця.

## АСНОЎНЫЯ ПАТРАБАВАННІ ДА ВЕДАЎ, УМЕННЯЎ І ЛІТАРАТУРНАГА РАЗВІЦЦЯ ВУЧНЯЎ V КЛАСА

Вучні павінны в е д а ц ь:

аўтараў, назвы і змест вывучаных твораў;

адметныя жанравыя ўласцівасці народных і літаратурных легенд, казак, загадак, прыказак, прыкмет, павер'яў;

выяўленчыя сродкі мастацкай выразнасці мовы; творы для завучвання на памяць.

Вучні павінны ў м е ц ь:

выразна, у патрэбным тэмпе чытаць уголас літаратурныя творы, выяўляючы аўтарскую пазіцыю і свае адносіны да адлюстраванага;

узнаўляць мастацкія карціны, створаныя пісьменнікам;

самастойна дзяліць твор на часткі;

складаць план невялікага апавядальнага твора ці ўрыўка з яго;

сцісла, выбарачна або падрабязна вусна пераказваць невялікі апавядальны твор ці ўрывак з яго;

вылучаць эпізоды ці дэталі, важныя для характарыстыкі дзеючых асоб; знаходзіць сувязь паміж падзеямі ў вывучаным творы;

знаходзіць выяўленчыя сродкі мовы і з дапамогай настаўніка вызначаць іх ролю ў стварэнні вобраза, раскрыцці тэмы твора;

характарызаваць героя мастацкага твора па яго ўчынках, паводзінах, перажываннях;

рыхтаваць вусныя сачыненні з элементамі апісання і разважання (разгорнуты адказ, адказ на пытанне і паведамленне пра героя), апісваць свае ўражанні і назіранні пра падзеі і з’явы жыцця;

даваць вусны водгук на самастойна прачытаны літаратурны твор і на творы іншых відаў мастацтва, выказваючы свае адносіны да герояў і падзей;

карыстацца даведачным апаратам падручніка.

## VI КЛАС

### (70 гадзін)

### **Уводзіны. Кніга адкрывае свет** (1 гадзіна)

Кніга — мудры спадарожнік і дарадца чалавека. Пазнаваўчае багацце кніг і іх вялікі чалавеказнаўчы змест. Літаратура як люстэрка мінулага і сучаснасці.

### **І. МОЙ РОД. РОДНАЯ ЗЯМЛЯ. НАРОД** (5 гадзін)

● **Для чытання і вывучэння**

**Уладзімір Ліпскі. «Ад роду — да народу» (**з кнігі **«Я»).** Радавод — гісторыя сям’і і роду, якая сведчыць пра паходжанне чалавека, пераемнасць розных пакаленняў людзей. Уяўленне пра радаводнае дрэва. Гісторыя краіны ў лёсе кожнай сям’і. Памяць аб продках — аснова годнай будучыні беларускага народа.

**Алесь Пісьмянкоў. «Продкі».** Уславўленне паэтам моцы, мужнасці і працавітасці продкаў, іх песеннай душы. Асноўная думка твора: памяць пра радаводныя карані, вопыт папярэднікаў — духоўны грунт чалавека і крыніца яго аптымізму. Эмацыянальнасць мовы.

**Пятрусь Броўка. «Зямля Беларусі»** (урывак з паэмы **«Беларусь»).** Родная зямля — вялікі духоўны скарб. Успры-

манне паэтам бацькоўскага краю як адзінага і непаўторнага. Выяўленне патрыятычных пачуццяў праз паэтызацыю прыроды. Услаўленне беларускай зямлі, яе мінулага і велічы. Эмацыянальна-выяўленчая роля асноўных мастацкіх сродкаў у творы.

**Уладзімір Караткевіч. «Лебядзіны скіт».** Легенда пра паходжанне назвы «Белая Русь». Сутыкненне дабра і зла. Увасабленне ў вобразе старца лепшых чалавечых якасцей — адданасці свайму народу, гатоўнасці прыняць смерць дзеля яго выратавання. Маральная перамога старца над Батыем. Роля вобраза Юсуфі ў раскрыцці ідэі. Патрыятычнае гучанне твора.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*Е. Лось.* «Продкі»; *Ю. Свірка.* «Верны крэўнаму брацтву»; *Г. Бураўкін.* «Я хачу прайсці па зямлі...»; *Л. Якубовіч.* «О, Беларусь! Старонка дарагая...»; *Л. Тарасюк.* «Імя Айчыны».

***Мастацтва.*** Жывапіс: «Мая зямля: Жывапіс беларускіх мастакоў»: альбом.

Фотамастацтва: *Г. Ліхтаровіч.* «Добры дзень, Беларусь»: альбом.

## II. ФАЛЬКЛОР І ЛІТАРАТУРА (12 гадзін)

### Міфы

Узнікненне вобразнага мастацкага слова. Паэтычнае асэнсаванне жыцця ў вуснай народнай творчасці. Беларускія міфы пра Сварога, Перуна, Дажбога, Ярылу, Жыжаля, Вялеса, вадзянікоў, лесавікоў, дамавікоў, ваўкалакаў, ліхаманак і інш. Міфы як этап культурнага развіцця народа. Пераход міфалагічных вобразаў і матываў у павер'і, легенды, літаратурныя творы.

● **Для чытання і вывучэння**

**Янка Купала. «Як у казцы...».** Аповед пра светапогляд, характары і звычкі, лад жыцця продкаў сучасных беларусаў, іх веру, маральныя каштоўнасці. Міфалагічныя матывы ў творы. Лаканічнасць і мастацкая выразнасць мовы.

**Я н  Б а р ш ч э ў с к і. «Вужыная карона».** Міфалагічная аснова твора. Узаемасувязь і ўзаемазалежнасць чалавека і прыроды. Лёс лоўчага Сямёна. Фантастычнае і чароўнае ў апавяданні.

**М а к с і м  Б а г д а н о в і ч. «Вадзянік».** Паэтычнае апісанне вадзяніка як аднаго з герояў міфалогіі. Адухоўленасць паэтычнага светаўспрымання, меладычнасць гучання твора. Жывапіснасць вобразаў і карцін прыроды.

**Я к у б  К о л а с. «Жывая вада».** Сувязь апавядання з народнай казкай. Алегарычна-філасофскі змест твора, яго патрыятычны пафас. Адказнасць кожнага чалавека за лёс роднай зямлі. Вобразны лад апавядання. Роля пейзажу ў раскрыцці асноўнай думкі твора.

■ **Для чытання і абмеркавання**

Фальклорныя легенды «Дамавік ездзіць на конях», «Палешукі і палевікі»; *К. Камейша.* «Камень ля вёскі Камень».

### Беларуская песня

● **Для чытання і вывучэння**

**«Прыехала Каляда на белым кані...», «А на Купалу рана сонца іграла...».** Увасабленне ў народных песнях мар і спадзяванняў народа, паэтызацыя яго побыту. Выяўленне поглядаў на свет, прыроду і чалавека, міфалагічныя матывы ў народных песнях. Еднасць чалавека і прыроды. Глыбокі лірызм, напеўнасць, меладычнасць народных песень.

**«Каля месяца, каля яснага...».** Сувязь сямейна-абрадавых песень з асноўнымі этапамі жыццёвага шляху чалавека — нараджэннем, шлюбам і смерцю. Мэта песень — абараніць чалавека ад усяго злога і шкоднага, спрыяць шчасліваму жыццю. Паэтычная ідэалізацыя — асноўны мастацкі прыём абрадавых песень. Велічанне і заклінанне як неад'емныя элементы абрадавай паэзіі.

■ **Для чытання і абмеркавання**

Народныя песні «Вы, калядачкі, бліны-ладачкі...», «Благаславі, маці, вясну заклікаці...», «Добра жаць — шырокая ніўка...», «Рэчанька».

● **Для чытання і вывучэння**

**А л е с ь  С т а в е р. «Жураўлі на Палессе ляцяць»** як адна з песенных візітак Беларусі. Патрыятычны пафас твора. Апяванне непаўторнай красы роднай зямлі. Радаснае пачуццё еднасці з радзімай, яе прыродай і дарагімі сэрцу краявідамі. Усхваляванасць і пранікнёнасць радкоў верша, іх мілагучнасць і ўзнёсласць гучання.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*Г. Бураўкін.* «Малітва»; *А. Бачыла.* «Радзіма мая дарагая»; *В. Лукша.* «Радзіма».

***Тэорыя літаратуры.*** Агульнае паняцце пра міф. Беларускія народныя песні, іх віды і жанравае багацце. Мастацкія прыёмы і сродкі: алегорыя, вобразы-сімвалы, звароты, паўторы, эпітэты, параўнанні, памяншальна-ласкальныя словы (пачатковыя паняцці). Літаратурная песня.

***Мастацтва.*** М у з ы к а: творы *І. Лучанка* ў выкананні ансамбля «Песняры»: кампакт-дыск; «Лепшае»: кампакт-дыск (гурт «Палац»); «Ой, у лузе, лузе...»: кампакт-дыск (гурт «Ліцвіны»); «Троіца»: кампакт-дыск (этнагурт «Троіца»).

## III. БІБЛІЯ (4 гадзіны)

● **Для чытання і вывучэння**

**Біблейскія аповеды «Стварэнне свету», «Прытча пра блуднага сына».** Маральны і выхаваўчы змест Бібліі. Вобразы ў біблейскіх творах, іх шырокая вядомасць. Характэрныя спосабы паказу герояў і людзей.

**Ф р а н ц ы с к  С к а р ы н а. «Біблія»** (урывак з прадмовы ў паэтычным узнаўленні А. Разанава). Біблія — найвыдатнейшы старажытны помнік сусветнай культуры, крыніца звестак пра светапогляд, рэлігійныя ўяўленні, мараль, жыццё і побыт людзей мінулых часоў. Ф. Скарына як беларускі першадрукар біблейскіх кніг. Яго думкі пра Біблію, яе змест і прызначэнне. Клопат Ф. Скарыны пра жыццё людзей, іх добрыя ўчынкі, сумленныя паводзіны і прыгажосць душы. Мастацкая яркасць вобразаў.

**«Цар Ірад».** Звесткі пра батлейку — беларускі народны лялечны тэатр. Шырокая папулярнасць тэатра ў народзе. Рэлі-

гійныя і свецкія сюжэты батлейкі, разнастайнасць рэпертуару. Персанажы батлейкі. Песня, танец, дыялог, маналог — асноўныя кампаненты спектакля. Біблейская аснова п'есы. Адвольная інтэрпрэтацыя біблейскага вобраза цара Ірада, яго сатырычная абмалёўка. Іншыя персанажы драмы — рэальныя і фантастычныя.

■ **Для чытання і абмеркавання**

Біблейскае казанне «Патоп. Ной будуе каўчэг»; *Якуб Колас*. «Не дай Божа сэрцам зікнуць...»; *Максім Танк*. «Божа мой шчодрасці...».

***Мастацтва***. Ж ы в а п і с: Біблія ў ілюстрацыях *Г. Дарэ*; біблейскія сюжэты ў жывапісе *Мікеланджэла, Рэмбранта, Рафаэля, А. Іванова*; «Іканапіс Беларусі XV—XVIII стагоддзяў»: альбом (склад. Н. Ф. Высоцкая); *Я. Драздовіч*. «Скарына»; *В. Бялыніцкі-Біруля*. «Блакітная капліца».

## IV. МАСТАЦКАЕ СЛОВА: ВОБРАЗНАСЦЬ, ВЫРАЗНАСЦЬ, ХАРАСТВО (8 гадзін)

● **Для чытання і вывучэння**

**З м і т р о к  Б я д у л я. «Зямля».** Паэтызацыя роднай зямлі і крэўнай еднасці з ёю. Вобразнасць пейзажнага малюнка, яскравасць аўтарскай мовы. Мастацкая роля ў тэксце эпітэтаў, параўнанняў, метафар.

**П а ў л ю к  Т р у с. «Падаюць сняжынкі...»** (урывак з паэмы **«Дзесяты падмурак»**). Хараство зімовага пейзажу. Выяўленне аўтарскіх пачуццяў у творы. Мілагучнасць мовы. Яркасць выяўленчых сродкаў (метафар, эпітэтаў).

**Р ы г о р  Б а р а д у л і н. «Уцякала зіма ад вясны».** Казачна-адухоўлены свет верша. Арыгінальнасць паэтычнай вобразнасці. Роля ўвасабленняў і метафар у стварэнні запамінальнай карціны вясновай прыроды.

**Я н к а  Б р ы л ь. «Над зямлёй — красавіцкае неба...».** Маляўнічасць вясновага пейзажу. Багацце тропаў у тэксце, іх роля ў выяўленні хараства навакольнага свету.

**А н а т о л ь  В я л ю г і н. «Спелы бор».** Успрыманне паэтам бору як велічнага храма прыроды. Адметнасць паэтычнай вобразнасці, заснаванай на адухаўленні прыроды, яркіх асацыяцыях. Музычнае гучанне верша.

**І в а н  М е л е ж. «Першы іней»** (урывак з рамана **«Подых навальніцы»**). Яркасць і вобразнасць пейзажнага малюнка ранняй восені. Вастрыня ўражанняў, маляўнічасць і эмацыянальная вобразнасць мовы аўтара. Выяўленчая роля эпітэтаў, увасабленняў, метафар.

**А л я к с е й  К о р ш а к. «Кляновы ліст».** Выяўленне хараства і непаўторнасці навакольнай восеньскай прыроды, яе вобразаў, пахаў, фарбаў. Вобраз кляновага лістка як увасабленне восеньскай красы і нязгаснасці чалавечай памяці. Роля мастацкіх тропаў у творы. Шчырасць і прачуласць аўтарскай інтанацыі. Напеўнасць верша.

**І в а н  Г р а м о в і ч. «Воблакі».** Захапленне незвычайнай прыгажосцю воблакаў, іх колерам, рухам па небе. Выяўленне багатай аўтарскай фантазіі. Эмацыянальная афарбаванасць апавядання. Разнастайнасць выяўленчых сродкаў у творы.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*Д. Бічэль.* «Бяроза»; *А. Пысін.* «Не адчувае лес зямлі...».

***Тэорыя літаратуры.*** Выяўленчыя сродкі мастацкай выразнасці мовы. Эпітэт, параўнанне (паглыбленне паняццяў). Метафара, увасабленне (пачатковыя паняцці).

***Мастацтва.*** Ж ы в а п і с: *Ф. Рушыц.* «Вясна»; *В. Бялыніцкі-Біруля.* «Зімовы сон», «Веснавы дзень»; *У. Кудрэвіч.* «Раніца вясны»; *П. Крахалёў.* «Блакітная вясна»; *П. Масленікаў.* «Зацвіло жыта»; *Ф. Дарашэвіч.* «У пойме ракі Бярэзіны»; *С. Каткоў.* «Хутар Альбуць»; *І. Карасёў.* «Залатая восень»; *В. Цвірка.* «Верасень»; *А. Бараноўскі.* «Воблакі плывуць над зямлёй роднай».

Ф о т а м а с т а ц т в а: *В. Алешка.* «Пакланіся прыродзе»: альбом; *С. Плыткевіч.* «Спатканне з лесам»: альбом; «Мая Беларусь»: альбом.

## V. ЛІТАРАТУРА ЯК ЧАЛАВЕКАЗНАЎСТВА (8 гадзін)

● **Для чытання і вывучэння**

**А л е н а  В а с і л е в і ч. «Сябры».** Маральна-этычная праблема твора. Узаемаадносіны Лёні і Грышы. Хвароба Лёні як вынік легкадумнага ўчынку сябра. Прыёмы псіхалагічнай абмалёўкі характараў. Сюжэт і кампазіцыя апавядання. Аўтар-апавядальнік у творы.

**Кузьма Чорны. «Насцечка».** Бацькі і дзеці: праблемы гуманнасці, высакароднасці, сумленнасці. Пісьменнік як знаўца чалавечай душы і псіхалогіі: тонкая назіральнасць, увага да жыццёвых падрабязнасцей, унутранага стану герояў, раскрыццё матываў іх учынкаў і паводзін. Вобраз Насцечкі — галоўнай гераіні аповесці. Характарыстыка Сержа праз канкрэтныя выразныя дэталі. Тэма мінулага ў аповесці як сродак раскрыцця характараў герояў старэйшага пакалення. Адметнасць будовы твора.

■ **Для чытання і абмеркавання**
*І. Мележ.* «Здарэнне».

***Тэорыя літаратуры.*** Апавяданне і аповесць.

### VI. ТЭМЫ І ВОБРАЗЫ МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ (20 гадзін)

#### Гістарычная тэма *(5 гадзін)*

● **Для чытання і вывучэння**
**Уладзімір Бутрамееў. «Славутая дачка Полацкай зямлі».** Жыццё Рагнеды, яе прыгажосць і пачуццё годнасці. Сутыкненне яе свабодалюбівай натуры з эгаізмам і злом. Спалучанасць лёсу Рагнеды з гісторыяй роднай зямлі.

**Сяргей Тарасаў. «Еўфрасіння Полацкая».** Мастацкае ўвасабленне ў творы вобраза Еўфрасінні. Усведамленне ёю ў малалецтве свайго прызначэння, сэнсу жыцця. Раскрыццё пісьменнікам падзвіжніцкай дзейнасці Еўфрасінні Полацкай — самаадданай, руплівай асветніцы беларускай зямлі.

■ **Для чытання і абмеркавання**
*Лявон Случанін.* «Рагнеда» (урывак); *С. Тарасаў.* «Фрэскі»; *Г. Сянкевіч.* «Незабыўная старонка славянскай мінуўшчыны» (урыўкі з рамана «Крыжакі»).

#### Ваенная тэма *(6 гадзін)*

● **Для чытання і вывучэння**
**Мікола Сурначоў. «У стоптаным жыце».** Словы пра лёс паэта, які загінуў на вайне. Час напісання верша (1941 г., Заходні фронт), трагізм яго гучання. Сэнс назвы твора. Паэ-

тызацыя вобраза салдата як старажытнага волата-віцязя, які аддаў жыццё за Радзіму.

**А л я к с е й  П ы с і н. «Проня».** Вобраз зняволенай беларускай ракі, якой чужынцы ўчыняюць допыт. Адухаўленне ракі, наданне ёй гераічных рыс характару чалавека: вольналюбства, смеласці, мужнасці. Рака як алегарычнае (іншасказальнае) увасабленне народа і няскоранасці яго духу. Роля дыялога ў стварэнні яе вобраза.

**В я ч а с л а ў  А д а м ч ы к. «Салодкія яблыкі».** Рэальная аснова твора. Вайна праз прызму дзіцячага ўспрымання. Заўчаснае сталенне хлопчыкаў, іх беды і клопаты, дзіцячыя забавы. Сумленнасць і праўдзівасць Тоніка, абвостранае адчуванне ім уласнай віны ў гібелі Арсенікавага бацькі. Адносіны аўтара да герояў і падзей. Кампазіцыя апавядання.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*А. Вярцінскі.* «Два полі».

### Экалагічная тэма *(7 гадзін)*

● **Для чытання і вывучэння**

**П і м е н  П а н ч а н к а. «Сармацкае кадзіла».** Прырода — вечная і хвалюючая тэма мастацтва. Паэтызацыя аўтарам багацця і разнастайнасці флоры. Трывожны роздум аб прыродзе, знявечанай чалавекам. Запозненае раскаянне чалавека ў сваіх учынках, страце адказнасці за лёс усяго жывога на зямлі. Ідэя твора: занядбанне і спусташэнне прыроды — непазбежнае збядненне свету і чалавечай душы. Апавядальнасць інтанацыі.

**І в а н  П т а ш н і к а ў. «Алені».** Гуманістычны пафас твора. Майстэрства пісьменніка ў стварэнні яркіх, маляўнічых карцін прыроды, псіхалагічная глыбіня ў абмалёўцы аленя Рагатага. Вобраз дзяўчынкі Іркі. Напружанасць у развіцці сюжэта. Фінал апавядання як праява чалавечай хціваcці і жорсткасці. Лірычнасць твора.

**А л е с ь  Ж у к. «Стары бабёр»** (урывак з аповесці **«Паляванне на Апошняга Жураўля»**). Непаўторны свет прыроды, якая жыве па сваіх законах. Эмацыянальная афарбаванасць твора, адухоўленасць аўтарскіх апісанняў прыроды. Вобраз старога бабра, яго трывога за лёс бабрынай сям'і. Тэма ўзаема-

адносін чалавека і прыроды. Багацце сродкаў мастацкага выяўлення.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*Янка Маўр.* «Багіра»; *П. Панчанка.* «Вясёлай маланкаю ластаўка бліскае...».

**Алегарычныя і сатырычныя вобразы** *(2 гадзіны)*

● **Для чытання і вывучэння**

**Я к у б  К о л а с. «Конь і сабака».** Сюжэт байкі, яе алегарычны змест. Вобразы пазбаўленага волі каня і нахабнага, агрэсіўнага сабакі Рудзькі. Выкрыццё ўяўнай смеласці і дужасці. Мараль байкі.

**У л а д з і м і р  К о р б а н. «Малпін жарт».** Арыгінальнасць сюжэта байкі. Асуджэнне ў творы людзей, якія распальваюць звадкі ды сваркі і адчуваюць пры гэтым радасць.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*Алесь Звонак.* «Гарбуз»; *М. Скрыпка.* «Свіння і Баран»; *Я. Брыль.* «Ветэрынар».

***Тэорыя літаратуры.*** Тэма мастацкага твора (паглыбленне паняцця), ідэя мастацкага твора, літаратурны вобраз (пачатковае паняцце). Кампазіцыя мастацкага твора (пачатковае паняцце). Літаратурны герой (паглыбленне паняцця). Аўтар-апавядальнік у творы. Байка.

***Мастацтва.*** Ж ы в а п і с: *А. Сцяпанаў.* «Цугам»; *М. Савіцкі.* «Поле»; *В. Бялыніцкі-Біруля.* «Зноў зацвіла вясна»; *В. Юркоў.* «Апошнія яблыкі»; *Ф. Янушкевіч.* «Рагнедзін лёс. Сцяна памяці».

## **VII. ФАНТАСТЫКА** (4 гадзіны)

● **Для чытання і вывучэння**

**Р а і с а  Б а р а в і к о в а. «Гальштучнік»** (урывак з **«Аповесці чатырох падарожжаў»**). Фантастычныя падзеі як аснова сюжэта твора, яго займальнасць. Наведванне астранаўтамі невядомай Зялёнай планеты, сустрэча з яе жыхарамі. Незвычайны падарунак, які атрымаў доктар Савіч ад гуманоідаў, рэзкія перамены ў яго паводзінах. Жыццё Савіча пасля між-

планетнай вандроўкі. Неверагоднае, чароўнае пераўвасабленне на Зямлі загадкавай істоты ў птушку з чорнай палосачкай-гальштукам. Новая экспедыцыя да сузор'я Дзевы.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*Р. Баравікова.* «Стужка ордэнская» (з кнігі «Казкі астранаўта»); *Д. Шулцэ.* «Роберцік».

***Мастацтва.*** Ж ы в а п і с: *Я. Драздовіч.* «Космас», «Фантастычны замак»; цыклы «Жыццё на Марсе», «Жыццё на Месяцы», «Жыццё на Сатурне»; *Г. Вашчанка.* «Подых стагоддзя».

У с я г о: на вывучэнне твораў — 62 гадзіны;
на творчыя работы — 4 гадзіны;
на ўрокі пазакласнага чытання — 4 гадзіны.

### Рэкамендацыйны спіс твораў для завучвання на памяць

*А. Пісьмянкоў.* «Продкі».

*А. Ставер.* «Жураўлі на Палессе ляцяць».

*П. Трус.* «Падаюць сняжынкі...» (урывак з паэмы «Дзесяты падмурак»).

*Р. Барадулін.* «Уцякала зіма ад вясны» або *А. Вялюгін.* «Спелы бор».

*М. Сурначоў.* «У стоптаным жыце» або *А. Пысін.* «Проня».

### Прыкладны спіс твораў для пазакласнага чытання

*Я. Брыль.* «Маці», «Жук».

*У. Бутрамееў.* «Вялікія і славутыя людзі беларускай зямлі».

*А. Бутэвіч.* «У гасцях у вечнасці».

*Васіль Вітка.* «Трывога ў Ельнічах».

*Віталь Вольскі.* «Падарожжа па краіне беларусаў».

*А. Вялюгін.* «Дзіва».

*Г. Далідовіч.* «Цыганскія песні».

Зб. «Жаўранкі над палямі» (уклад. А. Бадак).

*М. Зарэмба.* «Дзень магнітнай буры».

*В. Карамазаў.* «Падранак».

*Якуб Колас.* «На чужым грунце», «Сірата Юрка», «Чортаў камень», «Купальскія светлякі».

*Янка Маўр.* «У краіне райскай птушкі: аповесці, апавяданні».

*П. Місько.* «Эрпіды на планеце Зямля».

*І. Навуменка.* «Вайна каля Цітавай копанкі».
*Янка Нёманскі.* «Рамэо і Джульета на Беларусі».
Зб. «Ніколі не забудзем».
*А. Пальчэўскі.* «Рэкс і Казбек».
*У. Паўлаў.* Зб. «На зямлі Суомі».
*І. Пташнікаў.* «Арчыбал».
*Л. Рублеўская.* «Янук, рыцар Мятлушкі».
*А. Савіцкі.* «Радасці і нягоды залацістага карасіка Бубліка».
*Б. Сачанка.* «Зерне і млын», «Карчоўнік».
*В. Стома.* Зб. «У нерушы дзікай прыроды».
*Р. Стывенсан.* «Востраў скарбаў».
*М. Сцюарт.* «Людвік і зорны конь».
*І. Сяркоў.* «Мы з Санькам у тыле ворага».
*А. Федарэнка.* «Афганская шкатулка».
*Дж. Фінемар.* «Сказ пра Робіна Гуда».
*М. Чарняўскі.* «Вогнепаклоннікі», «Страла расамахі».
*У. Шыцік.* «Зорны камень», «Настаўнік».
*А. Якімовіч.* «Эльдарада просіць дапамогі».

## АСНОЎНЫЯ ВІДЫ РАБОТ ПА ЛІТАРАТУРЫ Ў VI КЛАСЕ

Беглае, удумлівае чытанне артыкулаў падручніка.

Выразнае, асэнсаванае чытанне літаратурных твораў розных жанраў.

Выразнае мастацкае чытанне паэтычных твораў і ўрыўкаў з празаічных тэкстаў, прадугледжаных для завучвання на памяць.

Вусны пераказ апавядальнага твора ці ўрыўкаў з яго з элементамі разважання; выбарачны пераказ лёсу літаратурнага героя і яго партрэтная характарыстыка.

Расказванне народных паданняў і міфаў.

Складанне плана характарыстыкі літаратурнага героя.

Вуснае сачыненне з выкарыстаннем апісанняў прыроды.

Інсцэніраванне байкі.

## АСНОЎНЫЯ ПАТРАБАВАННІ ДА ВЕДАЎ, УМЕННЯЎ І ЛІТАРАТУРНАГА РАЗВІЦЦЯ ВУЧНЯЎ VI КЛАСА

Вучні павінны в е д а ц ь:

аўтараў, назвы і сэнс назваў вывучаных і самастойна прачытаных твораў;

асноўныя тэмы праграмных твораў;

змест апавядальных твораў; настраёвасць і рух паэтычнага пачуцця ў лірычных творах;

герояў вывучаных твораў і асаблівасці іх характару; учынкі і ўзаемаадносіны персанажаў;

адметныя жанравыя асаблівасці народнай і літаратурнай песні, байкі, апавядання і аповесці; сутнасць міфа і міфічных вобразаў у літаратуры;

выяўленчыя сродкі мастацкай выразнасці мовы;

тэксты на памяць, рэкамендаваныя для завучвання праграмай;

асноўныя тэарэтычныя паняцці, якія вывучаліся на працягу года.

Вучні павінны ў м е ц ь:

выразна і ў дастаткова хуткім тэмпе чытаць апавядальныя творы і артыкулы з падручніка;

чытаць паэтычны тэкст з захаваннем адпаведнай інтанацыі, рытмічных паўз; вызначаць настраёвасць верша;

узнаўляць мастацкія карціны, якія створаны пісьменнікам;

вылучаць у літаратурных творах і вучэбных артыкулах лагічна закончаныя часткі;

пераказваць (падрабязна, выбарачна, сцісла і творча) невялікі апавядальны твор ці ўрывак з яго;

вызначаць тэму прачытанага твора і вылучаць галоўнае з твора, а таксама з лёсу аднаго героя;

характарызаваць героя літаратурнага твора па яго ўчынках, паводзінах, перажываннях, на падставе створанага аўтарам партрэта, у святле пастаўленага настаўнікам праблемнага пытання;

параўноўваць двух герояў у адным творы;

выяўляць погляд аўтара-апавядальніка на падзеі і герояў твора;

даваць вусны водгук на самастойна прачытаны твор, знаходзячы аргументы ў тэксце, а таксама з дапамогай фактаў уласнага вопыту і прыкладаў з навакольнага жыцця;

захоўваць лагічную паслядоўнасць і прычынна-выніковую сувязь пры пераказе твора;

складаць план невялікага празаічнага твора і план характарыстыкі героя мастацкага твора;

рыхтаваць тэзісы вуснага выказвання пра твор ці пра свае адносіны да адлюстраванага ў творы;

знаходзіць выяўленчыя сродкі мовы (эпітэт, параўнанне, метафару, увасабленне) і тлумачыць іх мастацкую ролю ў тэксце;

рыхтаваць вуснае сачыненне-разважанне (адказ на пытанне і паведамленне пра героя) з выкарыстаннем сваіх назіранняў і ўражанняў пра падзеі і з'явы жыцця;

карыстацца даведачным апаратам падручніка.

# VII КЛАС

## (53 гадзіны)

### І. ЛІТАРАТУРА — МАСТАЦТВА СЛОВА (5 гадзін)

Мастацтва ў жыцці народа. Літаратура сярод іншых відаў мастацтва. Талент у мастацтве. Вобраз мастака (музыкі) у беларускіх літаратурных творах. Вобразы дудкі, жалейкі, скрыпкі, гусляў як сімвалічнае ўвасабленне мастацтва, паэзіі.

● **Для чытання і вывучэння**

**Якуб Колас. «У яго быў свет цікавы...»** (урывак з паэмы **«Сымон-музыка»**). Незвычайна адораная натура хлопчыка. Сымонка — прыроджаны паэт. Выключная ўражлівасць, тонкае адчуванне хараства навакольнага свету, яго гукаў і фарбаў, паэтычнае адухаўленне прыроды.

**Янка Купала. «Курган».** Тэма мастацтва і мастака. Вобраз гусляра як выразніка народнага светапогляду, неадольнага імкнення народа да справядлівасці, свабоднага жыцця.

Князь як увасабленне зла. Сутыкненне духоўнасці, маральнасці, гуманізму з бездухоўнасцю, эгаізмам і бесчалавечнасцю — галоўны канфлікт твора. Маральная перамога гусляра над князем. Рамантычны характар сюжэта, вобразаў паэмы, асаблівасці кампазіцыі. Сувязь твора з фальклорам.

***Тэорыя літаратуры***. Мастацтва ў жыцці народа. Талент у мастацтве. Віды мастацтва. Літаратура — мастацтва слова. Паэма як жанр (пачатковае паняцце).

■ **Для чытання і абмеркавання**

*М. Багдановіч.* «Музыка».

***Мастацтва.*** М у з ы к а: *І. Лучанок.* Кантата «Курган» (паводле паэмы Янкі Купалы); *В. Іваноў.* Музычная паэма «Сымон-музыка» (для аркестра беларускіх народных інструментаў); *Л. Шлег.* Сімфанічная паэма «Сымон-музыка».

Ж ы в а п і с: *А. Цыркуноў.* «Гусляр»; *Х. Ліўшыц.* «Музыка».

## II. ВЕРШАВАНЫЯ І ПРАЗАІЧНЫЯ МАСТАЦКІЯ ТВОРЫ
(4 гадзіны)

● **Для чытання і вывучэння**

**Я к у б К о л а с. «Ручэй».** Вобраз ручая ў вершы. Эмацыянальная выразнасць твора, паэтычная адухоўленасць вобраза ручая і карцін наваколля. Замілаванне прыгажосцю роднай прыроды, перададзенае праз шматлікія яркія эпітэты, метафары. Рытмічнасць мовы верша.

**В а с і л ь Б ы к а ў. «Незагойная рана».** Драматычны змест твора. Нясцерпная туга старой Тэклі па сыне, які не прыйшоў з вайны. Шматбаковае падрабязнае апісанне жыцця і побыту жанчыны-маці, яе знешняга аблічча (партрэт), паводзін, цяжкіх перажыванняў. Роля ўспамінаў, сну аб вяртанні Васілька з вайны, эпізадычных персанажаў (калгаснага пісьманосца, суседкі Ульянкі, хлопца на малатарні), пейзажных замалёвак у раскрыцці драматызму становішча старой жанчыны, якая страціла сына. Псіхалагічнае майстэрства В. Быкава ў паказе абставін і характараў.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*Т. Хадкевіч.* «Крынічка»; *В. Зуёнак.* «З вайны сустрэлі мацяркі сыноў…».

***Тэорыя літаратуры.*** Пейзаж і яго роля ў мастацкім творы. Асаблівасці паэтычных і празаічных твораў. Рытм і рыфма (пачатковыя паняцці).

***Мастацтва.*** М у з ы к а: песня *М. Чуркіна* «Ручэй» на тэкст верша Якуба Коласа; песні «Нашы маці» *Ю. Семянякі*

(на словы А. Бачылы), *Я. Глебава* «За бацькамі — сыны» (на словы П. Макаля).

Ж ы в а п і с: *М. Залозны.* «Салдаткі».

## III. ПАЭЗІЯ. РАЗНАСТАЙНАСЦЬ ІДЭЙНА-ЭСТЭТЫЧНАГА ПАФАСУ ПАЭТЫЧНЫХ ТВОРАЎ (9 гадзін)

● **Для чытання і вывучэння**

**В і к т а р Ш н і п. «Паэзія»** або **Л е а н і д Г а л у б о в і ч. «Паэзія».** Абагульненне ў вершах розных бакоў жыцця: светлых мар і гераічных здзяйсненняў, вялікіх надзей і горкіх расчараванняў. Параўнанні-азначэнні як сродак раскрыцця зместу і ідэйнага сэнсу вершаў.

**М а к с і м Б а г д а н о в і ч. «Маёвая песня» («Па-над белым пухам вішняў...»).** Майстэрства М. Багдановіча ў перадачы шматколернасці навакольнага свету, тонкіх адценняў яго гукавой гамы. Зрокавыя і слыхавыя асацыяцыі ў вершы. Роля эпітэтаў, метафар, гукапісу. Вершаваны памер і рытмічныя асаблівасці твора.

**Д а н у т а Б і ч э л ь. «Роднае слова».** Прызнанне ў любові да роднага краю, роднай мовы праз паэтычныя звароты, метафарычныя тропы, эпітэты. Роля адухаўленняў і ўвасабленняў у стварэнні вобраза Радзімы.

**Р ы г о р Б а р а д у л і н. «Мы — беларусы...» («Мы больш сваёй ахвярнасцю вядомы...»).** Роздум паэта пра свой народ, яго самаахвярнасць, сціпласць, гасціннасць і разам з тым гатоўнасць пастаяць за сябе, за сваю Айчыну.

**А н а т о л ь В я р ц і н с к і. «Рэквіем па кожным чацвёртым».** Трагічны пафас твора. Урачыста-жалобнае гучанне верша, сувязь яго паэтыкі з народнымі галашэннямі. Паэтычныя фігуры: рытарычныя пытанні, воклічы, паўторы, рэфрэны, напружанасць і перарывістасць інтанацыі, — асноўныя сродкі раскрыцця тэмы. Запавет жывым — галоўная ідэя твора.

**Н і л Г і л е в і ч. «Маці»** або **В а с і л ь З у ё н а к. «Я са шляхоў далёкіх...».** Разгорнутае паэтычнае прызнанне ў любові да маці. Форма ўспамінаў, задушэўнасць размовы, звернутай да маці, у першым вершы. Двухпланавасць будовы другога верша: вясёлая гуллівасць настрою і інтанацыі ў выяў-

ленні адносін да бацькі, сястрычкі, сыноў і сцішаны, нешматслоўны, але вельмі змястоўны і хвалюючы зварот да маці.

**Я к у б К о л а с. «Дзядзька-кухар»** (урывак з паэмы **«Новая зямля»**). Майстэрства паэта ў абмалёўцы характару дзядзькі Антося, выяўленне яго душэўнай дабрыні, чуласці, вынаходлівасці, педагагічнага таленту. Камічнасць сітуацый як аснова гумару. Народнасць мовы.

***Выразнае чытанне.*** Выразнае чытанне паэтычных твораў. Перадача іх зместу пры дапамозе розных спосабаў: маўлення, інтанацыі, лагічных націскаў, паўз, мімікі і інш.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*С. Гаўрусёў.* «Хлеб-соль»; *А. Лойка.* «Радзіме»; *С. Законнікаў.* «Хатынь».

***Тэорыя літаратуры.*** Паэзія як асаблівы від мастацкай літаратуры. Роля рытму ў паэтычных творах. Гукапіс. Вершаскладанне. Віды стопаў і памераў у вершах. Двухскладовыя і трохскладовыя стопы (пачатковыя паняцці). Падтэкст у паэтычных творах.

***Мастацтва.*** М у з ы к а: *Д. Кабалеўскі.* «Рэквіем»; *Г. Вагнер.* Сімфанічная паэма «Вечна жывыя»; *А. Шыбнёў.* «Людзі, памятайце Хатынь!»; *У. Міхайлоўскі.* «Хатынскі набат».

Ж ы в а п і с: *Г. Бржазоўскі.* «Лён»; *Ф. Жураўкоў.* «Лён»; *І. Давідовіч.* «Вершы».

## IV. АДЛЮСТРАВАННЕ ЖЫЦЦЯ Ў ПРАЗАІЧНЫХ ТВОРАХ
(15 гадзін)

● **Для чытання і вывучэння**

**З м і т р о к Б я д у л я. «На Каляды к сыну».** Бацькі і дзеці: праблемы маральнасці, гуманнасці, вернасці свайму народу. Сацыяльны змест калізіі. Псіхалагізм апавядання, майстэрства пісьменніка ў раскрыцці думак і перажыванняў старой Тэклі. Характарыстыка сына Тэклі Лаўрука праз канкрэтныя выразныя дэталі. Роля пейзажу ў творы.

***Тэорыя літаратуры.*** Мастацкая дэталь і яе роля ў празаічных творах.

**Я н к а  Б р ы л ь. «Сірочы хлеб».** Жыццё народа ў былой Заходняй Беларусі. Майстэрства пісьменніка ў раскрыцці духоўнага росту і маральнага сталення галоўнага героя Даніка Мальца. Іншыя вобразы аповесці (настаўніца пані Мар'я, Мікола Кужалевіч, пан Цаба). Лірызм аповесці; гумар, іронія ў творы. Выразнасць апісанняў вясковага побыту, дыялогі, характэрныя дэталі ў творы.

***Тэорыя літаратуры.*** Аповед, апісанне, дыялог як спосабы раскрыцця зместу ў апавядальных творах. Віды апісанняў: інтэр'ер, пейзаж, партрэт.

**І в а н  Н а в у м е н к а. «Жуль Верн».** Рамантыка пазнання жыцця і свету — галоўны пафас твора. Захопленасць школьнікаў-падлеткаў марамі пра незвычайныя падарожжы і адкрыцці, увасобленая ў вобразах героя-апавядальніка і яго сябра Андрэя Камінскага. Супрацьпастаўленне ім абыякавага да навукі Кірыла. Вобразы настаўніка-географа Антона Антонавіча і пісьменніка-фантаста Жуля Верна. Гумар у апавяданні.

**М і к о л а  Л у п с я к о ў. «Мэры Кэт».** Асаблівасці адлюстравання жыцця ў творы: характарыстыка герояў, паказ іх узаемаадносін, нараджэння першага інтымнага пачуцця, якое адкрывае «радасную прыгажосць жыцця». Мяккі гумар, лірызм, адзнакі лёгкай іроніі ў апавяданні. Паэтычная выразнасць мовы.

***Тэорыя літаратуры.*** Проза як асаблівы тып мастацкай літаратурнай творчасці. Роля фантазіі пісьменніка.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*І. Навуменка.* «Настаўнік чарчэння»; *А. Васілевіч.* «Горкі ліпавы мёд»»; *Янка Маўр.* «Палескія рабінзоны» (выбраныя раздзелы).

***Мастацтва.*** Ж ы в а п і с: *М. Казакевіч.* «Юнацтва»; *С. Гарачаў.* «Дзяцінства»; *Б. Кузняцоў.* «Дзеці».

## V. ПАЭЗІЯ Ў ПРОЗЕ І ПРОЗА Ў ПАЭЗІІ (3 гадзіны)

● **Для чытання і вывучэння**

**Я к у б  К о л а с. «Думкі ў дарозе»** або **З м і т р о к  Б я д у л я. «Шчасце не ў золаце».** Абвостранае эмацыянаqль-

нае ўспрыманне жыцця. Рытмічнасць мовы, якая выяўляецца ў шматлікіх паўторах, клічных і пытальных зваротах. Іншыя асаблівасці, якія збліжаюць празаічную мову з паэтычнай.

**М а к с і м Т а н к. «Дрэвы паміраюць».** Паэзія ў формах свабодна арганізаванай мовы. Элементы рытмічнасці ў свабодным вершы. Схільнасць свабоднага верша да філасофскага зместу, нечаканых асацыяцый: аб жыцці і смерці, аб вечным імкненні чалавека да пазнання свету і яго пераўтварэння, паэтызацыя інтымных пачуццяў і перажыванняў. Лаканічнасць. Падтэкст.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*А. Разанаў.* «У парку»; *Я. Сіпакоў.* «Спяць у снарадах...».

***Тэорыя літаратуры.*** Паэтычная (лірычная) проза. Свабодны верш.

***Мастацтва.*** Ж ы в а п і с: *В. Васільеў.* «Дарогі»; *М. Басалыга.* Ілюстрацыі да зборнікаў Максіма Танка; *Б. Звінагродскі.* «Сож. Вялікая вада», «Пойма ракі Бярэзіны».

## VI. МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА І НАВУКА
(9 гадзін)

● **Для чытання і вывучэння**

**Ц ё т к а. «Шануйце роднае слова».** Патрыятычны пафас артыкула, заклапочанасць лёсам роднай культуры. Прыёмы і сродкі ўздзеяння на пачуцці і думкі чытача ў публіцыстычным творы: лагічныя довады і эмацыянальныя звароты, заклікі да актыўнай дзейнасці ў падтрымку роднай культуры.

**У л а д з і м і р К а р а т к е в і ч. «Зямля пад белымі крыламі».** Цыкл мастацкіх нарысаў пра Беларусь, яе гісторыю, прыроду, культурныя традыцыі народа. Патрыятычная ідэя ў нарысах. Роля гумарыстычных, іранічных элементаў у выяўленні аўтарскіх адносін да асобных жыццёвых з'яў. Назіральнасць пісьменніка. Дакументальнасць жыццёвага матэрыялу. Сувязь твора з этнаграфічнай навукай. Сродкі мастацкага паказу жыцця ў нарысах. Публіцыстыка як разнавіднасць прозы.

**Л е а н і д Д а й н е к а. «Меч князя Вячкі»** (пяты раздзел — скарочана). Вобразы князя Вячкі і яго дружыннікаў.

Іх ворагі — крыжакі. Прыгодніцкія элементы ў сюжэце. Батальныя карціны. Роля фантазіі пісьменніка ў стварэнні карцін мінулага.

**У л а д з і м і р  К а р а т к е в і ч. «Балада пра Вячка, князя людзей простых».** Паэтычнае ўвасабленне вобраза Вячкі як героя-патрыёта, змагара супраць ворагаў Радзімы — крыжакоў. Мужнасць, адвага героя, яго непрымірымасць да захопнікаў, рашучасць змагацца нават у безвыходнай сітуацыі. Эмацыянальная напружанасць аповеду, багацце гіпербалічных тропаў. Гераічны пафас твора. Асаблівасці навуковай літаратуры.

**■ Для чытання і абмеркавання**

*Я. Пархута.* «Апошні гусляр» або іншыя нарысы (на выбар настаўніка); «З мячом і крыжам» (з падручніка гісторыі).

***Тэорыя літаратуры.*** Публіцыстыка як від літаратуры. Адрозненне мастацкага адлюстравання жыцця ад навуковага. Нарыс як жанр. Балада як жанр.

***Мастацтва.*** Ж ы в а п і с: *Г. Вашчанка.* «Мацярынскія крылы»; *У. Старчакоў.* «Зноў на радзіму»; *Н. Шчасная.* «У гэта веру».

Г р а в ю р ы: *Ф. Бразоўскі.* «Гара Міндоўга ў Навагрудку», «Руіны замка крыжакоў на месцы полацкай крэпасці Кукенойс» (гравюры XIX ст.); *Я. Матэйка.* «Грунвальдская бітва».

У с я г о: на вывучэнне твораў — 45 гадзін;
на творчыя работы — 4 гадзіны;
на ўрокі пазакласнага чытання — 4 гадзіны.

## Рэкамендацыйны спіс твораў для завучвання на памяць

*Янка Купала.* «Курган» (любы раздзел на выбар вучняў).

*Якуб Колас.* «Ручэй».

*М. Багдановіч.* «Маёвая песня» («Па-над белым пухам вішняў...»).

*Р. Барадулін.* «Мы — беларусы...» («Мы больш сваёй ахвярнасцю вядомы...»).

*Д. Бічэль.* «Роднае слова».

*У. Караткевіч.* «Зямля пад белымі крыламі» (урывак).

### Прыкладны спіс твораў для пазакласнага чытання

«Вытокі. Хрэстаматыя для пазакласнага чытання ў 6 класе». ШБ (уклад. М. Лазарук, Т. Логінава, А. Сігаева).

*В. Адамчык.* «Урок арыфметыкі».

*У. Аляхновіч.* «Першае каханне».

*А. Аляшкевіч.* «Век Вадаліва».

*Р. Баравікова.* «Казкі астранаўта».

*В. Быкаў.* «Альпійская балада».

*А. Васілевіч.* «Пачакай, затрымайся...».

*Ж. Верн.* «Таямнічы востраў».

*В. Гардзей.* «Аселіца ў басейне Чорнага мора», «Шалапут на гаспадарцы».

*Л. Дайнека.* «Чалавек з брыльянтавым сэрцам».

*У. Дамашэвіч.* «Абуджэнне».

*А. Камароўскі.* «Бусел».

*У. Караткевіч.* «Кніганошы», «Сівая легенда».

*А. Кобец-Філімонава.* «Жаваранкі над Хатынню».

*А. Конан-Дойл.* «Запіскі Шэрлака Холмса».

*У. Ліпскі.* «Мы».

*Дж. Лондан.* «Белы клык».

*А. Марціновіч.* «Гістарычныя постаці».

*А. Наварыч.* «Антонік».

*І. Навуменка.* «Новая хата», «Дзяцінства», «Пераломны ўзрост».

*І. Пташнікаў.* «Ільвы».

*Я. Сіпакоў.* «Зялёны лісток на планеце Зямля».

*Л. Рублеўская.* «Сэрца мармуровага анёла».

*В. Хомчанка.* «Звон пад зямлёй».

*У. Шыцік.* «Кіб загаварыў апоўначы».

*У. Ягоўдзік.* «Аповесць пра князёўну Рагнеду».

## АСНОЎНЫЯ ВІДЫ РАБОТ ПА ЛІТАРАТУРЫ Ў VII КЛАСЕ

Беглае чытанне ўголас мастацкіх, навукова-папулярных і публіцыстычных тэкстаў. Выразнае чытанне мастацкіх твораў ці ўрыўкаў з іх, у тым ліку вывучаных на памяць.

Складанне плана эпічнага твора ці ўрыўка з эпічнага твора.

Вусны і пісьмовы пераказ (выбарачны, падрабязны і творчы) празаічнага твора ці ўрыўка з празаічнага твора. Вуснае сачыненне-разважанне па вывучаным творы: разгорнуты адказ на пытанне, характарыстыка літаратурных герояў.

Інсцэніраванне мастацкіх твораў.

Вусны водгук на самастойна прачытаны твор, на твор выяўленчага мастацтва, прагледжаны кінафільм, тэлеперадачу (з матывацыяй сваіх адносін да герояў і падзей). Вуснае сачыненне-апавяданне на аснове асабістых назіранняў, уражанняў, разважанняў пра розныя з'явы жыцця.

## АСНОЎНЫЯ ПАТРАБАВАННІ ДА ВЕДАЎ, УМЕННЯЎ І ЛІТАРАТУРНАГА РАЗВІЦЦЯ ВУЧНЯЎ VII КЛАСА

Вучні павінны в е д а ц ь:

аўтараў, назвы і змест праграмных твораў;

сюжэт апавядальных твораў, учынкі і ўзаемаадносіны персанажаў;

асаблівасці паэтычных і празаічных твораў, вершаванай і празаічнай мовы;

асаблівасці публіцыстычных твораў і іх адрозненне ад мастацкіх твораў;

адрозненне мастацкага адлюстравання жыцця ад навуковага;

творы, прапанаваныя для завучвання на памяць.

Вучні павінны ў м е ц ь:

правільна і ў дастаткова хуткім тэмпе чытаць уголас мастацкія, навукова-папулярныя і публіцыстычныя тэксты;

супастаўляць блізкія па тэме творы розных мастацкіх сістэм (паэзіі, прозы) і вызначаць іх асаблівасці ў паказе жыцця;

сцісла, выбарачна або падрабязна пераказваць (вусна або пісьмова) невялікі апавядальны твор ці ўрывак з яго;

вылучаць эпізоды або дэталі, важныя для характарыстыкі дзеючых асоб, устанаўліваць прычынна-выніковую сувязь паміж падзеямі і паводзінамі герояў;

характарызаваць героя літаратурнага твора па яго ўчынках, паводзінах, перажываннях;

знаходзіць у тэксце выяўленчыя сродкі мовы такіх спосабаў і прыёмаў раскрыцця зместу, як аповед, апісанне, партрэт, пейзаж, дыялог, і вызначаць іх ролю ў стварэнні вобраза, раскрыцці тэмы твора;

складаць план празаічнага твора або асобных яго раздзелаў;

рыхтаваць вуснае сачыненне-разважанне (разгорнуты адказ на пытанне і паведамленне пра героя); апісанне сваіх жыццёвых уражанняў, роздумаў пра розныя з'явы жыцця;

даць водгук (вусна) на самастойна прачытаны літаратурны твор (выказванне сваіх адносін да герояў, падзей).

# VIII КЛАС

## (53 гадзіны)

### **Уводзіны** (1 гадзіна)

Чалавек як галоўны аб'ект увагі мастацкай літаратуры, спосабы яго паказу ў творах. Тры роды літаратуры: эпічны, лірычны, драматычны.

### **І. РОДЫ МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ** (7 гадзін)

● **Для чытання і вывучэння**

**Рыгор Барадулін. «Трэба дома бываць часцей».** Адносіны чалавека да роднага дому, мясцін, дзе праходзіла дзяцінства і юнацтва. Пачуцці і перажыванні, звязаныя з успамінамі пра родных і блізкіх, як выяўленне духоўнасці асобы. Выкарыстанне вобразных магчымасцей мовы (эпітэты, метафары), рытмічных сродкаў. Адметнасць аўтарскай інтанацыі.

**Віктар Карамазаў. «Дзяльба кабанчыка».** Асуджэнне духоўнага адчужэння дарослых дзяцей ад бацькоўскага дому. Клопат маці пра дзяцей і душэўная чэрствасць, няўвага да яе з боку дачок і зяця. Усведамленне сынам Сцяпанам віны перад бацькамі, шчымлівае пачуццё жалю да хворай маці. Майстэрства пісьменніка ў абмалёўцы вясковага побыту, характарыстыка герояў праз іх паводзіны і ўчынкі, мастацкія дэталі. Характэрныя прыметы эпічнага твора.

**Аляксей Дудараў. «Вечар»** або **«Кім».**

**«Вечар».** Лёсы састарэлых адзінокіх жыхароў сучаснай вёскі. Вобразы Ганны, Мульціка, Гастрыта, іх чалавечыя драмы, жыццёвыя праблемы і клопаты. Вобразы-сімвалы сонца, калодзежа, вады, вечара. Сутыкненне розных жыццёвых філасофій Мульціка і Гастрыта: Мульцік — добразычлівы да людзей, сумленны, жартаўлівы, працавіты; Гастрыт — нікчэмны, пануры, азлоблены на ўсіх чалавек. Майстэрства А. Дударава. Асаблівасці сюжэтнай, кампазіцыйнай пабудовы п'есы. Сімвалічнасць фіналу драмы.

**«Кім».** Жанравая адметнасць твора, яго меладраматычная аснова. Узаемаадносіны Ігара і Юліі, раскрыццё аўтарам іх па-

чуццяў і чалавечых якасцей. Сцвярджэнне кахання і любові як галоўнай духоўнай каштоўнасці.

***Тэорыя літаратуры.*** Тэма, ідэя, праблематыка мастацкага твора (паглыбленне паняццяў). Роды мастацкай літаратуры (агульнае паняцце).

***Мастацтва.*** М у з ы к а: *Л. Барткевіч.* «Мой родны кут»: кампакт-дыск (песня «Трэба дома бываць часцей» на музыку І. Лучанка).

Т э а т р: «Вечар», «Кім» тэле-, радыё-, тэатральныя спектаклі (у пастаноўцы Нацыянальнага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы і іншых тэатраў краіны).

## ІІ. ЛІРЫЧНЫЯ ЖАНРЫ (13 гадзін)

● **Для чытання і вывучэння**

**Народныя песні: «Бяроза з лістом...», «Зелянеюць, зелянеюць лугі, сенажаці...».** Народная вусна-паэтычная творчасць — крыніца лірычнай паэзіі. Віды народных песень. Паэтыка народнай песні: глыбокі лірызм, яркая вобразнасць, сімволіка, гіпербалізацыя, інверсія і інш.

### Грамадзянская лірыка

● **Для чытання і вывучэння**

**Я н к а К у п а л а. «Спадчына».** Лірычная споведзь паэта. Абвостранае пачуццё любові да Бацькаўшчыны, сцвярджэнне гістарычнага права беларусаў на нацыянальную і сацыяльную незалежнасць. Спалучэнне высокага грамадзянскага пафасу з гранічнай шчырасцю лірычнага выказвання.

**М а к с і м Б а г д а н о в і ч. «Слуцкія ткачыхі».** Тэма гістарычнага мінулага. Выяўленне любові да радзімы і волі праз вобраз васілька — сімвал Бацькаўшчыны. Спалучэнне высокага патрыятычнага пафасу з задушэўнасцю выказвання. Кампазіцыя верша, яго мілагучнасць.

**У л а д з і м і р К а р а т к е в і ч. «Беларуская песня».** Гонар паэта за сваю радзіму, яе гісторыю, родную мову, за духоўна багатых і шчырых людзей. Высокі патрыятычны пафас. Урачыстасць інтанацыі, эмацыянальнасць выказвання, своеасаблівасць рытму, метафарычнасць мовы.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*Ш. Пецёфі.* «Патрыятычная песня».

### Філасофская лірыка

● **Для чытання і вывучэння**

**Максім Танк. «Шчасце».** Роздум паэта пра сэнс жыцця чалавека, яго прызначэнне на зямлі. Радзіма, мова, сяброўства — аснова чалавечага шчасця. Апавядальнасць інтанацыі, рытмічны малюнак верша.

**Анатоль Вярцінскі. «Жыццё даецца, каб жыццё тварыць...».** Філасофскае асэнсаванне глыбінных асноў чалавечага быцця, сучаснага і вечнага. Злітнасць лёсу чалавека з лёсам радзімы і свету, усведамленне адказнасці за жыццё на зямлі. Сцвярджэнне актыўнай жыццёвай пазіцыі чалавека-грамадзяніна, чалавека-творцы. Форма маналога ў раскрыцці ідэі твора. Інтанацыйна-сінтаксічны малюнак верша.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*С. Грахоўскі.* «Чалавеку патрэбна не слава...»; *В. Зуёнак.* «Дала прырода мне ваду і цвердзь...»; *Л. Дайнека.* «За крокам крок. І дзень за днём...».

### Інтымная лірыка

● **Для чытання і вывучэння**

**Максім Багдановіч. «Раманс».** Паэтызацыя ўзвышанага і прыгожага пачуцця — кахання. Лірычная споведзь паэта, светлы сум, лёгкі дакор лёсу за немінучае расстанне з каханай. Мастацкая выразнасць і пластычнасць вобразаў; інтымнасць, цеплыня, даверлівасць інтанацыі, вытанчанасць, дасканаласць паэтычнай формы.

**Аркадзь Куляшоў. «Бывай».** Пяшчотнае і шчымлівае развітанне з юнацкім каханнем. Глыбокі лірызм у выяўленні пачуццяў і перажыванняў — болю, горычы, смутку ад вымушанага расстання з каханай — як адметнасць жанру элегіі. Багацце асацыяцый, цеплыня і задушэўнасць выказвання, песеннасць і меладычнасць верша.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*С. Шушкевіч.* «Ты мне вясною прыснілася»; *С. Грахоўскі.* «Як я жыў без цябе?..».

## Пейзажная лірыка

● **Для чытання і вывучэння**

**Я к у б К о л а с. «О, край родны, край прыгожы!..»** (урывак з паэмы **«Сымон-музыка»**). Паэтызацыя прыгажосці роднай старонкі, захапленне непаўторнасцю беларускіх пейзажаў. Адчуванне лірычным героем сваёй духоўнай сувязі з зямлёй продкаў. Майстэрства паэта ў перадачы шматколернасці навакольнага свету. Выяўленне паўнаты і радасці жыцця праз вобразны і інтанацыйны лад верша.

**М а к с і м Б а г д а н о в і ч. «Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог...».** Паэтычная адухоўленасць з'яў прыроды, захапленне гармоніяй і прыгажосцю ціхай зорнай ночы. Сцвярджэнне непарыўнай еднасці чалавека з прыродай. Захапленне наваколлем, перададзенае праз эпітэты, метафары. Глыбіня пачуццяў, даверлівасць інтанацыі. Маляўнічасць вобразаў. Меладычнасць верша. Выразнасць і пластычнасць мовы.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*М. Багдановіч.* «Вечар на захадзе ў попеле тушыць...»; *В. Зуёнак.* «Над зямлёю шугае верасень...»; *А. Наўроцкі.* «Чатырохгранная ваза»; *П. Верлен.* «Шарая гадзіна»; *А. Міцкевіч.* «Да Нёмана».

## Класічныя жанры лірыкі

● **Для чытання і вывучэння**

**М а к с і м Б а г д а н о в і ч. «Санет» («Замёрзла ноччу шпаркая крыніца...»).** Выяўленне неадольнасці стваральных сіл жыцця, увасобленых у вобразе гаючай крыніцы. Перанос гэтага сімвала на розныя станы чалавечага духу. Класічная дасканаласць і выразнасць формы санета, яго рытмічны лад, меладычнасць мовы.

**А н а т о л ь Г р а ч а н і к аў. «Свяці, кахання чыстая краса...».** Раскрыццё глыбока інтымных перажыванняў лірычнага героя. Актава — класічная форма паэзіі; яе дасканаласць і ўплыў на выяўленчыя асаблівасці верша. Афарыстычнасць мовы, выразнасць рытму і інтанацыі. Асаблівасці рыфмоўкі радкоў.

**М а к с і м Б а г д а н о в і ч. «Трыялет» («Калісь глядзеў на сонца я...»).** Філасофскі роздум паэта пра сэнс чалавечага

існавання, пра бясконцасць сусвету і шчасце пазнання яго чалавекам. Абвостраная ўспрымальнасць лірычнага героя, яго выключнасць у параўнанні з іншымі людзьмі, не здольнымі зразумець і прыняць яго перакананні. Вытанчанасць формы трыялета, рытміка-інтанацыйны лад твора.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*У. Шэкспір.* «Санет»; *Д. Бічэль.* «Трыялет»; *А. Салтук.* «На далонях жыцця».

***Тэорыя літаратуры.*** Паняцце пра лірыку. Віды, жанры, класічныя формы лірыкі. Лірычны герой. Маналагічная форма лірычных твораў. Паглыбленне паняццяў пра вершаскладанне, рытміка-інтанацыйныя і вобразна-выяўленчыя сродкі паэтычнай мовы.

***Мастацтва.*** М у з ы к а: «Песняры. Залаты дыск»: кампакт-дыск; «Песняры. Лепшыя песні» (ч. 1): кампакт-дыск. «Троіца»: кампакт-дыск (гурт «Троіца»); *М. Забэйда-Суміцкі.* «Ластаўкі ў страсе»: кампакт-дыск і інш.

Ж ы в а п і с: «Мая зямля»: альбом (уклад. В. Трыгубовіч); «Беларускі савецкі жывапіс»: альбом (уклад. А. В. Аладава) і інш.

Ф о т а м а с т а ц т в а: «Пакланіся прыродзе»: альбом; *В. Алешка.* «Спатканне з лесам»: альбом; *С. Плыткевіч.* «Мая Беларусь»: альбом; *Г. Ліхтаровіч.* «Добры дзень, Беларусь»: альбом; *У. Арлоў, З. Герасімовіч.* «Краіна Беларусь: Ілюстраваная гісторыя»: альбом (на выбар).

## **III. ЭПІЧНЫЯ ЖАНРЫ** (14 гадзін)

● **Для чытання і вывучэння**

**Я к у б К о л а с. «Хмарка».** Сувязь паэтыкі апавядання з вуснай народнай творчасцю, з формай казкі. Алегарычна-філасофскі змест твора, яго патрыятычны пафас. Адказнасць кожнага чалавека перад сваёй Бацькаўшчынай за яе дабрабыт і росквіт як галоўная ўмова асабістага шчасця. Роля пейзажу ў раскрыцці ідэі твора.

**У л а д з і м і р К а р а т к е в і ч. «Паром на бурнай рацэ».** Гістарычная аснова апавядання. Характарыстыка галоўных герояў твора Горава і Пора-Леановіча. Элементы раман-

тычнай паэтыкі ў творы: зварот да гістарычнай тэмы, павышаная эмацыянальнасць аповеду, кантрастнасць вобразаў і характараў, драматызацыя дзеяння і карцін прыроды. Роля канкрэтных апісанняў, мастацкіх дэталей у раскрыцці характараў. Тэма і ідэя апавядання.

**Генрых Далідовіч. «Губаты».** Ідэя дабрыні і міласэрнасці да прыроды. Майстэрства пісьменніка ў перадачы шматфарбнасці навакольнага свету праз апісанне пушчы і яе жыхароў, псіхалагізацыя вобраза ласяняці Губатага. Трагічны фінал — праява хцівасці і жорсткасці людзей. Лірычнасць апавядання. Развіццё сюжэта, кампазіцыя твора.

**Васіль Быкаў. «Жураўліны крык».** Мастацкая праўда ў паказе вайны. Паводзіны чалавека ў экстрэмальнай сітуацыі. Раскрыццё ў трагічных абставінах характараў герояў. Вытокі подзвігу старшыны Карпенкі, байцоў Глечыка, Фішара, Свіста. Праблема маральнага выбару. Глыбіня псіхалагічнага аналізу ў раскрыцці вобразаў Аўсеева і Пшанічнага. Арыгінальнасць кампазіцыі. Лірычны элемент у аповесці, яго роля.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*В. Быкаў.* «Страта»; *Х. К. Андэрсен.* «Салавей».

***Тэорыя літаратуры.*** Эпас як літаратурны род і яго жанры: навела, апавяданне, аповесць. Эпізод, сюжэт, тэма, ідэя, кампазіцыя ў эпічным творы (паглыбленне паняццяў). Вобраз-характар і спосабы яго раскрыцця (апісанне ўчынкаў і паводзін, партрэт, пейзаж, мова героя, аўтарская характарыстыка). Аўтар-апавядальнік у эпічным творы (паглыбленне паняцця).

## IV. ЛІРА-ЭПІЧНЫЯ ЖАНРЫ (6 гадзін)

● **Для чытання і вывучэння**

**Янка Купала. «Магіла льва».** Зварот да гістарычнага мінулага. Паэтычнае асэнсаванне народнай легенды. Рамантызаваныя вобразы Наталькі і Машэкі. Вастрыня драматычнага канфлікту. Пафас лірыка-філасофскіх адступленняў. Гуманістычна-патрыятычны змест паэмы, асаблівасці яе кампазіцыі.

**Аркадзь Куляшоў. «Маці».** Адлюстраванне трагізму падзей Вялікай Айчыннай вайны ў баладзе. Бязмежная

самаахвярнасць маці. Фальклорныя вытокі сюжэта твора, сродкаў раскрыцця вобразу маці. Выкарыстанне народна-паэтычнай вобразнасці (зваротаў, тропаў, рытмікі).

**Кандрат Крапіва. «Ганарысты Парсюк».** Крытыка чалавечых заган і недахопаў: невуцтва, ганарыстасці, фанабэрлівасці, агрэсіўнасці. Прыёмы і сродкі стварэння камічных сітуацый. Народная мудрасць, гумар у байцы. Блізкасць мовы байкі да гутарковай. Мараль у байцы як выяўленне аўтарскай пазіцыі.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*Я. Сіпакоў.* «Кантрабанда»; *А. Вярцінскі.* «Мы, мёд і пчала»; *У. Корбан.* «Музыкальная камедыя»; *А. Куляшоў.* «Балада аб чатырох заложніках»; *Ф. Шылер.* «Кубак»; *М. Скрыпка* (байка на выбар).

***Тэорыя літаратуры.*** Ліра-эпічныя літаратурныя жанры. Паэма: сюжэт і кампазіцыя, лірычныя адступленні, эмацыянальнасць мовы. Паняцце пра літаратурную баладу: драматычная напружанасць сюжэта. Мараль у байцы як выяўленне аўтарскай пазіцыі.

***Мастацтва.*** Жывапіс: гравюры Скарыны; ілюстрацыі беларускіх мастакоў да паэмы Янкі Купалы «Магіла льва».

## V. ДРАМАТЫЧНЫЯ ЖАНРЫ (4 гадзіны)

● **Для чытання і вывучэння**

**Янка Купала. «Паўлінка».** Жанравая адметнасць п’есы. Канфлікт новага і старога пакаленняў засцянковай шляхты ў камедыі. Вобраз Паўлінкі. Высмейванне шляхецкай пыхлівасці і духоўнай абмежаванасці. Камічнае і драматычнае ў вобразе Адольфа Быкоўскага. Самабытнасць камедыйных характараў Сцяпана Крыніцкага і Пранціся Пустарэвіча. Майстэрства аўтара ў абмалёўцы персанажаў, індывідуалізацыя іх мовы. Сцэнічнае ўвасабленне камедыі.

■ **Для чытання і абмеркавання**

*А. Вярцінскі.* «Гефест — друг Праметэя»; *В. Вольскі.* «Несцерка»; *Г. Марчук.* «Новыя прыгоды Несцеркі»; *У. Бутрамееў.* «Ізноў Несцерка».

***Тэорыя літаратуры.*** Драма як літаратурны род (пачатковае паняцце). Батлейка — беларускі народны лялечны тэатр (паглыбленне паняцця). Драматычныя жанры: трагедыя, драма, камедыя. Характэрныя асаблівасці драматычных жанраў: канфлікт, сюжэт, характар, сцэна, карціна, дыялог, рэпліка, рэмарка. Выяўленне аўтарскай пазіцыі ў драматычным творы.

***Мастацтва.*** Т э а т р: тэатральныя і тэлевізійныя спектаклі (на выбар настаўніка, з улікам канкрэтных магчымасцей).

У с я г о: на вывучэнне твораў — 45 гадзін;
на творчыя работы — 4 гадзіны;
на ўрокі пазакласнага чытання — 4 гадзіны.

### Рэкамендацыйны спіс твораў для завучвання на памяць

*Янка Купала.* «Спадчына».

*М. Багдановіч.* «Раманс».

*Р. Барадулін.* «Трэба дома бываць часцей».

*У. Караткевіч.* «Паром на бурнай рацэ» (урывак на выбар вучняў са слоў: «Майце літасць... І раптоўна ўся сіла гэтай натуры...», заканчваючы словамі: «Бо мы штодзень без яе паміраем у пакутах», або са слоў: «Рака шалела...», заканчваючы словамі: «...два ці тры зеленаватыя яблыкі»).

*Кандрат Крапіва.* «Ганарысты Парсюк».

### Прыкладны спіс твораў для пазакласнага чытання

«Ад роднае зямлі. Зборнік твораў для пазакласнага чытання». ШБ (уклад. П. Лявонава, І. Слесарава).

*В. Адамчык.* «Дзікі голуб».

*А. Бадак.* «Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца».

*Р. Баравікова.* «Лён-Лянок, альбо Кампакт-дыск ад Зялёнага Дрэйка».

*А. Бутэвіч.* Зб. «Расстайны пах асоту».

*В. Быкаў.* «На ўсходзе сонца», «Дажыць да світання».

*П. Васючэнка.* Зб. «Жылі-былі паны Кубліцкі ды Заблоцкі».

*С. Дзяргай.* «Чатыры стыхіі».

*Р. Джаваньёлі.* «Спартак».

*Ч. Дзікенс.* «Прыгоды Олівера Твіста».

*А. Дзюма.* «Тры мушкецёры».

*А. Дударaў.* «Святая птушка».
*В. Іпатава.* «За морам Хвалынскім».
*С. Кавалёў.* «Драўляны Рыцар».
*В. Казько.* «Суд у Слабадзе».
*А. Камароўскі.* Зб. «Пенальці».
*К. Камейша.* «Кубак блакіту».
*В. Карамазаў.* «Прыліпала».
*У. Караткевіч.* «Лісце каштанаў».
*У. Краўчанка.* «Таямніца адной выспы».
*А. Масарэнка.* «На бабровых тонях».
*П. Місько.* «Грот Афаліны».
*М. Мятліцкі.* «Чаканне сонца».
*А. Салтук.* Зб. «На далонях жыцця»
*А. Сербантовіч.* «Пярсцёнак».
*М. Стральцоў.* «Адзін лапаць, адзін чунь».
*Р. Стывенсан.* «Чорная страла».
*М. Федзюковіч.* Зб. «Красадзён».
*І. Чыгрынаў.* «Бульба».
*У. Шыцік.* «Парсекі за кармой».
*Я. Янішчыц.* «Зорная паэма».

### АСНОЎНЫЯ ВІДЫ РАБОТ ПА ЛІТАРАТУРЫ Ў VIII КЛАСЕ

Беглае чытанне мастацкіх, навукова-папулярных і публіцыстычных тэкстаў. Выразнае чытанне мастацкіх твораў (эпічных, лірычных, ліра-эпічных, драматычных).

Складанне плана эпічнага твора ці ўрыўка з яго.

Вусны і пісьмовы пераказ (выбарачны, падрабязны, творчы) невялікага эпічнага твора ці ўрыўка з яго.

Вуснае і пісьмовае сачыненне-разважанне па вывучаным творы: разгорнуты адказ на пытанне, праблемная характарыстыка (індывідуальная, параўнальная, групавая) герояў твора. Складанне плана ўласнага вуснага і пісьмовага выказвання.

Інсцэніраванне мастацкіх твораў. Вусны і пісьмовы водгук ці рэцэнзія на самастойна прачытаны твор, твор выяўленчага мастацтва, прагледжаны кінафільм, тэлеперадачу (з матывацыяй уласных адносін да герояў і падзей).

Сачыненне на аснове асабістых назіранняў, уражанняў аб падзеях і з’явах жыцця.

## АСНОЎНЫЯ ПАТРАБАВАННІ ДА ВЕДАЎ, УМЕННЯЎ І ЛІТАРАТУРНАГА РАЗВІЦЦЯ ВУЧНЯЎ VIII КЛАСА

Вучні павінны в е д а ц ь:

аўтараў, назвы і змест праграмных твораў;

сюжэт апавядальных твораў, учынкі і ўзаемаадносіны персанажаў;

роды літаратуры (эпічны, лірычны, драматычны), іх асноўныя жанры (у фальклоры і літаратуры) і мастацкія асаблівасці, сродкі адлюстравання жыцця і спосабы паказу чалавека ў творах гэтых жанраў;

творы, прапанаваныя для завучвання на памяць.

Вучні павінны ў м е ц ь:

узнаўляць мастацкія карціны, створаныя пісьменнікам;

вызначаць танальнасць, настраёвасць мастацкага твора, яго эстэтычны пафас;

падрабязна, сцісла або выбарачна пераказваць (вусна і пісьмова) невялікі эпічны твор або ўрывак з эпічнага твора;

вылучаць эпізоды або дэталі, важныя для характарыстыкі дзеючых асоб, устанаўліваць прычынна-выніковую сувязь паміж падзеямі і паводзінамі герояў у творы, разумець падтэкст;

характарызаваць героя мастацкага твора па яго ўчынках, паводзінах, перажываннях у святле праблемнага пытання настаўніка;

вызначаць ідэйна-мастацкую ролю элементаў сюжэта вывучаных эпічных, ліра-эпічных і драматычных твораў (экспазіцыю, завязку, кульмінацыю, развязку);

знаходзіць выяўленчыя сродкі мовы і вызначаць іх ролю ў стварэнні вобраза, раскрыцці тэмы твора;

разумець аўтарскую пазіцыю ў творы;

выразна, у патрэбным тэмпе чытаць уголас літаратурны твор з улікам родавых, жанравых і стылявых адметнасцей, выяўляючы аўтарскую пазіцыю і свае адносіны да адлюстраванага;

складаць план эпічнага твора ці ўрыўка з яго;

рыхтаваць вуснае і пісьмовае сачыненне-разважанне (разгорнуты адказ, адказ на пытанне і паведамленне пра героя), апісваць свае ўражанні ад розных з'яў жыцця;

даваць вусны водгук на самастойна прачытаны літаратурны твор і творы іншых відаў мастацтва, выказваючы свае адносіны да герояў і падзей.

# IX КЛАС

## (53 гадзіны)

### **Уводзіны** (1 гадзіна)

Літаратура як частка сусветнай культуры. Нацыянальнае і агульначалавечае ў мастацтве слова. Асноўныя напрамкі, стылі, жанры мастацкай літаратуры.

### МІФАЛОГІЯ—ФАЛЬКЛОР—ЛІТАРАТУРА
(1 гадзіна)

Узнікненне мастацтва слова. Міфалагізаванне з'яў прыроды, іх асэнсаванне і вытлумачэнне старажытным чалавекам. Міфалогія як першапачатковая «навуковая» карціна свету.

Спецыфіка фальклору як мастацтва слова. Маральна-этычныя і эстэтычныя вартасці беларускага фальклору. Беларуская народная творчасць як крыніца станаўлення і ўзбагачэння літаратуры (В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, Янка Купала, Якуб Колас і інш.).

**«Дамавікова ўдзячнасць».** Адлюстраванне ў легендзе светаўспрымання, гісторыі роднага краю. Ідэя твора. Яго пазнавальнасць, займальнасць аповеду.

♦ **Для самастойнага чытання**[1]

Беларускі фальклор: хрэстаматыя. — 3-е выд. — Мінск, 1998 (творы на выбар настаўніка).

***Тэорыя літаратуры.*** Міф, міфалогія. Літаратура і фальклор (паглыбленне паняццяў).

***Мастацтва.*** М у з ы к а: *А. Лядаў.* Сімфанічныя паэмы «Баба-Яга», «Чароўнае возера»; *Ю. Семяняка.* Аперэта «Сцяпан — вялікі пан».

Т э а т р а л ь н а е   м а с т а ц т в а: спектаклі «Веснавая казка» (муз. *Я. Глебава*, рэж. *Ю. Цвяткоў*), «Лясун» (рэж. *М. Алтухоў*), «Па шчупаковай волі» (рэж. *Я. Тарахоўская*).

---

[1] Тут і далей творы ў рубрыцы «Для самастойнага чытання» даюцца на выбар настаўніка.

**Літаратура**

*Кабашнікаў, К. П.* Беларуская вусна-паэтычная творчасць / К. П. Кабашнікаў [і інш.]. — Мінск, 2000.

Беларуская міфалогія: энцыкл.: у 2 т. / рэдкал.: Г. П. Пашкоў [і інш.]. — Мінск, 2005—2006.

Беларуская міфалогія: энцыкл. слоўнік / уклад. І. Клімковіч. — Мінск, 2006.

*Казакова, І. В.* Беларускі фальклор: вучэб. дапам. / І. В. Казакова. — Мінск, 2007.

*Крук, І. І.* Следам за сонцам: Беларускі народны каляндар / І. І. Крук. — Мінск, 1998.

*Ліс, А. С.* Каляндарна-абрадавая творчасць беларусаў / А. С. Ліс. — Мінск, 1998.

*Тычына, М.* Карані і крона: Фальклор і літаратура / М. Тычына. — 2-е выд. — Мінск, 2002.

*Шамак, А.* Міфалогія старажытнай Беларусі / А. Шамак. — Мінск, 2004.

*Шамякіна, Т.* Беларуская класічная літаратура і міфалогія / Т. Шамякіна. — Мінск, 2001.

*Шамякіна, Т.* Міфалогія Беларусі (нарысы) / Т. Шамякіна. — Мінск, 2000.

## **БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА І АНТЫЧНАСЦЬ** (1 гадзіна)

Міфы і легенды Старажытнай Грэцыі і Рыма. Тэматычная шматграннасць, гармонія зместу і формы ў антычным мастацтве і літаратуры. Паэмы-эпапеі Гамера «Іліяда», «Адысея», трагедыя Эсхіла «Прыкуты Праметэй», паэма Вергілія «Энеіда» і інш.

Уплыў антычнага мастацтва і літаратуры на сусветную культуру. «Вечныя вобразы» ў фальклоры і літаратуры. Геракл і Праметэй. Водгукі ідэй, вобразаў, сюжэтаў антычнасці ў беларускай літаратуры, наследаванні антычных матываў беларускімі паэтамі, традыцыі антычнага эпасу (паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», М. Багдановіч. «Калі зваліў дужы Геракл у пыл Антэя...», «Пентаметры»; Якуб Колас. «Новая зямля» і інш.).

♦ **Для самастойнага чытання**

2—3 міфы Старажытнай Грэцыі; *Гамер.* «Адысея» (урыўкі); *Вергілій.* «Энеіда» (урыўкі); *Эсхіл.* «Прыкуты Праметэй» (урыўкі).

***Тэорыя літаратуры.*** Агульнае паняцце пра антычную літаратуру. Паняцце пра «вечны вобраз». Паэма-эпапея. Трагедыя.

***Мастацтва.*** А р х і т э к т у р а: Афінскі Акропаль; руіны Алімпіі (Грэцыя II—I тыс. да н. э.); Калізей; Пантэон (III ст. да н. э. — III ст. н. э.).

С к у л ь п т у р а: «Зеўс, што пасылае маланку»; «Пасейдон»; «Афрадыта Мілоская»; «Капіталійская ваўчыца»; *Фідзій.* «Афіна», «Артэміда»; *А. Канова.* «Венера і Марс», «Геракл і Ліка», «Тэсей і Мінатаўр».

Ж ы в а п і с: *Я. Іарданс.* «Прыкуты Праметэй» (VIII ст.); *А. Іваноў.* «Прыам, што просіць у Ахілеса цела Гектара» (XIX ст.); *П. Рубенс.* «Персей і Андрамеда»; *Г. Рэні.* «Геракл забівае лернейскую гідру Паліфема» (VII ст.); *Тыцыян.* «Венера і Адоніс»; *Ж. Энгр.* «Эдып і Сфінкс».

М у з ы к а: *Г. Берліёз.* Опера «Заваяванне Троі»; *К. Глюк.* Опера «Тарас і Алена»; *К. Сен-Санс.* Опера «Алена»; *А. Скрабін.* Сімфанічная паэма «Праметэй»; *А. Хачатуран.* Балет «Спартак».

**Літаратура**

*Малюковіч, С. Д.* Старажытная Элада: у 2 ч. / С. Д. Малюковіч. — Мінск, 2000—2003.

*Рэвяко, К. А.* Антычная спадчына на Беларусі / К. А. Рэвяко. — Мінск, 1998.

*Шамякіна, Т.* Культура Антычнай Грэцыі // Роднае слова / Т. Шамякіна. — 1998. — № 10—12; 1999. — № 4, 6.

*Шамякіна, Т.* Культура Антычнага Рыма // Роднае слова / Т. Шамякіна. — 2000. — № 1—3.

*Шамякіна, Т.* Міфалогія і беларуская літаратура: нарысы і эсэ / Т. Шамякіна. — Мінск, 2008.

## **ЛІТАРАТУРА ЭПОХІ СЯРЭДНЯВЕЧЧА** (5 гадзін)

Агульная характарыстыка літаратуры Сярэднявечча (пачатковы перыяд развіцця славянскай пісьменнасці (XI—XII стст.); тэматычная і жанравая разнастайнасць перакладной і арыгінальнай літаратуры).

**Біблія** як адзін з найвялікшых здабыткаў духоўнай культуры і найвыдатнейшы помнік літаратуры; яе ўплыў на развіц-

цё мастацтва і літаратуры эпохі Сярэднявечча. Матывы і вобразы Біблії ў пазнейшай літаратуры і мастацтве *(1 гадзіна)*.

**«Жыціе Еўфрасінні Полацкай»** *(1 гадзіна)*.

Сувязь твора з хрысціянскім веравучэннем. Адметнасць кампазіцыі «Жыція...». Адлюстраванне асноўных этапаў біяграфіі беларускай асветніцы. Духоўны подзвіг Еўфрасінні Полацкай. Рэальныя і гістарычныя факты ў творы.

**Кірыл Тураўскі. Словы. Казанні. Павучанні** *(1 гадзіна)*.

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць асветніка. Прапаведзь маральнага самаўдасканалення чалавека і грамадства, крытыка чалавечых заганаў. Высокае паэтычнае майстэрства Кірыла Тураўскага (метафарызм, красамоўства, багацце лексікі).

**«Аповесць мінулых гадоў»** (урывак пра Усяслава Полацкага) *(1 гадзіна)*.

Постаць Усяслава Полацкага ў старажытным усходнеславянскім летапісе. Усяслаў — неардынарная гістарычная асоба. Сцісласць і дакументальная дакладнасць апісання. Вобраз князя Усяслава ў творах Сярэднявечча («Слова пра паход Ігаравы») і ў сучаснай беларускай літаратуры (Л. Дайнека. «След ваўкалака»).

**Беларускі летапіс («Летапіс вялікіх князёў літоўскіх», «Беларуска-літоўскі летапіс 1430—1446 гг.»** і інш.) (урывак «Пахвала Вітаўту») *(1 гадзіна)*.

Беларускія летапісы як вытокі мастацкай прозы. Адлюстраванне гістарычнага мінулага ў летапісных творах, іх патрыятычны пафас.

Адметнасць жанру і кампазіцыі твора. Услаўленне мужнасці, міжнароднага аўтарытэту князя Вітаўта, яго гераічных подзвігаў у старажытным беларускім летапісе.

**♦ Для самастойнага чытання**

«Слова пра паход Ігаравы» (урыўкі), «Трыстан і Ізольда», «Хроніка Быхаўца» (урыўкі); *Амар Хаям.* 2—3 творы; *Л. Дайнека.* «След ваўкалака»; *У. Арлоў.* «Каля Дзікага Поля».

***Тэорыя літаратуры.*** Агульнае паняцце пра жанры старажытнай літаратуры (жыціе, павучанне, хаджэнне, аповесць, летапіс). Асаблівасці фарміравання літаратурнай традыцыі.

***Мастацтва.*** А р х і т э к т у р а: Сафійскі сабор у Кіеве (XI ст.); Сафійскі сабор у Ноўгарадзе (XII ст.); Сафійскі сабор у Полацку (XII ст.); Сабор Парыжскай Божай Маці ў Парыжы (XII ст.); Каложская царква ў Гродна (XII ст.).

С к у л ь п т у р а: помнік Кірылу Тураўскаму (Тураў. Скульптар *М. Інькоў*, архітэктар *М. Лук'янчык*); *П. Драчоў.* «Кірыла Тураўскі» (літаграфія); *В. Дэмут-Маліноўскі, П. Клодт.* «Князь Уладзімір» (Уладзіміраўская горка, Кіеў) (XIX ст.); *М. Інькоў.* «Кірыла Тураўскі»; *І. Пратасеня.* «Кірыла Тураўскі».

Ж ы в а п і с: *М. Басалыга.* «Бітва на Нямізе ў 1067 годзе»; *К. Васільеў.* «Плач Яраслаўны»; *Я. Драздовіч.* «Усяслаў Чарадзей»; *А. Кашкурэвіч.* «Еўфрасіння Полацкая — асветніца»; *В. Лапата.* Ілюстрацыі да «Слова пра паход Ігаравы»; *А. Лось.* Ілюстрацыі да «Слова пра паход Ігаравы»; *Г. Паплаўскі.* Ілюстрацыі да «Слова пра паход Ігаравы»; *П. Сергіевіч.* «Усяслаў Полацкі».

М у з ы к а: *А. Барадзін.* Опера «Князь Ігар»; *А. Мдывані, В. Елізар'еў.* Балет «Страсці»; *Л. Шлег.* Араторыя «Сказ пра Ігара»; *М. Шчаглоў (Кулікові́ч).* Опера «Усяслаў Чарадзей».

**Літаратура**


Анталогія даўняй беларускай літаратуры: XI — першая палова XVIII стагоддзя / навук. рэд. В. А. Чамярыцкі. — Мінск, 2003.

*Булахов, М. Г.* «Слово о полку Игореве» в литературе, искусстве, науке / М. Г. Булахов. — Минск, 1989.

Гісторыя беларускай літаратуры XI—XIX стагоддзяў: у 2 т. — Мінск, 2006. — Т. 1: Даўняя літаратура XI — першая палова XVIII стагоддзя.

*Мельнікаў, А. А.* З неапублікаванай спадчыны / А. А. Мельнікаў. — Мінск, 2005.

*Мельнікаў, А. А.* Кірыл, епіскап Тураўскі / А. А. Мельнікаў. — Мінск, 1997.

*Сініла, Г. В.* Біблія як феномен культуры і літаратуры: у 2 ч. / Г. В. Сініла. — Мінск, 2003—2004.

Старажытная беларуская літаратура (XII—XVII стст.) / уклад., прадм., камент. І. Саверчанкі. — Мінск, 2007.

*Чамярыцкі, В.* Неўміручая песня Старажытнай Русі / В. Чамярыцкі // Слова пра паход Ігаравы: паэма; Гусоўскі, М. Песня пра зубра: паэма. — Мінск, 1999. — С. 5—19.

## **ЛІТАРАТУРА ЭПОХІ АДРАДЖЭННЯ** (4 гадзіны)

Агульная характарыстыка літаратуры эпохі Адраджэння (XIV—XVI стст.). Пашырэнне гуманістычнага светаўспрымання і светаадчування. Чалавек як мера каштоўнаснага і прыгожага ў мастацтве. Росквіт выяўленчага мастацтва, архітэктуры, навукі і літаратуры ў краінах Еўропы. Звесткі пра Беларусь у еўрапейскіх крыніцах.

**Францыск Скарына.** Прадмова да ўсёй **Бібліі**, прадмовы да кніг **«Псалтыр», «Іоў», «Юдзіф»** (урыўкі) *(1 гадзіна)*.

Ф. Скарына — першадрукар і асветнік, яго жыццё і творчая дзейнасць. Пераклад і выданне кніг Бібліі, іншых кніг Святога Пісання. Імкненне Ф. Скарыны наблізіць кнігу да народа (старабеларуская мова, тлумачэнні). Найважнейшыя рысы рэнесансавага гуманізму ў творчасці Ф. Скарыны. Ідэал вольнай і ўсебакова развітой асобы. Агульначалавечы змест прадмоў да кніг «Іоў» і «Юдзіф». Сцвярджэнне ідэй патрыятызму, вернасці грамадзянскаму абавязку, духоўнай моцы і трываласці.

Агульнаславянскае і еўрапейскае значэнне дзейнасці Ф. Скарыны.

**Сымон Будны.** Прадмова да **«Катэхізіса». Васіль Цяпінскі.** Прадмова да **«Евангелля»** (урыўкі, агляд) *(1 гадзіна)*.

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць асветнікаў. С. Будны і В. Цяпінскі як прадаўжальнікі традыцый Ф. Скарыны. Дэмакратычная і патрыятычная скіраванасць прадмоў. В. Цяпінскі пра навучанне на беларускай мове. Развіццё кнігадруку ў Беларусі і яго роля ў культурным прагрэсе.

**Мікола Гусоўскі.** Паэма **«Песня пра зубра»** *(2 гадзіны)*.

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць паэта.

«Песня пра зубра» як выдатны твор беларускай літаратуры эпохі Адраджэння. Жанр, сюжэт і кампазіцыя паэмы. Сістэма вобразаў у творы. Сімвалічнае значэнне вобраза зубра. Увасабленне рэнесансавых ідэй у вобразе Вітаўта. Беларуская прырода ў адлюстраванні паэта. Тэма вайны і міру. М. Гусоўскі як паэт-гуманіст.

Паэма ў перакладзе на сучасную беларускую мову Я. Семяжона.

♦ **Для самастойнага чытання**

*Я. Вісліцкі.* «Пруская вайна» (урыўкі); *Ф. Петрарка.* Санеты (на выбар настаўніка); *Л. Сапега.* Прадмова да «Статута ВКЛ 1588»; *У. Караткевіч.* «Подзвіг Скарыны»; *А. Пісьмянкоў.* «Дума Вітаўта».

***Тэорыя літаратуры.*** Агульнае паняцце пра эпоху Адраджэння. Гуманізм, агульначалавечыя каштоўнасці ў літаратуры.

***Мастацтва.*** А р х і т э к т у р а: палац Ватыкана ў Рыме (XV ст.); універсітэт у Падуі (XV ст.); касцёл Святой Ганны ў Вільні (XV ст.); Карлаў мост у Празе (XIII—XV стст.).

С к у л ь п т у р а: *З. Азгур.* «Францыск Скарына»; *Э. Астаф'еў.* «Францыск Скарына» (гіпс); *В. Барабанцаў.* «Францыск Скарына» (мазаічнае палатно); *С. Вакар.* «Францыск Скарына» (гіпс); *А. Глебаў.* Помнік Ф. Скарыну ў Полацку; помнік С. Буднаму (Нясвіж. Скульптар *С. Гарбунова*, архітэктар *Ю. Казакоў*); *А. Шатэрнік.* «Мікола Гусоўскі».

Ж ы в а п і с: *Леанарда да Вінчы.* «Джаконда» (XV ст.); *Мікеланджэла.* «Страшны суд» (Сіксцінская капела, XV ст.); *Рафаэль.* «Сіксцінская мадонна» (XV ст.); *І. Ахрэмчык.* «Францыск Скарына»; *М. Басалыга.* «Мікола Гусоўскі»; *Г. Вашчанка.* «Роднае слова. Францыск Скарына»; *Я. Драздовіч.* «Друкарня Ф. Скарыны ў Вільні»; *А. Кашкурэвіч.* Ілюстрацыі да «Песні пра зубра»; *Я. Кулік.* Ілюстрацыі да кнігі «Песня пра зубра»; *С. Свістуновіч.* «Вынік» (габелен); *П. Сергіевіч.* «Скарына ў рабочым кабінеце»; *Л. Шчамялёў.* «Францыск Скарына. Вяртанне».

М у з ы к а: *У. Дарохін.* Сімфонія № 3 «Францыск Скарына, жыццё і бессмяротнасць»; *У. Грушэўскі.* Араторыя «Гусаўца голас» для баса, барытона, хору і аркестра (словы М. Гусоўскага); *А. Літвіноўскі.* Містэрыя «Францыск» для баса і аркестра (тэкст з прадмоў і каментарыяў Ф. Скарыны да «Бібліі»); *А. Мдывані.* Сюіта «Мікола Гусоўскі» (словы М. Гусоўскага); *Л. Сімаковіч.* Для хору а капэла «Наш край» (словы М. Гусоўскага); *Д. Смольскі.* Опера «Францыск Скарына»; *У. Чараднічэнка.* Музыка да кінафільма «Я, Францыск Скарына».

К і н а м а с т а ц т в а: «Я, Францыск Скарына» (рэж. *Б. Сцяпанаў*).

**Літаратура**

*Адамовіч, Г. Я.* З крыніц сусветнай літаратуры / Г. Я. Адамовіч. — Мінск, 1998.

*Батвіннік, М.* Азбука на ўсе часы / М. Батвіннік. — Мінск, 2003.

Беларускія летапісы і хронікі / уклад. А. Мельнікава. — Мінск, 1997.

*Галенчанка, Г. Я.* Францыск Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар / Г. Я. Галенчанка. — Мінск, 1998.

Гісторыя беларускай літаратуры XI—XIX стагоддзяў: у 2 т. — Мінск, 2006. — Т. 1: Даўняя літаратура XI — першая палова XVIII стагоддзя.

Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд / пад. агул. рэд. М. А. Лазарука, А. А. Семяновіча. — 4-е выд. — Мінск, 1998.

*Дварчанін, І.* Францыск Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве / І. Дварчанін. — Мінск, 1991.

*Каўка, А.* Тут мой народ: Ф. Скарына і беларуская літаратура XVI — пачатку XX ст. / А. Каўка. — Мінск, 1989.

*Конан, У.* Боская і людская мудрасць (Ф. Скарына) / У. Конан. — Мінск, 1990.

*Лойка, А. А.* Старабеларуская літаратура / А. А. Лойка. — Мінск, 2001.

Старажытная беларуская літаратура (XII—XVII стст.) / уклад., прадм., камент. І. Саверчанкі. — Мінск, 2007.

Скарына і яго эпоха / В. А. Чамярыцкі [і інш.]. — Мінск, 1990.

Францыск Скарына і яго час: энцыкл. даведнік / рэдкал. І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск, 1988.

*Яскевіч, А. А.* Творы Ф. Скарыны / А. А. Яскевіч. — Мінск, 1995.

## **БАРОКА. КЛАСІЦЫЗМ. АСВЕТНІЦТВА** (1 гадзіна)

Асаблівасці стылю барока. Праявы барока ў беларускай літаратуры і мастацтве.

Развіццё рацыяналістычных і асветніцкіх тэндэнцый у еўрапейскай культуры і мастацтве. Узнікненне французскага класіцызму. Класіцызм у рускай літаратуры. Неадпаведныя ўмовы для развіцця класіцызму і іншых мастацкіх напрамкаў у беларускай літаратуры. Асветніцкі рэалізм.

Палемічная літаратура пачатку XVII стагоддзя. Развіццё рэлігійнай публіцыстыкі (Іпацій Пацей, Мялецій Сматрыцкі, Лаўрэнцій Зізаній, Афанасій Філіповіч). Свецкая сатырычная літаратура («Прамова Мялешкі», «Ліст да Абуховіча»). Верша-

складанне на беларускай мове. Андрэй Рымша, Сімяон Полацкі, ананімныя творы. Станаўленне беларускага тэатра (батлейка, школьныя драмы і інтэрмедыі).

♦ **Для самастойнага чытання**

*М. Сматрыцкі.* «Трэнас» (урыўкі); *Сімяон Полацкі.* «Пралог да прападобнай маці Ефрасінні».

***Тэорыя літаратуры.*** Палемічная літаратура як жанр публіцыстыкі.

***Мастацтва.*** А р х і т э к т у р а: ансамбль плошчы Святога Пятра ў Рыме (XVI—XVII стст.); Крэмль у Маскве (XV—XVII стст.); касцёл дамініканцаў у Вільні (XVII ст.); Езуіцкі касцёл у Мінску (XVII—XVIII стст.); царква Пятра і Паўла ў Мінску (XVII ст.); Кафедральны сабор у Мінску (XVII—XVIII стст.); Фарны касцёл у Навагрудку і Гродна; Мірскі замак; Нясвіжскі палац.

С к у л ь п т у р а: *Л. Берніні.* «Апалон і Дафна» (XVII ст.); *Э.-М. Фальканэ.* «Медны коннік» (Санкт-Пецярбург).

Ж ы в а п і с: *Караваджа.* «Раскрыжаванне Св. Пятра» (XVII ст.); *Эль Грэка.* «Апосталы Пётр і Павел» (XVII ст.); абразы Праабражэння Гасподняга, «Тройца», «Нараджэнне Маці Божай» (XVII ст.); партрэты Юрыя Радзівіла (XVI ст.), Януша Радзівіла (XVII ст.), Ежы Радзівіла (XVII ст.); *А. Базілевіч.* Ілюстрацыі да кнігі І. Катлярэўскага «Энеіда».

М у з ы к а: *М. Агінскі.* Паланез «Развітанне з Радзімай»; *І.-С. Бах.* «Брандэнбургскія канцэрты»; *Л.-В. Бетховен.* Сімфонія № 9; *Й. Гайдн.* Араторыя «Стварэнне свету»; *В.-А. Моцарт.* Опера «Дон Жуан».

К і н а м а с т а ц т в а: «Ветрык арэляў» (рэж. *С. Гайдук*); «Паланез Агінскага» (рэж. *Л. Голуб*).

**Літаратура**

*Адамовіч, Г. Я.* З крыніц сусветнай літаратуры / Г. Я. Адамовіч. — Мінск, 1998.

Гісторыя беларускага тэатра: у 3 т. — Мінск, 1983. — Т. 1.

*Кавалёў, С. В.* Героіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст. / С. В. Кавалёў. — Мінск, 1993.

*Мальдзіс, А.* На скрыжаванні славянскіх традыцый / А. Мальдзіс. — Мінск, 1980.

*Падокшын, С. А.* Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага / С. А. Падокшын. — Мінск, 1990.

## АД СТАРАЖЫТНАЙ ДА НОВАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ
(2 гадзіны)

Беларуская літаратура ў канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзя. Пераважна ананімны характар бытавання твораў. Узнікненне камічных, бурлескных твораў. Паступовы рух да ўтварэння новай літаратуры на народнай, дыялектнай моўнай аснове. Узнікненне і ўмацаванне ў літаратуры рэалістычных традыцый. Станаўленне новай беларускай літаратуры і яго асноўныя фактары (цікавасць да фальклору, народнага побыту, гістарычнага мінулага і традыцый).

Вусная народная творчасць — крыніца адраджэння беларускай літаратуры. Выкарыстанне тэм, сюжэтаў, паэтыкі вуснай народнай творчасці ў літаратурных творах. Беларускія і беларуска-польскія пісьменнікі: Я. Чачот, Т. Зан, І. Дамейка, В. Каратынскі, А. Ельскі (асноўныя постаці на выбар).

Паэма **«Энеіда навыварат»** (урыўкі). Пытанне аб аўтарстве паэмы і часе напісання. Ідэйны пафас і змест. Сувязь беларускай «Энеіды» з аднайменнымі творамі Вергілія і І. Катлярэўскага. Прыёмы камічнай абмалёўкі персанажаў. Жыццёвая пераканаўчасць вобразаў. Асаблівасці мовы твора (высокая лексіка, прастамоўі, вульгарызмы), роля вобразна-выяўленчых сродкаў.

♦ **Для самастойнага чытання**

*І. Катлярэўскі.* «Энеіда» (пераклад А. Куляшова); *К. Марашэўскі.* «Камедыя» (урыўкі).

***Тэорыя літаратуры.*** Агульнае паняцце пра барока, класіцызм, асветніцтва ў літаратуры. Травесційная літаратура. Бурлеск.

### Літаратура

Гісторыя беларускай літаратуры XI—XIX стагоддзяў: у 2 т. — Мінск, 2006. — Т. 2: Новая літаратура: другая палова XVIII—XIX стагоддзе[1].

---

[1] Пры вывучэнні іншых тэм па беларускай літаратуры XIX ст. таксама рэкамендуецца звяртацца да гэтага выдання.

Кісялёў, Г. Ад Чачота да Багушэвіча / Г. Кісялёў. — 2-е выд. — Мінск, 2003.

Кісялёў, Г. Жылі-былі класікі: Хто напісаў паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе» / Г. Кісялёў. — Мінск, 2005.

Слова пра літаратуру і літаратараў: літ.-крытыч. арт. па бел. літ.: у 2 кн. Кн. 1. XIX — пач. XX ст.: для ст. шк. узросту / уклад. В. В. Ашмян [і інш.]. — Мінск, 2001.

Хаўстовіч, М. В. Гісторыя беларускай літаратуры 30—40-х гг. XIX ст. / М. В. Хаўстовіч. — Мінск, 2001.

Цвірка, К. Камяні тых сядзібаў: Шляхі паэтаў XIX стагоддзя / К. Цвірка. — Мінск, 2004.

## РАМАНТЫЗМ ЯК ВЯДУЧЫ ЛІТАРАТУРНЫ НАПРАМАК

(4 гадзіны)

**Рамантызм** у еўрапейскім і беларускім мастацтве слова канца XVIII — першай паловы XIX ст. як вядучы літаратурны напрамак *(1 гадзіна)*.

Перадумовы ўзнікнення рамантызму. Пошукі ідэалу ў мінулым, у фантазіях пра будучыню, у экзатычных землях. Асаблівая ўвага да індывідуальнага свету чалавека.

**Адам Міцкевіч.** Паэма **«Гражына»** *(1 гадзіна)*.

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць паэта. Міцкевіч і Беларусь. Паэма «Гражына». Паэтычнае асэнсаванне народнай легенды, гісторыі беларускага народа. Рамантызацыя вобраза Гражыны. Вобразы Рымвіда і Літавура. Здрада ідэалу і духоўны крах асобы. Выяўленне ў творы рамантычнага светаўспрымання. Ідэя вернасці ў творы.

**♦ Для самастойнага чытання**

*Я. Чачот.* Вершы «Пакуль сонца ўзыйдзе...», «Да мілых мужычкоў», «На прыезд Адама Міцкевіча»; *А. Міцкевіч.* «Пан Тадэвуш» (урыўкі).

**Ян Баршчэўскі.** Апавяданні **«Шляхціц Завальня», «Белая сарока», «Плачка», «Сын Буры»** (са зборніка **«Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях»**) (на выбар) *(2 гадзіны)*.

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніка.

Галоўны літаратурны твор пісьменніка «Шляхціц Завальня» — зборнік фантастычных апавяданняў. Цесная сувязь

кнігі з беларускай міфалогіяй і фальклорам. Роля вобраза Завальні ў творы. Увага да ўнутранага свету герояў. Павучальнасць зместу апавяданняў. Рамантычныя сюжэты і вобразнасць. Сімволіка вобразаў.

**♦ Для самастойнага чытання**

*Я. Баршчэўскі.* 2—3 апавяданні са зборніка «Шляхціц Завальня».

***Тэорыя літаратуры.*** Паняцце пра рамантызм як літаратурны напрамак. Рамантычны герой.

***Мастацтва.*** А р х і т э к т у р а: палац у Снове (XIX ст.); Дом паляўнічага, палац Паскевічаў у Гомелі (XIX ст.); сядзіба Ваньковічаў у Мінску (XIX ст.).

С к у л ь п т у р а: *А. Заспіцкі.* Помнік Адаму Міцкевічу (Мінск); *С. Свістуновіч.* Помнік П. Багрыму (Крошын); *В. Янушкевіч.* Помнік Адаму Міцкевічу (Навагрудак).

Ж ы в а п і с: *В. Ваньковіч.* «Партрэт Адама Міцкевіча», «Міцкевіч на скале Аюдаг»; *У. Пракапцоў.* «А. Міцкевіч. Боль паэта» (1999); *В. Шаранговіч.* Ілюстрацыі да паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш».

М у з ы к а: *Ф. Шапэн.* Вальсы, мазуркі; *Ф. Шуберт.* «Няскончаная сімфонія».

**Літаратура**

Гісторыя беларускай літаратуры XIX — пачатак XX ст. / пад агул. рэд. М. А. Лазарука, А. А. Семяновіча. — 2-е выд. — Мінск, 1998.

*Ляшук, В. Я.* Вывучэнне творчасці Адама Міцкевіча ў школе / В. Я. Ляшук. — Мінск, 2003.

*Кісялёў, Г.* Ад Чачота да Багушэвіча / Г. Кісялёў. — 2-е выд. — Мінск, 2003.

*Мархель, У. І.* Шлях да Беларусі: Адам Міцкевіч — прадвеснік адраджэння беларускай літаратуры / У. І. Мархель. — Мінск, 2003.

Мархель, У. І. Прысутнасць былога / У. І. Мархель. — Мінск, 1997.

Слова пра літаратуру і літаратараў: літ.-крытыч. арт. па бел. літ.: у 2 кн. Кн. 1. XIX — пач. XX ст.: для ст. шк. узросту / уклад. В. В. Ашмян [і інш.]. — Мінск, 2001.

*Цвірка, К.* Лісце забытых алеяў / К. Цвірка. — Мінск, 1993.

*Хаўстовіч, М.* На парозе забытае святыні: Творчасць Яна Баршчэўскага / М. Хаўстовіч. — Мінск, 2002.

*Хаўстовіч, М.* Паэт і казачнік з азёрнага краю / М. Хаўстовіч // Баршчэўскі, Я. Выбраныя творы. — Мінск, 1998. — С. 3—28.

## ПА ШЛЯХУ СІНТЭЗУ: СЕНТЫМЕНТАЛІЗМ, РАМАНТЫЗМ, РЭАЛІЗМ (5 гадзін)

**Канстанцін Вераніцын.** Паэма **«Тарас на Парнасе»** *(1 гадзіна).*

Сатырычны і гуманістычны пафас твора. Сцвярджэнне ідэй народнасці ў літаратуры. Роля міфалагічных персанажаў у раскрыцці тэмы і ідэі твора. Тарас як тыповы народны герой, рысы яго характару: кемлівасць, абачлівасць, дасціпнасць. Гумарыстычныя элементы ў творы. Выяўленчае майстэрства аўтара ў абмалёўцы персанажаў. Гісторыка-літаратурнае значэнне паэмы.

♦ **Для самастойнага чытання**

*Уладзіслаў Сыракомля.* «Добрыя весці», «Не я пяю — народ Божы...», «Паштальён».

***Тэорыя літаратуры.*** Пачатковае паняцце пра народнасць літаратуры. Пародыя і бурлеск у літаратуры (паглыбленне паняццяў).

**Тарас Шаўчэнка.** Вершы: **«Думка» («Цяжка-цяжка жыць на свеце...»), «Садок вішнёвы каля хаты...»**; паэма **«Цары»** *(1 гадзіна).*

Т. Шаўчэнка і Беларусь.

Грамадзянскасць паэзіі Т. Шаўчэнкі. Патрыятычны пафас, боль за лёс роднай зямлі. Сувязь з фальклорам, песеннай творчасцю ўкраінскага народа. Мастацкая інтэрпрэтацыя падзей беларускай гісторыі ў паэме «Цары».

♦ **Для самастойнага чытання**

*Т. Шаўчэнка.* «Не грэе сонца на чужыне...».

***Мастацтва.*** Жывапіс: *Т. Шаўчэнка.* «Аўтапартрэт»; *М. Божы.* «Думы мае, думы...».

**Літаратура**

*Кісялёў, Г.* Жылі-былі класікі: Хто напісаў паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе» / Г. Кісялёў. — Мінск, 2005.

*Лойка, А. А.* Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд: у 2 ч. / А. А. Лойка. — 2-е выд. — Мінск, 1989. — Ч. 1.

*Мархель, У. І.* Творчасць Уладзіслава Сыракомлі / У. І. Мархель. — 2-е выд. — Мінск, 2005.

Нарысы беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей / навук. рэд. М. А. Тычына, У. І. Мархель. — Мінск, 2002.

**В і н ц э н т Д у н і н - М а р ц і н к е в і ч.** Камедыя **«Пінская шляхта»** *(3 гадзіны).*

Жыццёвы і творчы шлях пісьменніка.

**«Пінская шляхта».** Жанравае вызначэнне, сатырычны і гуманістычны пафас твора. Выкрыццё царскага чыноўніцтва. Вобраз Кручкова, яго тыповасць. Духоўная абмежаванасць засцянковай шляхты. Праблема бацькоў і дзяцей. Вобраз Куторгі. Майстэрства драматурга ў разгортванні інтрыгі, сюжэта, у стварэнні камічнага эфекту. Гратэск і шарж як прыёмы фарсавадэвіля. Значэнне творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча для беларускай літаратуры.

♦ **Для самастойнага чытання**

*В. Дунін-Марцінкевіч.* «Ідылія» або «Гапон».

***Тэорыя літаратуры.*** Фарс і вадэвіль як камедыйныя жанры.

***Мастацтва.*** А р х і т э к т у р а: Петрапаўлаўскі палац, Зімні палац у Санкт-Пецярбургу (XVIII—XIX стст.).

С к у л ь п т у р а: *А. Шатэрнік.* «Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч» (Мінск); *М. Якавенка.* Помнік В. Дуніну-Марцінкевічу (Тупальшчына, Валожынскі раён); *В. Янушкевіч.* «В. Дунін-Марцінкевіч» (гіпс).

Ж ы в а п і с: *І. Рэй.* «В. Дунін-Марцінкевіч з дочкамі Камілай і Цэзарынай»; *Я. Ціхановіч.* «Партрэт Вінцука Дуніна-Марцінкевіча»; *Т. Шаўчэнка.* «Аўтапартрэт».

М у з ы к а: *А. Гураў.* Музыка да спектакля «Пінская шляхта» (1988); *У. Кандрусевіч.* Мюзікл «Залёты» (паводле В. Дуніна-Марцінкевіча); *І. Лучанок.* Цыкл для голасу з суправаджэннем «О, Радзіма бацькоў»; *М. Равенскі.* Аперэта «Залёты».

**Літаратура**

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч: фотаальбом / склад. У. Содаль. — Мінск, 1997.

*Навуменка, І.* Вінцэнт Іванавіч Дунін-Марцінкевіч / І. Навуменка. — Мінск, 1992.

*Янушкевіч, Я.* Беларускі Дудар / Я. Янушкевіч. — Мінск, 1991.

## РЭАЛІЗМ ЯК ЛІТАРАТУРНЫ НАПРАМАК. ЗАХАВАННЕ ТЭНДЭНЦЫЙ РАМАНТЫЗМУ (5 гадзін)

Рэалізм як напрамак у сусветным мастацтве і літаратуры. Этапы развіцця: рэалізм эпохі Адраджэння, асветніцкі рэалізм, класічны рэалізм XIX стагоддзя.

Беларуская літаратура другой паловы XIX стагоддзя. Публіцыстыка і яе роля ў тагачасным грамадскім жыцці. Развіццё народнай публіцыстыкі. Ананімныя вершаваныя і празаічныя гутаркі («Вось які цяпер люд стаў», «Гутарка Данілы са Сцяпанам», «Сход»).

Узмацненне ў літаратуры Беларусі другой паловы XIX стагоддзя рэалістычных тэндэнцый. Рысы рамантызму ў творах Ф. Багушэвіча («Хцівец і скарб на святога Яна», «Быў у чысцы» і інш.), Я. Лучыны («Паляўнічыя акварэлькі з Палесся»).

**Кастусь Каліноўскі.** Газета **«Мужыцкая праўда», № 2; «Пісьмо з-пад шыбеніцы»**; верш **«Марыська чарнаброва, галубка мая»** *(1 гадзіна).*

Жыццёвы і творчы шлях К. Каліноўскага. Адлюстраванне яго поглядаў на гісторыю і асобу ў выданнях «Мужыцкай праўды». Выкарыстанне ў публіцыстыцы формы народнай гутаркі, фальклорнай сімволікі. Вобраз Беларусі ў творах К. Каліноўскага. «Пісьмо з-пад шыбеніцы» і верш «Марыська чарнаброва, галубка мая» як запавет нашчадкам.

♦ **Для самастойнага чытання**

*Р. Семашкевіч.* «Апошняя ноч Каліноўскага»; *У. Караткевіч.* «Гэта было 10 сакавіка 1864 года».

***Тэорыя літаратуры.*** Публіцыстыка як від літаратуры (паглыбленне паняцця).

**Літаратура**

Слова пра літаратуру і літаратараў: літ.-крытыч. арт. па бел. літ.: у 2 кн. Кн. 1. XIX — пач. XX ст. / уклад. В. В. Ашмян [і інш.]. — Мінск, 2001.

**Францішак Багушэвіч.** Прадмовы да зборнікаў **«Дудка беларуская»** і **«Смык беларускі»**; вершы: **«Мая дудка», «Ахвяра», «Хмаркі»**; паэма **«Кепска будзе!»** *(3 гадзіны).*

Жыццёвы і творчы шлях пісьменніка.

Уплыў паўстання 1863—1864 гадоў на творчасць Ф. Багушэвіча. Ідэйны змест прадмоў да зборнікаў «Дудка беларуская» і «Смык беларускі».

Месца паэта і паэзіі ў жыцці народа («Мая дудка»). Увасабленне ў паэзіі Ф. Багушэвіча грамадскіх ідэалаў («Ахвяра»). Алегарычны змест верша «Хмаркі».

**«Кепска будзе!».** Выкрыццё сацыяльнай несправядлівасці ў творы. Паказ жыццястойкасці беларускага народа. Роля айчыма ў лёсе Аліндаркі. Матыў трагічнасці і безвыходнасці. Гуманістычны ідэал аўтара ў паэме.

**♦ Для самастойнага чытання**

*Ф. Багушэвіч.* «Бог не роўна дзеле», «Мая хата», «Быў у чысцы», «Калыханка»; *А. Гурыновіч.* «Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею...»; *Э. Ажэшка.* «Зімовым вечарам» або «Хам».

***Тэорыя літаратуры.*** Рэалістычнае адлюстраванне жыцця ў літаратуры. Народнасць літаратуры (развіццё паняцця).

**Янка Лучына.** Верш **«Роднай старонцы»**; паэма **«Паляўнічыя акварэлькі з Палесся»** (ва ўрыўках)[1] *(1 гадзіна).*

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніка. Тэма радзімы ў лірыцы Янкі Лучыны.

**«Паляўнічыя акварэлькі з Палесся».** Чалавек і прырода — галоўная тэма твора. Спроба стварэння беларускага народнага характару сродкамі эпічнай паэзіі ў «Паляўнічых акварэльках з Палесся». Вобраз Грышкі. Гуманістычны пафас твора. Лучына-пейзажыст. Пераклічка з «Запіскамі паляўнічага»

---

[1] На выбар настаўніка.

І. С. Тургенева. Янка Лучына і Уладзіслаў Сыракомля. Якуб Колас і М. Багдановіч пра Янку Лучыну.

**♦ Для самастойнага чытання**

*Янка Лучына.* «Старасць не радасць», «З крывавых дзён» (арыгінальныя творы і пераклады Янкі Лучыны — на выбар).

***Тэорыя літаратуры.*** Чалавек і прырода ў творы.

***Мастацтва.*** А р х і т э к т у р а: Андрэеўская царква ў Кіеве (XVIII ст.); Марыінскі тэатр у Санкт-Пецярбургу (XIX ст.); Чырвоны касцёл у Мінску (XIX ст.).

С к у л ь п т у р а: *З. Азгур.* Помнік Кастусю Каліноўскаму (г. п. Свіслач); *З. Азгур.* Помнік Ф. Багушэвічу (Жупраны); *А. Анціпін.* «Правадыры паўстання — Кастусь Каліноўскі, Траўгут Рамуальд, Урублеўскі Валяр'ян»; *К. Асадаў.* «Францішак Багушэвіч» (скульптурны барэльеф); *С. Бандарэнка.* Праект помніка К. Каліноўскаму; *Л. Гумілеўскі.* «Кастусь Каліноўскі», «За зямлю, за волю»; *С. Логвін.* «Кастусь Каліноўскі. Роздум»; *Г. Лойка.* «Прысяга»; *В. Янушкевіч.* Барыльеф «1863 год».

Ж ы в а п і с: *В. Альшэўскі.* «Прароросткі паўстання»; *М. Апіёк.* «За волю»; *Г. Вашчанка.* «Клятва»; *У. Голуб.* «Легенда»; *А. Зіменка.* «Слова Кастуся»; *П. Сергіевіч.* «Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў 1863 г.», «К. Каліноўскі і В. Урублеўскі на аглядзе паўстанцаў»; *Я. Ціхановіч.* «Партрэт Францішка Багушэвіча»; *Л. Шчамялёў.* «Кастусь Каліноўскі»; *І. Шышкін.* «Лясны гушчар», «Дубы», «Балота (Палессе)»; *Ф. Янушкевіч.* Трыпціх «Кастусь Каліноўскі».

М у з ы к а: *С. Картэс.* Музыка да спектакля «Кастусь Каліноўскі» (паводле У. Караткевіча); *В. Кузняцоў.* Паэма «Кастусь Каліноўскі» (сл. Г. Бураўкіна); *Д. Лукас.* Опера «Кастусь Каліноўскі» (лібрэта М. Клімковіча); *М. Шчаглоў.* Прыкладная музыка да драматычнага спектакля «Кастусь Каліноўскі» (пастаноўка Я. Міровіча).

**Літаратура**

*Гапава, В.* Каралева жывога слова // Ажэшка, Э. Аповесці, апавяданні, нарысы / В. Гапава. — Мінск, 2000. — С. 3—18.

*Гарэцкі, М.* Гісторыя беларускае літаратуры / М. Гарэцкі. — Мінск, 1992.

*Запрудскі, І.* Новыя аспекты вывучэння творчасці Францішка Багушэвіча // Роднае слова / І. Запрудскі. — 2001. — № 3. — С. 52—56.

*Кісялёў, Г.* Радаводнае дрэва: Каліноўскі—эпоха—наступнікі / Г. Кісялёў. — Мінск, 1994.

*Кісялёў, Г.* Рыцар свабоды // Каліноўскі, К. За нашую вольнасць: Творы, дакументы / Г. Кісялёў. — Мінск, 1999. — С. 3—24.

*Кісялёў, Г.* Францішак Багушэвіч і паўстанне 1863 года // Роднае слова / Г. Кісялёў. — 2001. — № 3. — С. 89—93.

*Лойка, А.* Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд: у 2 ч. / А. Лойка. — 2-е выд. — Мінск, 1989. — Ч. 1.

Слова пра літаратуру і літаратараў: літ.-крытыч. арт. па бел. літ.: у 2 кн. Кн. 1. XIX — пач. XX ст.: для ст. шк. узросту / уклад. В. В. Ашмян [і інш.]. — Мінск, 2001.

*Содаль, У.* Сцежкамі Мацея Бурачка / У. Содаль. — Мінск, 1991.

Францішак Багушэвіч: фотаальбом / уклад. У. Содаль. — Мінск, 1986.

*Янушкевіч, Я.* За архіўным парогам / Я. Янушкевіч. — Мінск, 2002.

## ШЛЯХІ РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ Ў ПАЧАТКУ XX СТАГОДДЗЯ (20 гадзін)

**Сусветная і беларуская літаратура ў пачатку XX стагоддзя** *(1 гадзіна).*

Мастацкія кірункі, плыні, тэндэнцыі ў еўрапейскай літаратуры.

Беларуская літаратура пачатку XX стагоддзя, яе патрыятычны пафас і вернасць гуманістычным ідэалам. Роля газет «Наша доля», «Наша ніва» ў гісторыі айчыннай культуры і мастацтва слова.

Фарміраванне класічных асноў беларускай літаратуры. Прыход у літаратуру Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Багдановіча, Цёткі, Алеся Гаруна, М. Гарэцкага, В. Ластоўскага, Каруся Каганца, Ядвігіна Ш. і інш. Дыскусія на старонках «Нашай нівы» 1913 года пра шляхі развіцця беларускай літаратуры. Разнастайнасць літаратурных кірункаў і плыняў: рамантызм, рэалізм, сімвалізм, імпрэсіянізм і інш.

Станаўленне беларускага прафесіянальнага тэатра. Роля У. Галубка, Е. Міровіча ў станаўленні беларускага тэатра і драматургіі.

♦ **Для самастойнага чытання**

*Цішка Гартны.* 2—3 вершы на выбар настаўніка; *К. Буйло.* 2—3 вершы на выбар настаўніка; *А. Гурло.* 2—3 вершы на выбар настаўніка.

***Тэорыя літаратуры.*** Паняцце пра літаратурны працэс. Мастацкія кірункі і плыні ў літаратуры.

**Літаратура**

*Багдановіч, І. Э.* Авангард і традыцыя / І. Э. Багдановіч. — Мінск, 2001.

*Бельскі, А.* Свет ад травы да зор. Беларуская паэзія: сістэма вобразаў прыроды, паэтыка пейзажу / А. Бельскі. — Мінск, 1998.

*Васючэнка, П.* Беларуская літаратура XX стагоддзя і сімвалізм / П. Васючэнка. — Мінск, 2004.

Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: у 4 т.— Мінск, 1999. — Т. 1[1].

*Максімовіч, В. А.* Эстэтычныя пошукі ў беларускай літаратуры XX стагоддзя / В. А. Максімовіч. — Мінск, 2000.

*Семяновіч, А. А.* Гісторыя беларускай драматургіі: XIX — пачатак XX ст. / А. А. Семяновіч. — Мінск, 1985.

*Тарасюк, Л. К.* Мастацкія кірункі і плыні ў беларускай паэзіі XIX — пачатку XX ст. / Л. К. Тарасюк. — Мінск, 1999.

**Ц ё т к а.** Вершы: **«Мае думкі»**, **«Суседзям у няволі»**, **«Вера беларуса»**, **«Мора»** *(1 гадзіна).*

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніцы.

Зборнікі паэзіі «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская». Патрыятычны змест лірыкі Цёткі, паэтызацыя непаўторнасці і хараства Бацькаўшчыны. Пафас рэвалюцыйнай героікі. Рамантычна-сімвалічная вобразнасць вершаў. Яскравасць паэтычнага стылю: рытміка, інтанацыя, гукапіс, тропы, мастацкая дэталь.

♦ **Для самастойнага чытання**

*Леся Украінка.* 2—3 вершы; *Я. Райніс.* 2—3 вершы.

***Тэорыя літаратуры.*** Вершаскладанне, паэтычны сінтаксіс (паглыбленне паняццяў).

---

[1] Пры вывучэнні іншых тэм па беларускай літаратуры пачатку XX ст. таксама рэкамендуецца звяртацца да гэтага выдання.

***Мастацтва.*** Ж ы в а п і с: *М. Купава.* «Цётка»; *І. Пратасеня.* «Думы (Цётка)»; *Л. Шчамялёў.* «Край родны»; *Ф. Янушкевіч.* «Роздум. А. Пашкевіч (Цётка)».

М у з ы к а: *І. Лучанок.* Раманс «Як лілея на Дунаі»; *Ю. Семяняка.* Рамансы «Люблю мой сад», «Кася»; *Д. Смольскі.* «Арлы-брацці», «Вера беларуса», «Скрыпка».

**Літаратура**

*Арабей, Л.* Стану песняй...: Жыццё і творчасць Цёткі / Л. Арабей. — 2-е выд. — Мінск, 1990.

*Коўтун, В.* Стала песняю ў народзе / В. Коўтун. — Мінск, 1998.

Слова пра літаратуру і літаратараў: літ.-крытыч. арт. па бел. літ.: у 2 кн. Кн. 1. XIX — пач. XX ст.: для ст. шк. узросту / уклад. В. В. Ашмян [і інш.]. — Мінск, 2001.

**Я д в і г і н Ш.** Апавяданне **«Дуб-дзядуля»** *(1 гадзіна).*

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніка.

Увага да праблем чалавечага быцця, філасофскі сэнс твора «Дуб-дзядуля». Праблема сэнсу і каштоўнасці чалавечага існавання. Лірызм і псіхалагічная заглыбленасць. Прытчавая аснова апавядання.

Адметнасць творчай манеры Ядвігіна Ш. Мастацкія вартасці яго прозы.

♦ **Для самастойнага чытання**

*Ядвігін Ш.* «Бярозка».

***Тэорыя літаратуры.*** Персаніфікацыя. Пачатковае паняцце пра стыль пісьменніка.

**Я н к а К у п а л а.** Вершы: **«Мая малітва» («Я буду маліцца і сэрцам, і думамі...»), «Роднае слова», «Явар і каліна», «У вырай!» («Гэй, вольныя птахі, саколія дзеці!..»), «На ўсход!», «Паязджане»**; паэма **«Бандароўна»**; драма **«Раскіданае гняздо»** *(6 гадзін).*

Жыццёвы і творчы шлях пісьменніка.

**Лірыка.** Тэматычная шматграннасць і стылявая разнастайнасць лірыкі Янкі Купалы.

Асэнсаванне гістарычнага лёсу беларускага народа («Мая малітва» і інш.). Грамадзянскасць і публіцыстычнасць у вершах Янкі Купалы, жанравае, вобразнае, інтанацыйнае багацце

яго лірыкі («Роднае слова» і інш.). Ідэя вечнасці жыцця, кахання, гармонія чалавека і прыроды ў вершы «Явар і каліна».

Лірыка перыяду станаўлення беларускай дзяржаўнасці, 20—30-х гадоў. Аптымістычны і трагедыйны пафас вершаў («У вырай!», «Паязджане» і інш.). Заклікавы характар верша «На сход!». Сімволіка, гукапіс, моўнае майстэрства ў вершы «Паязджане».

**«Бандароўна».** Фальклорная першакрыніца паэмы. Сутнасць канфлікту. Вобразы-антыподы. Драматызм дзеяння. Маральнае хараство Бандароўны. Рамантычная аснова твора.

**«Раскіданае гняздо».** Сацыяльна-філасофскі, гуманістычны пафас і змест п'есы. Асноўныя сюжэтныя лініі. Жанр, кампазіцыя, развіццё драматычнага канфлікту. Галоўныя героі драмы, матывы паводзін. Пошукі маладым пакаленнем рэальных шляхоў вызвалення Бацькаўшчыны. Праўда Сымона і праўда Зоські. Старац як выразнік народнай маралі. Вобраз Незнаёмага ў сістэме дзеючых асоб п'есы. Ідэйны сэнс Вялікага сходу. Рэалізм драмы, рамантычная сімволіка і лірызм. Сімвалічнасць назвы твора. Сцэнічнае ўвасабленне п'есы.

**♦ Для самастойнага чытання**

*Янка Купала*. Вершы «Мая вера», «Не шукай», «Буралом», «І прыйдзе», «А зязюлька кукавала», «Прарок» і інш. (на выбар настаўніка); «Пакінем спадчыну...» (урывак з паэмы «Безназоўнае»).

***Тэорыя літаратуры*.** Жанры лірыкі (паглыбленне паняццяў). Выяўленне аўтарскай пазіцыі ў драматычным творы.

***Мастацтва*.** Скульптура: *З. Азгур*. Помнік Янку Купалу (Вязынка, Мінская вобласць); *А. Анікейчык*. Помнік Янку Купалу (Нью-Йорк, Араў парк); помнік Янку Купалу (скульптары *А. Анікейчык, Л. Гумілеўскі, А. Заспіцкі*, архітэктары *Ю. Градаў, Л. Левін*. Мінск); помнік Янку Купалу (скульптары *А. Заспіцкі, Г. Мурамцаў*, архітэктар *Ю. Казакоў*. Акопы).

Жывапіс: *А. Волкаў*. «Янка Купала на адпачынку»; *М. Гусеў*. «Янка Купала і Ян Райніс»; *І. Давідовіч*. «Янка Купала і Змітрок Бядуля ў рэдакцыі газеты “Наша Ніва”»; *Я. Зайцаў*. «Янка Купала і Максім Горкі»; *А. Кроль*. «Янка

Купала і Цётка ў Пецярбургу»; *Я. Раманоўскі.* «А хто там ідзе?»; *М. Савіцкі.* «Віленскія сустрэчы»; *У. Стальмашонак.* «Сыны Радзімы»; *Я. Ціхановіч, В. Шаранговіч.* «А хто там ідзе?».

М у з ы к а: *М. Аладаў.* Вакальны цыкл на вершы Янкі Купалы «З асенніх напеваў», «Лісты валяцца», «Бяспутнасць», «Лета», «Сасёнка»; *Я. Глебаў.* Балет «Абранніца»; *С. Картэс.* Араторыя «Памяці паэта»; *І. Лучанок.* Кантата «Курган»; *Р. Пукст.* Опера «Машэка»; *Ю. Семяняка.* «Явар і каліна»; *Д. Смольскі.* Араторыя «Паэт»; песні і рамансы на словы паэта (кампазітары *У. Алоўнікаў, А. Багатыроў, В. Войцік, Д. Камінскі, В. Кузняцоў, М. Літвін, І. Лучанок, А. Мдывані, Л. Мурашка, Д. Смольскі, У. Солтан, А. Чыркун*); «Песняры-2001»: кампакт-дыск; «Песняры. Залаты дыск»: кампакт-дыск; «Творы па беларускай літаратуры для завучвання на памяць (паэмы, вершы, проза, песні)»: мастацкае электроннае выданне на 2 кампакт-дысках — Мінск: Маст. літ., 2006—2007.

Т э а т р а л ь н а е м а с т а ц т в а: спектакль «Раскіданае гняздо» (Нацыянальны дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Максіма Горкага; рэж. *Б. Луцэнка*).

**Літаратура**


*Багдановіч, І. Э.* Янка Купала і рамантызм / І. Э. Багдановіч. — Мінск, 1989.

*Васючэнка, П. В.* Драматургічная спадчына Янкі Купалы / П. В. Васючэнка. — Мінск, 1994.

*Гніламёдаў, У. В.* Янка Купала: Жыццё і творчасць / У. В. Гніламёдаў. — Мінск, 2002.

*Гніламёдаў, У.* Янка Купала: Новы погляд / У. Гніламёдаў. — Мінск, 1995.

*Калеснік, У.* Тварэнне легенды / У. Калеснік. — Мінск, 1987.

*Колас, Г.* Карані міфаў: Жыццё і творчасць Янкі Купалы / Г. Колас. — Мінск, 1998.

*Навуменка, І.* Янка Купала / І. Навуменка. — Мінск, 1980.

Пуцявінамі Янкі Купалы / уклад. Г. В. Кісялёў. — Мінск, 1981.

*Рагойша, В.* Напісана рукой Купалы / В. Рагойша. — Мінск, 1981.

Янка Купала: Жыццё і творчасць / склад. І. Курбека. — Мінск, 1983.

Янка Купала ў творчасці мастакоў: фотаальбом / склад. Ю. Карачун. — Мінск, 1982.

Янка Купала: энцыкл. даведнік / рэдкал. І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск, 1986.

*Ярош, М. Р.* Песняр роднай зямлі: Жыццё і творчасць Янкі Купалы / М. Р. Ярош. — 2-е выд. — Мінск, 2003.

**Я к у б К о л а с.** Вершы **«Не бядуй!», «Беларусам», «Родныя вобразы», «Першы гром»**; паэма **«Новая зямля»** (раздзелы на выбар настаўніка); трылогія **«На ростанях»** (частка першая — «У палескай глушы») *(6 гадзін).*

Жыццёвы і творчы шлях пісьменніка.

Лірыка. Элегічнае і аптымістычнае ў паэзіі Якуба Коласа («Не бядуй!», «Беларусам»). Паэтызацыя роднай прыроды («Родныя вобразы», «Першы гром»). Роля перыфразы ў вершы «Беларусам». Рытміка-інтанацыйны лад вершаў Якуба Коласа.

**«Новая зямля»** — мастацкая энцыклапедыя народнага жыцця. Аўтабіяграфічнасць паэмы, яе творчая гісторыя. Жанравыя асаблівасці твора. Народны побыт і прырода ў паэме. Вобразы ў паэме: мудрасць і душэўная прыгажосць Антося, Ганны; вобразы дзяцей. Трагедыя лёсу Міхала. Філасофская ідэя зямлі і волі. Сімвалічны сэнс назвы твора. Паэтычнае майстэрства Якуба Коласа.

Трылогія **«На ростанях».** Гісторыя напісання і праблематыка, асаблівасці сюжэта і кампазіцыі твора, яго аўтабіяграфізм. Асоба Андрэя Лабановіча. Народ і інтэлігенцыя ў творы. Жаночыя вобразы. Майстэрства Коласа-празаіка: псіхалагізм, багацце мовы, мастацкая дэталізацыя. «Палескі каларыт» твора.

Месца і значэнне творчасці Якуба Коласа ў беларускай літаратуры.

♦ **Для самастойнага чытання**

*Якуб Колас.* Паэма «Сымон-музыка» (ва ўрыўках).

***Тэорыя літаратуры.*** Паглыбленне паняццяў пра ліра-эпічныя творы (паэма-эпапея), пра эпас і яго жанры. Творчая гісторыя мастацкага твора. Герой і прататып. Індывідуальны стыль пісьменніка (развіццё паняцця).

***Мастацтва.*** С к у л ь п т у р а: *З. Азгур.* Помнік Якубу Коласу (архітэктары *Ю. Градаў, Л. Левін*); мастацка-мемарыяльны комплекс «Шлях Коласа».

Ж ы в а п і с: *У. Стальмашонак.* «Якуб Колас»; *У. Сулкоўскі.* Серыя палотнаў «Радзіма Якуба Коласа».

М у з ы к а: *У. Алоўнікаў.* «Дуб», «Глуха шэпча лес», «Мой родны кут»; *А. Багатыроў.* Опера «У пушчах Палесся» (лібрэта Я. Рамановіча); *С. Бельцюкоў.* Вакальна-інструментальная музыка «Вандроўнікі» (словы Якуба Коласа і Максіма Танка), «Забыты богам край» (словы Якуба Коласа і Янкі Купалы, 1995); *Д. Даўгалёў.* «Ручэй», «Лес»; *Л. Захлеўны.* «На новай зямлі»; *В. Іваноў.* Музычная паэма «Сымон-музыка»; *І. Лучанок.* «Ганулька», «Надышлі марозы», «Каханне», «Знае толькі Бог адзіны», «Роднаму краю»; *У. Мулявін.* «Каханне»; *Ю. Семяняка.* «Добра ў лузе ў час палудні»; *Л. Шлег.* «Песні зямлі» (для дзвюх салістак і фартэпіяннага квінтэта); песні і рамансы на словы паэта (кампазітары *А. Абіліёвіч, С. Картэс, Э. Тырманд*); «Творы па беларускай літаратуры для завучвання на памяць (паэмы, вершы, проза, песні)»: мастацкае электроннае выданне на 2 кампакт-дысках — Мінск: Маст. літ., 2006—2007.

**Літаратура**

*Жураўлёў, В. П.* Актуальнасць традыцый: Якуб Колас у пісьменніцкім асяродку / В. П. Жураўлёў. — Мінск, 2002.

*Жураўлёў, В. П.* Якуб Колас і паэтыка беларускага рамана / В. П. Жураўлёў. — 2-е выд. — Мінск, 2004.

*Лужанін, М.* Колас расказвае пра сябе / М. Лужанін. — Мінск, 1982.

*Ляшук, В. Я.* Вывучэнне творчасці Якуба Коласа ў школе / В. Я. Ляшук. — Мінск, 2006.

*Мушынскі, М.* Свайму часу і вечнасці // Колас, Я. Збор твораў у 20 т. / М. Мушынскі. — Мінск, 2007. — Т. 1. — С. 8—144.

*Мушынскі, М.* Якуб Колас: Летапіс жыцця і творчасці / М. Мушынскі. — Мінск, 1982.

*Навуменка, І.* Якуб Колас: Нарыс жыцця і творчасці / І. Навуменка. — 2-е выд. — Мінск, 2003.

*Пшыркоў, Ю.* Летапісец свайго народа: Жыццёвы і творчы шлях Якуба Коласа / Ю. Пшыркоў. — Мінск, 1982.

*Чыгрын, І. П.* Рэальнае і магчымае: Проза Якуба Коласа / І. П. Чыгрын. — Мінск, 1991.

Якуб Колас: Жыццё і творчасць: альбом / склад. Д. Міцкевіч [і інш.]. — Мінск, 1974.

Якуб Колас: Жыццё і творчасць: матэрыялы для выстаўкі ў шк. / склад. І. Курбека, М. Базарэвіч. — Мінск, 1980.

Якуб Колас у творчасці мастакоў / склад. Ю. Карачун. — Мінск, 1982.

**Максім Багдановіч.** Вершы: **«Песняру», «Мяжы», «Санет» («Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі...»), «Летапісец», «Плакала лета, зямлю пакідаючы...», «Маладыя гады», «Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы...», «Жывеш не вечна, чалавек...», «Страцім-лебедзь»** *(4 гадзіны).*

Жыццёвы і творчы шлях паэта.

Погляды М. Багдановіча на прызначэнне паэта ў грамадстве («Песняру»). Вобраз радзімы ў лірыцы паэта («Санет» і інш.). Зварот да культурна-гістарычнай спадчыны Беларусі. Скіраванасць да агульначалавечай праблематыкі. Багацце духоўнага свету лірычнага героя. Пошукі гармоніі, услаўленне красы жыцця і мастацтва. Рытмічнае багацце і меладычнасць верша.

**«Страцім-лебедзь».** Сінтэтычнасць жанру. Паэтычная інтэрпрэтацыя біблейскага міфа. Роля баладнай формы ў актуалізацыі сімволікі твора. Сімвалічны вобраз Страцім-лебедзя. Гармонія зместу і формы ў творы.

Сувязь творчасці Багдановіча з класічнай спадчынай і сусветнай паэзіяй. Вобраз Багдановіча ў паэзіі і мастацтве.

♦ **Для самастойнага чытання**

*М. Багдановіч.* 3—4 вершы; апавяданне «Апокрыф»; *Максім Танк.* «Над магілай Багдановіча»; *У. Караткевіч.* «Багдановічу»; творы *П. Верлена*, *А. Рэмбо* ў перакладах на беларускую мову (на выбар).

***Тэорыя літаратуры.*** Нацыянальнае і агульначалавечае ў літаратуры (развіццё паняцця). Паняцце аб прыгожым. Форма і змест верша (паглыбленне паняцця).

***Мастацтва.*** Скульптура: *С. Вакар.* Помнік М. Багдановічу; *Л. Гумілёўскі.* «Максім Багдановіч»; *Э. Грубэ.* Скульптурны партрэт М. Багдановіча; *В. Янушкевіч.* «Зорка Максіма Багдановіча» (бронза).

Жывапіс: *Г. Вашчанка.* «М. Багдановіч»; *В. Волкаў.* «М. Багдановіч»; *А. Лапіцкая.* «Максім Багдановіч» (каляро-

вая літаграфія); *У. Новак.* «М. Багдановіч у Ялце»; *У. Пасюкевіч.* «У краіне светлай»; *І. Рэй.* «Шлях паэта».

М у з ы к а: *Г. Гарэлава.* Вакальны цыкл «Дзявочыя песні»; *А. Клеванец.* Араторыя «Беларускі народ»; *В. Кузняцоў.* Кантата для хору і тэнара «Ціхія песні»; *І. Лучанок.* «Вераніка»; *І. Палівода.* Рок-опера «Максім»; *А. Смольскі.* Араторыя «Памяці паэта»; *Ю. Семяняка.* Опера «Зорка Венера»; *Я. Тарасевіч.* «Асенняя песня (Плакала лета)»; *Л. Шлег.* Вакальны цыкл «Вянок»; песні і рамансы на словы паэта (кампазітары *А. Абіліёвіч, А. Аладаў, А. Багатыроў, У. Мулявін, І. Палівода, А. Туранкоў, Э. Тырманд*).

**Літаратура**

*Бачыла, А.* Дарогамі Максіма Багдановіча / А. Бачыла. — 2-е выд. — Мінск, 1983.

*Бярозкін, Р.* Чалавек напрадвесні: Расказ пра Максіма Багдановіча / Р. Бярозкін. — Мінск, 1986.

*Ватацы, Н.* Шляхі / Н. Ватацы. — Мінск, 1986.

*Зубараў, Л.* Максім Багдановіч / Л. Зубараў. — Мінск, 1989.

*Каханоўскі, Г.* А сэрца ўсё імкне да бацькаўскага краю...: З біяграфіі М. Багдановіча / Г. Каханоўскі. — Мінск, 1991.

*Конан, У.* Святло паэзіі і цені жыцця: Лірыка Максіма Багдановіча / У. Конан. — Мінск, 1991.

Максім Багдановіч: Жыццё і творчасць: матэрыялы для выстаўкі ў шк. / склад. Н. Ватацы, А. Лойка. — Мінск, 1968.

*Навуменка, І.* Максім Багдановіч / І. Навуменка. — 2-е выд. — Мінск, 2004.

*Стральцоў, М.* Загадка Багдановіча / М. Стральцоў. — Мінск, 1968.

**А л е с ь  Г а р у н.** Вершы: **«Ты, мой брат, каго зваць Беларусам...», «Ідуць гады»** *(1 гадзіна).*

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніка.

Зборнік вершаў «Матчын дар». Вызваленча-патрыятычныя, агульначалавечыя матывы («Ты, мой брат, каго зваць Беларусам...»). Абвостранае пачуццё любові да радзімы. Тэма сэнсу жыцця, прызначэння чалавека («Ідуць гады»). Філасафічнасць і публіцыстычнасць вершаў.

♦ **Для самастойнага чытання**

*Алесь Гарун.* «Паэту», «Жыццё», «У прыпар», «Мяцеліца», «Малітва» і інш. (на выбар настаўніка).

**Літаратура**

*Казбярук, У.* Светлай волі зычны звон: Алесь Гарун / У. Казбярук. — Мінск, 1991.

Слова пра літаратуру і літаратараў: літ.-крытыч. арт. па бел. літ.: у 2 кн. Кн. 1. XIX — пач. XX ст.: для ст. шк. узросту / уклад. В. В. Ашмян [і інш.]. — Мінск, 2001.

У с я г о: на вывучэнне твораў — 49 гадзін;
на творчыя работы — 4 гадзіны.

### Рэкамендацыйны спіс твораў для завучвання на памяць

*Ф. Скарына.* Урывак з прадмовы да кнігі «Юдзіф».

*М. Багдановіч.* «Санет» («Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі...»).

*М. Гусоўскі.* Урывак з паэмы «Песня пра зубра» (на выбар настаўніка).

*Ф. Багушэвіч.* Верш «Хмаркі».

*Янка Купала.* Верш «Явар і каліна».

*Якуб Колас.* «Родныя вобразы»; урывак з паэмы «Новая зямля» (на выбар настаўніка).

### Рэкамендацыйны спіс твораў для пазакласнага чытання

«Дрэва вечнасці: кніга для пазакласнага чытання» (уклад. В. Кушнярэвіч).

*А. Абуховіч.* Вершы.

*У. Арлоў.* «Дзень, калі ўпала страла».

*М. Арочка.* «Судны дзень Скарыны».

*Г. Багданава.* «Космас Драздовіча».

*Д. Бічэль.* Вершы са зб. «А на Палессі»: «Замест запавету», «На пляцы пятлі», «Еўфрасіння Полацкая», «Словам Скарыны», «Вершатворца Сімяон Полацкі», «Літанне».

*Т. Бондар.* «Рагнеда».

*А. Бутэвіч.* «Каралева не здраджвала каралю».

*П. Верлен.* «У месяцавым ззянні...» (пераклад А. Лойкі).

Зб. «Карона Вітаўта Вялікага».

*В. Іпатава.* «Прадслава».

*С. Кавалёў.* «Трышчан ды Іжота», «Звар'яцелы Альберт».

*Карусь Каганец.* «Модны шляхцюк».

*У. Караткевіч.* «Дрэва вечнасці», «Лятучы Галандзец», «Скрыпка дрыгвы».

*М. Кацюбінскі.* «Цені забытых продкаў».

*Я. Конеў.* «Глеб Менскі».

*В. Коўтун.* «Крыж міласэрнасці», «Пакліканыя».

*Ю. Крашэўскі.* «Хата за вёскай».

*А. Куляшоў.* «Хамуціус».

*Г. Лангфела.* «Спеў аб Гаяваце».

*А. Лойка.* «Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае», «Як агонь, як вада».

*М. Лужанін.* «Колас расказвае пра сябе».

«Мае браты, мае суседзі» (уклад. Т. Кабржыцкая, В. Рагойша).

*А. Мальдзіс.* «Восень пасярод вясны», «Як жылі нашы продкі ў XVIII ст.».

*М. Маляўка.* Зб. «Старая зямля».

*А. Марціновіч.* Зб. «Хто мы, адкуль мы».

*Б. Мікуліч.* «Развітанне».

*А. Наварыч.* «Літоўскі воўк».

*А. Наўроцкі.* «Валун».

*Л. Рублеўская.* Зб. «Пярсцёнак апошняга імператара», «Свой пачэсны пасад» (кніга пра Янку Купалу).

*Ш. Руставелі.* «Віцязь у тыгравай шкуры».

*В. Скот.* «Айвенга».

*К. Тарасаў.* «Памяць пра легенды», «Тры жыцці княгіні Рагнеды».

*Я. Чачот.* «Наваградскі замак».

*Т. Шаўчэнка.* Вершы. Паэмы.

*Ш. дэ Кастэр.* «Легенда пра Ціля Уленшпігеля».

## АСНОЎНЫЯ ВІДЫ ВУСНЫХ І ПІСЬМОВЫХ РАБОТ ПА ЛІТАРАТУРЫ Ў IX КЛАСЕ

Выразнае чытанне мастацкіх твораў розных жанраў.

Вусны і пісьмовы пераказ празаічных тэкстаў, ускладнены элементамі разважання.

Аргументаванне ўласных ацэнак герояў і падзей.

Сачыненне-апісанне малюнкаў прыроды, выгляду герояў (на падставе вывучаных твораў).

Параўнальная характарыстыка літаратурных герояў аднаго твора і розных твораў (сачыненне-разважанне).

Вусны і пісьмовы водгук на самастойна прачытаную кнігу, прагледжаны спектакль, кінафільм, тэлеперадачу.

Супастаўленне літаратурных твораў з ілюстрацыямі да іх.

Даклад або рэферат на літаратурную тэму (па вывучаных творах).

Канспект прачытаных літаратурна-крытычных прац.

Вопыты мастацка-творчага характару: мастацкія замалёўкі, апавяданні, нарысы, вершы.

### АСНОЎНЫЯ ПАТРАБАВАННІ ДА ВЕДАЎ, УМЕННЯЎ І ЛІТАРАТУРНАГА РАЗВІЦЦЯ ВУЧНЯЎ IX КЛАСА

Вучні павінны в е д а ц ь:

асноўныя этапы і заканамернасці развіцця беларускай літаратуры (ад старажытных часоў да пачатку XX стагоддзя) у суаднясенні з развіццём сусветнай літаратуры;

сутнасць і характэрныя асаблівасці асноўных мастацкіх сістэм (барока, класіцызм, асветніцтва, сентыменталізм, рамантызм, рэалізм, мадэрнізм), родаў і жанраў літаратуры;

змест асноўных тэарэтыка-літаратурных паняццяў, патрэбных для аналізу і ацэнкі мастацкіх твораў;

найбольш важныя звесткі пра жыццё і творчасць пісьменнікаў;

сюжэт і сістэму вобразаў вывучаных твораў, іх праблематыку;

тэксты, рэкамендаваныя праграмай для завучвання на памяць.

Вучні павінны ў м е ц ь:

удумліва і творча чытаць літаратурныя творы, успрымаць іх на эмацыянальна-вобразным узроўні ў адзінстве ідэйнага зместу і мастацкай формы, самастойна іх асэнсоўваць;

вызначаць прыналежнасць твора да пэўнага літаратурнага мастацкага напрамку, роду і жанру;

вызначаць асноўную праблему твора;

характарызаваць літаратурнага героя;

суадносіць ідэі і характары з уласным жыццёвым вопытам, аргументаваць сваю ацэнку герояў і падзей;

супастаўляць герояў розных твораў і вылучаць у іх характарах і паводзінах агульнае і адрознае;

вызначаць сувязь паміж героямі твора і эпохай;

вызначаць узаемасувязь і ўзаемазалежнасць састаўных частак твора (сюжэт, кампазіцыя, тэма, ідэя, мастацкія сродкі);

даваць вусны або пісьмовы разгорнуты адказ на праблемнае пытанне па вывучаным творы;

пісаць сачыненні на літаратурную тэму;

рыхтаваць вусны і пісьмовы водгук на прачытаную кнігу, прагледжаныя кінафільм, спектакль, тэлеперадачу;

рыхтаваць даклад (рэферат) з выкарыстаннем літаратуразнаўчых крыніц;

карыстацца даведачна-інфармацыйнай літаратурай (літаратурна-крытычныя артыкулы, слоўнікі, даведнікі, энцыклапедыі і інш.).

# X КЛАС

**(53 гадзіны)**

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ПЕРШАЙ ТРЭЦІ XX СТАГОДДЗЯ

(17 гадзін)

**Беларуская літаратура першай трэці XX ст.** на фоне гістарычных падзей і развіцця сусветнай літаратуры *(1 гадзіна).*

Актывізацыя літаратурна-грамадскага руху і ўздым культурнага будаўніцтва ў 1920-я гады, пераемнасць у развіцці літаратуры з «нашаніўскім» перыядам.

Літаратурныя аб'яднанні «Маладняк», «Узвышша», «Полымя», іх роля ў гісторыі айчыннага пісьменства. Творчасць пісьменнікаў старэйшага пакалення — Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Гарэцкага, Змітрака Бядулі. Прыход у літаратуру творчай моладзі — Міхася Чарота, У. Дубоўкі, М. Лынькова, Кандрата Крапівы, Міхася Зарэцкага, Кузьмы Чорнага, Язэпа Пушчы, Лукаша Калюгі, П. Броўкі і інш. Творчыя здабыткі і пошукі 1920-х гадоў і іх спад у 1930-я гады пад уплывам ідэалагізацыі літаратурнага жыцця. Ліквідацыя літаратурных аб'яднанняў, абвяшчэнне сацыялістычнага рэалізму адзіным творчым метадам. Становішча, у якім апынуліся беларускія пісьменнікі ў 1930-я гады. Утварэнне Саюза пісьменнікаў СССР (1934 г.).

Літаратура Заходняй Беларусі, яе сувязь з агульнанацыянальнай літаратурай (У. Жылка, Максім Танк, М. Машара, В. Таўлай, Міхась Васілёк і інш.).

♦ **Для самастойнага чытання**

*Т. Кляшторны.* 2—3 вершы са зб. «Кляновыя завеі»; *М. Лынькоў.* 2—3 апавяданні; *Міхась Чарот.* 2—3 вершы; *Лукаш Калюга.* 2—3 апавяданні.

***Тэорыя літаратуры.*** Літаратурны працэс. Рэалізм, мадэрнізм і яго плыні (паглыбленне паняццяў).

***Мастацтва.*** М у з ы к а: *М. Равенскі.* Песня «Моладзь» (сл. Міхася Чарота); *А. Туранкоў.* Опера «Кветка шчасця» (п'еса Міхася Чарота «На Купалле»).

Ж ы в а п і с: *А. Лісіцкі.* Плакат «Клінам чырвоным бі белых»; *В. Волкаў.* «Маладняковец»; *М. Гусеў.* «Партрэт М. Чарота»; *Я. Драздовіч.* Афармленне часопіса «Рунь»; *М. Станюта.* «Смутак», «Будаўніцтва Універсітэцкага гарадка»; *М. Філіповіч.* «Супрэматычнае кола», «Супрэматызм»; *Т. Ціхаў.* «Вогненны анёл»; *М. Шагал.* «Мір хацінам, вайна палацам».

**Літаратура**

*Андреев, Л. Г.* Зарубежная литература XX века / Л. Г. Андреев [и др.]; под ред. Л. Г. Андреева. — М., 1996.

Беларускія пісьменнікі і літаратурны працэс 20—30-х гадоў. — Мінск, 1985.

Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: у 4 т.— Мінск, 1999—2003. — Т. 2—3[1].

Гісторыя беларускай літаратуры: XX стагоддзе: 20—50-я гг. / пад агул. рэд. М. А. Лазарука, А. А. Семяновіча. — 2-е выд. — Мінск, 2000.

*Лявонава, Е.* Плыні і постаці: з гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы XIX — XX стагоддзя / Е. Лявонава. — Мінск, 1998.

*Максімовіч, В. А.* Беларуская літаратура першай трэці XX стагоддзя: вучэб. дапам. / В. А. Максімовіч. — Мінск, 2006.

*Мішчанчук, М. І.* Беларуская літаратура XX ст. / М. І. Мішчанчук, І. С. Шпакоўскі. — Мінск, 2001.

*Семяновіч, А. А.* Гісторыя беларускай савецкай драматургіі: 1917—1955 гг. / А. А. Семяновіч. — Мінск, 1990.

*Чыгрын, І. П.* Крокі: проза «Узвышша» / І. П. Чыгрын. — Мінск, 1989.

*Чыгрын, І. П.* Проза «Маладняка» / І. П. Чыгрын. — Мінск, 1985.

[1] Пры вывучэнні іншых тэм па беларускай літаратуры першай паловы XX ст. таксама рэкамендуецца звяртацца да гэтага выдання.

**М а к с і м  Г а р э ц к і.** Апавяданні: **«Роднае карэнне», «Літоўскі хутарок»** *(3 гадзіны).*

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніка.

**«Роднае карэнне».** Тэма вернасці роднай зямлі, служэння інтэлігенцыі народу. Вобраз Архіпа Лінкевіча — вясковага інтэлігента з абуджаным сумленнем, пачуццём абавязку перад людзьмі, якія імкнецца пазнаць жыццё, знайсці «першапрычыну ўсякае істоты». Жыццёвая мудрасць дзеда Яхіма, яго запавет маладому пакаленню.

**«Літоўскі хутарок».** Суровая праўда пра Першую сусветную вайну, выкрыццё яе антынароднай, антычалавечай сутнасці. Аўтабіяграфічнасць апавядання. Рэалістычная праўдзівасць адлюстравання трагедыйнасці народнага жыцця. Гуманістычная канцэпцыя пісьменніка. Вобраз Яна Шымкунаса — бескарыслівага, высакароднага, гуманнага чалавека.

♦ **Для самастойнага чытання**

*М. Гарэцкі.* 2—3 апавяданні; «На імперыялістычнай вайне» (ва ўрыўках).

***Тэорыя літаратуры.*** Вобраз апавядальніка (паглыбленне паняцця).

***Мастацтва.*** С к у л ь п т у р а: *Э. Астаф'еў.* Рэльефны партрэт М. Гарэцкага для мемарыяльнай дошкі.

Т э а т р а л ь н а е  м а с т а ц т в а: спектакль «Атрута» (рэж. *М. Стрыжоў*).

**Літаратура**

*Адамовіч, А.* Браму скарбаў сваіх адчыняю… / А. Адамовіч. — Мінск, 1980.

*Бугаёў, Д.* Максім Гарэцкі / Д. Бугаёў. — Мінск, 2004.

*Дасаева, Т.* Летапіс жыцця і творчасці Максіма Гарэцкага / Т. Дасаева. — Мінск, 1993.

*Лявонава, Е. А.* Агульнае і адметнае: Творы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры / Е. А. Лявонава. — Мінск, 2003.

Максім Гарэцкі: успаміны, артыкулы, дакументы. — Мінск, 1984.

*Мушынская, Т. Ф.* Беларуская літаратура 20—40-х гадоў XX стагоддзя / Т. Ф. Мушынская. — Мінск, 2000.

Слова пра літаратуру і літаратараў: літ.-крытыч. арт. па бел. літ.: у 2 кн. Кн. 1. XIX — пач. XX ст.: для ст. шк. узросту / уклад. В. В. Ашмян [і інш.]. — Мінск, 2001.

*Чыгрын, І. П.* Паміж былым і будучым: проза Максіма Гарэцкага / І. П. Чыгрын. — 2-е выд. — Мінск, 2003.

**Змітрок Бядуля.** Абразкі, лірычныя мініяцюры: **«Плач пралескаў», «Нібы рупны араты...»**; апавяданне **«Бондар»** *(2 гадзіны).*

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніка.

**Абразкі і лірычныя мініяцюры.** Рамантычная настраёвасць твораў, захапленне прыгажосцю роднага краю, спалучаныя з рэалістычным адлюстраваннем жыцця. Лірычны герой-рамантык — асоба ўзвышаная, духоўна багатая. Пошукі сэнсу жыцця, прызначэння чалавека; паяднанасць чалавека з прыродай, роднай зямлёй. Адметнасці жанру: вобразная асацыятыўнасць, метафарычнасць, маналагічнасць формы, рытміка-інтанацыйны лад.

**«Бондар».** Вырашэнне тэмы мастака і мастацтва ў кантэксце сацыяльных праблем. Вобраз майстра-працаўніка. Асуджэнне эстэтычнай неразвітасці, чэрстваcці і абыякавасці. Мастацкія адметнасці твора: сціслаcць, драматызм, псіхалагізм, народная вобразнасць мовы.

♦ **Для самастойнага чытання**

*Змітрок Бядуля.* 2—3 творы.

***Тэорыя літаратуры.*** Абразок, лірычная мініяцюра як жанры малой прозы.

**Літаратура**

*Каваленка, В.* Пошукі і здзяйсненні / В. Каваленка. — Мінск, 1963.

*Навуменка, І.* Змітрок Бядуля / І. Навуменка. — Мінск, 2005.

**Уладзімір Дубоўка.** Вершы **«Залатая асенняя раніца», «О Беларусь, мая шыпшына...», «Пальцы жоўтых кляновых лістоў», «Родная мова, цудоўная мова...»** *(2 гадзіны).*

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць паэта.

Асноўныя матывы лірыкі. Услаўленне сілы народа, духоўнасці, вольналюбства чалавека, паэтызацыя красы прыроды, кахання. Высокая культура верша, шчыры лірызм, асацыятыўная вобразнасць, багацце жанравых формаў. Сувязь лірыкі з традыцыямі фальклору, паэзіяй Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Багдановіча. Жанрава-стылёвыя асаблівасці лірыкі.

♦ **Для самастойнага чытання**

*У. Жылка.* 2—3 вершы; *Язэп Пушча.* 2—3 вершы са зб. «Дні вясны».

***Мастацтва.*** М у з ы к а: *М. Равенскі.* Опера «Браніслава» (лібр. У. Дубоўкі, 1930); песні: «На прасторах сініх», «Нас спавівалі», «Ліпнёвы гімн» (сл. У. Дубоўкі), «Месячыку-Месяц» (сл. У. Жылкі); *М. Шчаглоў (Куліковіч).* Рамансы: «О Беларусь, мая шыпшына», «А вясна ідзе на Беларусі» (сл. У. Дубоўкі).

Ж ы в а п і с: жывапіс імпрэсіяністаў; *П. Драчоў.* Ілюстрацыі да кнігі «Выбраныя творы» У. Дубоўкі (Т. 1, 2, 1965); *Н. Шчасная.* «Пісьменнік У. М. Дубоўка».

**Літаратура**

*Багдановіч, І.* Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння / І. Багдановіч. — Мінск, 2001.

*Бугаёў, Д.* Уладзімір Дубоўка: кніга пра паэта / Д. Бугаёў. — Мінск, 2005.

*Дубоўка, У.* Пялёсткі: апавяданні-ўспаміны / У. Дубоўка. — Мінск, 1973.

*Кабаковіч, А.* Беларускі свабодны верш / А. Кабаковіч. — Мінск, 1984.

*Калеснік, У.* Ветразі Адысея: У. Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі / У. Калеснік. — Мінск, 1977.

**К а н д р а т  К р а п і в а.** Байкі: **«Дыпламаваны Баран», «Махальнік Іваноў»**; камедыя **«Хто смяецца апошнім»** *(4 гадзіны).*

Жыццёвы і творчы шлях пісьменніка.

**Байкі.** Выкрыццё бескультур’я, амаральнасці, некампетэнтнасці, бяздушнага стаўлення да сумленных працаўнікоў, высмейванне самаўпэўненасці, нахабства, тупасці, падхалімства і іншых чалавечых заган.

**«Хто смяецца апошнім».** Час напісання твора. Актуальнасць праблем, узнятых у камедыі. Сюжэтная аснова камедыі. Канфлікт у п’есе. Маштабнасць сатырычных вобразаў Гарлахвацкага і Зёлкіна. Эвалюцыя характару Тулягі. Вобразы — носьбіты аўтарскай пазіцыі: Чарнавус, Левановіч, Вера. Сродкі і прыёмы сатырычнай тыпізацыі і індывідуалізацыі. Мова пер-

санажаў як сродак раскрыцця іх характараў. Сцэнічнае жыццё камедыі. Значэнне творчасці Кандрата Крапівы ў развіцці беларускай драматургіі.

♦ **Для самастойнага чытання**

*Кандрат Крапіва.* 2—3 байкі; камедыя «Брама неўміручасці».

***Тэорыя літаратуры.*** Жанрава-тэматычная разнастайнасць байкі. Камічнае ў мастацкай літаратуры. Сатырычная камедыя. Канфлікт у драматычным творы (паглыбленне паняцця).

**Літаратура**

*Бугаёў, Д.* Зброяй сатыры, зброяй праўды / Д. Бугаёў. — 2-е выд. — Мінск, 2004.

*Лаўшук, С. С.* Кандрат Крапіва і беларуская драматургія / С. С. Лаўшук. — 2-е выд. — Мінск, 2002.

*Сабалеўскі, А.* Кандрат Крапіва: постаць і творы / А. Сабалеўскі. — 2-е выд. — Мінск, 2003.

**Андрэй Мрый.** Раман **«Запіскі Самсона Самасуя»** *(2 гадзіны).*

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніка.

Раман **«Запіскі Самсона Самасуя»** — твор пра анамаліі грамадскага жыцця сярэдзіны 1920-х гадоў. Рэальная аснова твора. Галоўны герой рамана Самсон Самасуй. Увасабленне ў вобразе тыповых рыс кар'ерызму, эгаізму, бюракратызму, падхалімства, прыстасавальніцтва. Сатырыка-гумарыстычныя сродкі выкрыцця самасуеўшчыны. Выкарыстанне аўтарам прыёму самаацэнкі і самахарактарыстыкі героя (пераказы і каментарыі ўласных і чужых дзеянняў). Сатырычная характарыстыка і маральная ацэнка дзейнасці шапялёўскай інтэлігенцыі (філасаф Торба, Сом, Лін, Мамон, паэт Гарачы). Жанравая адметнасць твора.

***Тэорыя літаратуры.*** Сатырычны раман.

***Мастацтва.*** Тэатральнае мастацтва: спектакль «Брама неўміручасці» (рэж. *В. Раеўскі*).

Кінамастацтва: тэлефільм «Пратарачка жыцця, або Запіскі Самсона Самасуя».

**Літаратура**

*Бугаёў, Д.* Дасягнутае і страчанае: сатырычная проза. Андрэй Мрый / Д. Бугаёў // Полымя. — 1993. — № 12. — С. 229—248.

*Бугаёў, Д.* Праўда і мужнасць таленту / Д. Бугаёў. — Мінск, 1995.

*Васючэнка, П.* Трагедыя пісьменніцкага лёсу: творчая постаць А. Мрыя / П. Васючэнка // Полымя. — 2000. — № 5. — С. 256—273.

*Драздова, З.* Творчасць А. Мрыя і Л. Калюгі: стылявыя асаблівасці / З. Драздова. — Мінск, 1997.

*Лецка, Я.* Празорлівасць мастака / Я. Лецка // Мрый, А. Творы. — Мінск, 1993. — С. 3—16.

*Марціновіч, А.* Шляхам праўды / А. Марціновіч. — Мінск, 1994.

**С т э ф а н Ц в э й г.** Навела **«Нябачная калекцыя»** *(1 гадзіна)*.

Творчая спадчына сусветна вядомага аўстрыйскага пісьменніка.

Рэалістычныя традыцыі ў навеле «Нябачная калекцыя». Сутыкненне жорсткіх жыццёвых рэалій і высокага мастацтва. Праблема сапраўдных і ўяўных каштоўнасцей. «Выратавальны падман» героя-апавядальніка. Псіхалагізм у абмалёўцы герояў твора. Майстэрства Цвэйга-навеліста.

**М і х а с ь З а р э ц к і.** Апавяданні **«Кветка пажоўклая»**, **«Ворагі»** *(2 гадзіны)*.

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніка.

Тэматычная разнастайнасць, вастрыня канфлікту, складаныя характары ў творах М. Зарэцкага.

Апавяданне **«Ворагі»**. Лёс Паўла Гуторскага — змагара за рэвалюцыйныя ідэалы, і Ніны Купрыянавай — дачкі памешчыка. Грамадскае і асабістае ў апавяданні. Тэма кахання.

Паказ маральнай дэградацыі Марыны Гарновай — чалавека складанай біяграфіі, бязлітаснай да родных і блізкіх у апавяданні **«Кветка пажоўклая»**. Трагічны фінал гераіні. Псіхалагізм, вастрыня канфлікту ў творы.

М. Зарэцкі — майстар вострага сюжэта, мастацкай дэталі, глыбокі псіхолаг.

♦ **Для самастойнага чытання**

*Міхась Зарэцкі.* 2 апавяданні.

***Тэорыя літаратуры.*** Мастацкая дэталь. Стыль пісьменніка (развіццё паняцця).

***Мастацтва.*** Тэатральнае мастацтва: спектаклі «Сымон Карызна» (рэж. *У. Кумельскі*, паводле рамана М. Зарэцкага «Вязьмо»), «Ная» (рэж. *М. Кавязін*).

**Літаратура**

*Мушынскі, М.* І нічога, апроч праўды / М. Мушынскі. — Мінск, 1990.

*Мушынскі, М.* Нескароны талент: Праўдзівая гісторыя жыцця і творчасці Міхася Зарэцкага / М. Мушынскі. — 2-е выд. — Мінск, 2005.

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ПЕРЫЯДУ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ (13 гадзін)

**Беларуская літаратура ў гады Вялікай Айчыннай вайны (1941—1945 гг.)** *(1 гадзіна).*

Антываенны пафас і вызваленчыя матывы беларускай паэзіі і публіцыстыкі. Тэма Радзімы, яе будучыні. Паказ суровай праўды вайны, услаўленне мужнасці і гераізму народа-змагара, асуджэнне здрады Радзіме. Выкрыццё ідэалогіі фашызму. Адлюстраванне трагедыі чалавека на вайне. Перавага лірыкі, публіцыстыкі, сатыры.

Пісьменнікі-франтавікі: А. Куляшоў, П. Панчанка, Максім Танк, М. Лынькоў, Я. Брыль, К. Кірэенка, А. Вялюгін, М. Аўрамчык, А. Бачыла, М. Лужанін, М. Калачынскі, М. Лобан і інш. Удзел беларускіх пісьменнікаў у падпольным і партызанскім руху: А. Астрэйка, А. Бялевіч, У. Карпаў, Р. Мурашка, В. Таўлай, Н. Тарас, А. Іверс і інш. Пісьменнікі, якія загінулі ў гады вайны: М. Сурначоў, Л. Гаўрылаў, А. Гейнэ, Алесь Дубровіч, Р. Жалязняк, Алесь Жаўрук, А. Коршак, С. Крывец, А. Мілюць, М. Нікановіч, А. Пруднікаў, Рыгор Суніца, А. Ушакоў, Х. Шынклер і інш.

♦ **Для самастойнага чытання**

2—3 публіцыстычныя творы Янкі Купалы і Кузьмы Чорнага часу вайны (урыўкі; на выбар настаўніка).

Творы беларускіх паэтаў, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны: М. Сурначоў, Алесь Жаўрук, А. Коршак,

Л. Гаўрылаў, А. Ушакоў, А. Мілюць і інш. (на выбар настаўніка).

Вершы паэтаў-франтавікоў са зб. «Іскры вечнага агню» (на выбар настаўніка).

***Мастацтва.*** М у з ы к а. *І. Лучанок.* Раманс-песня «Ёсць у горада слава гордая» (сл. А. Вярцінскага); *К. Цесакоў.* Раманс-песня «Было ў салдата два полі» (сл. А. Вярцінскага).

С к у л ь п т у р а: *М. Кандрацьеў.* «Загінуўшых чакаюць вечна (удовы вайны)».

Ж ы в а п і с. *В. Грамыка.* «Балада пра ваенную маладосць», «Салдаты», «Балада пра апошнюю кулю», «Жанчынам Вялікай Айчыннай прысвячаецца»; *І. Рэй.* «Дзякуй, мама!», «З вогненнай вёскі», «Боль вогненных гадоў. Год 41-ы», «Беларуская восень», «Поры года»; *М. Савіцкі.* Серыі карцін «Лічбы на сэрцы»; *М. Тарасікаў.* «Брацкія магілы».

**Літаратура**

*Бечык, В.* Выбранае / В. Бечык. — Мінск, 1989.

*Кароткая, Л.* Гонар і боль: Беларускія пісьменнікі на вайне / Л. Кароткая // Полымя. — 2003. — № 5. — С. 167—176.

*Коваленко, В. А.* Общность судеб и сердец / В. А. Коваленко. — Минск, 1985.

*Орочко, Н. Н.* Поэзия и война / Н. Н. Орочко. — Минск, 1987.

**П я т р у с ь  Б р о ў к а.** Вершы **«Будзем сеяць, беларусы!», «Надзя-Надзейка», «Родныя словы», «Александрына», «Вось і лета сышло...», «А ты ідзі»** *(2 гадзіны).*

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць паэта.

Агляд творчасці П. Броўкі перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Патрыятычны, вызваленчы пафас твораў паэта. Пераасэнсаванне традыцыйнага нацыянальна-паэтычнага матыву сяўбы ў вершы «Будзем сеяць, беларусы!», сцвярджэнне няскоранасці беларускага народа, выяўленне палымянай веры ў перамогу.

Уплыў «тэорыі бесканфліктнасці» на творчасць паэта канца 1940-х — пачатку 1950-х гадоў. Пашырэнне ідэйна-тэматычнага і жанравага дыяпазону паэзіі П. Броўкі ў 1960—1970-я гады, узмацненне яе гуманістычнага пафасу, увагі да маральна-этычных і агульначалавечых праблем. Роздум пра чалавека,

яго прызначэнне і месца ў жыцці. Тэма паэта і паэзіі. Паэтызацыя красы прыроды. Народна-песенная аснова вершаў П. Броўкі, іх мілагучнасць.

♦ **Для самастойнага чытання**

*П. Броўка.* 2—3 вершы.

***Мастацтва.*** М у з ы к а: *У. Мулявін.* Песня «Александрына» (сл. П. Броўкі).

Ж ы в а п і с: *У. Гардзеенка.* «Думы пра былое (П. Броўка)»; *С. Геўрус.* «Партрэт Петруся Броўкі»; *І. Пратасеня.* «Партрэт П. Броўкі».

**К у з ь м а Ч о р н ы.** Раман **«Пошукі будучыні»** (ва ўрыўках) *(4 гадзіны).*

Жыццёвы і творчы шлях пісьменніка.

**«Пошукі будучыні»** — буйны эпічны твор часу вайны. Сацыяльна-філасофскі змест рамана.

Асаблівасць яго сюжэтна-кампазіцыйнай асновы. Драматызм канфлікту. Аўтарская канцэпцыя гістарычнай будучыні беларускага народа. Драматычны лёс ахвяр Першай і Другой сусветных войн. Нязздзейсненыя мары старэйшага пакалення (Нявады, Сымона Ракуцькі) пра шчасце. Паказ трагізму вайны і цяжкіх жыццёвых выпрабаванняў у часы фашысцкай акупацыі. Глыбокі маральна-этычны сэнс тэмы «ўкрадзенага дзяцінства». Выкрыццё фашызму як вялікай пагрозы чалавецтву. Асуджэнне авантурысцкіх імкненняў новых прэтэндэнтаў на панаванне ва ўмовах акупацыі. Ганебная смерць графа Паліводскага і Густава Шрэдэра. Антываенны пафас рамана.

Кузьма Чорны — майстар мастацкай дэталі, партрэтнай і моўнай характарыстыкі, пейзажных і бытавых замалёвак, разгалінаванага сюжэта, адлюстравання плыні жыцця і плыні свядомасці.

Значэнне творчасці Кузьмы Чорнага ў развіцці беларускай псіхалагічнай прозы, яе буйных жанраў.

♦ **Для самастойнага чытання**

*Кузьма Чорны.* 2—3 апавяданні або раман «Трэцяе пакаленне» (на выбар вучняў).

***Тэорыя літаратуры.*** Псіхалагізм у літаратуры. Жанравыя разнавіднасці рамана.

***Мастацтва.*** С к у л ь п т у р а: *З. Азгур.* «Пісьменнік Кузьма Чорны»; *Э. Астаф'еў.* Рэльефны партрэт К. Чорнага для мемарыяльнай дошкі.

Ж ы в а п і с: *І. Ахрэмчык.* «Партрэт К. Чорнага»; *М. Гуцееў.* Ілюстрацыі да кнігі К. Чорнага «Люба Лук'янская»; *Х. Ліўшыц.* «Янка Купала і Кузьма Чорны ў Печышчах у 1942 годзе»; *М. Савіцкі.* «Партызаны».

**Літаратура**

*Адамовіч, А.* Маштабнасць прозы: урокі творчасці К. Чорнага / А. Адамовіч. — Мінск, 1972.

*Александровіч, С.* Тут зямля такая / С. Александровіч. — 2-е выд. — Мінск, 1985.

Кузьма Чорны: жыццё і творчасць: матэрыялы для выстаўкі ў шк. / склад. І. Кудраўцаў. — Мінск, 1979.

*Навуменка, І.* Ранні Кузьма Чорны / І. Навуменка. — Мінск, 2000.

*Пяткевіч, А.* Сюжэт. Кампазіцыя. Характар: аб прозе Кузьмы Чорнага / А. Пяткевіч. — Мінск, 1981.

*Тычына, М.* Кузьма Чорны: эвалюцыя мастацкага мыслення / М. Тычына. — 2-е выд. — Мінск, 2005.

**А р к а д з ь К у л я ш о ў.** Вершы: **«Мая Бесядзь», «Над брацкай магілай», «Спакойнага шчасця не зычу нікому...», «Я хаце абавязаны прапіскаю...»**; вершаваны цыкл **«Маналог»** *(3 гадзіны).*

Жыццёвы і творчы шлях паэта.

**Лірыка.** Глыбіня лірычнага пачуцця паэта ў лепшых творах даваеннага часу. Адметнасць вобразнасці і кампазіцыі верша «Мая Бесядзь».

Ваенная лірыка А. Куляшова. Суровая праўда і гуманізм у паказе народнага подзвігу. Трагічнае і лірычнае, фальклорныя матывы ў баладзе «Над брацкай магілай».

Пашырэнне тэматыкі ў пасляваеннай лірыцы. Зварот да тэм жыцця і смерці, кахання і вернасці, лёсу і абавязку. Услаўленне чалавека, яго духоўных каштоўнасцей. Развіццё і ўзбагачэнне паэтам класічных традыцый лірыкі («Я хаце абавяза-

ны прапіскаю...»). Вершаваны цыкл «Маналог»: матывы памяці, вернасці сяброўству, ідэалам маладосці.

Паэтычнае майстэрства А. Куляшова.

**♦ Для самастойнага чытання**

*А. Куляшоў.* 2—3 вершы, «Ліст з палону», паэма «Сцяг брыгады» (раздзелы на выбар настаўніка).

***Тэорыя літаратуры.*** Лірычны герой (паглыбленне паняцця).

***Мастацтва.*** Ж ы в а п і с: *М. Савіцкі.* «Партызанская Мадонна (Мінская)»; *П. Гаўрыленка.* «Вясна», «Сяўба»; *М. Сяўрук.* «Жніво»; *У. Кожух.* «Новая дарога»; *М. Рагалевіч.* «Беларуская калыханка»; *А. Бараноўскі.* «Пара залатых бяроз»; *Г. Вашчанка.* «Крылы»; *Я. Драздовіч.* «Космас», «Артаполіс», «Трывеж», «Панарама месячнага горада».

В ы я ў л е н ч а е м а с т а ц т в а: *Л. Талбузін.* Медаль «Аркадзь Куляшоў».

М у з ы к а: *Э. Наско.* Вакальная музыка «Рамансы на вершы А. Куляшова».

**Літаратура**

*Бечык, В.* Шлях да акіяна / В. Бечык. — Мінск, 1981.

*Бярозкін, Р.* Аркадзь Куляшоў / Р. Бярозкін. — Мінск, 1978.

*Кенька, М.* Майстэрства Аркадзя Куляшова-перакладчыка / М. Кенька. — Мінск, 1983.

*Куляшова, В.* Лясному рэху праўду раскажу... / В. Куляшова. — Мінск, 1989.

*Мішчанчук, М.* Ёсць у паэта свой аблог цалінны... / М. Мішчанчук. — Мінск, 1992.

**М а к с і м  Т а н к.** Вершы: **«Спатканне», «Родная мова», «Каб ведалі», «Мой хлеб надзённы», «Завушніцы», «Ave Maria», «Працягласць дня і ночы»**; паэма **«Люцыян Таполя»** *(3 гадзіны).*

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць.

**Лірыка.** Тэмы і вобразы, наватарскі характар танкаўскай паэзіі. Сцвярджэнне нязломнай духоўнай сілы народа. Матыў адзінства пакаленняў. Адметнасць лірыкі перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Пашырэнне тэматыкі ў пасляваеннай паэзіі. Філасофскі роздум пра чалавека, яго жыццёвае прызначэнне. Увага да духоўнага свету чалавека, агульначалавечых каштоў-

насцей. Свабодны верш у паэзіі Максіма Танка. Інверсія, кантраст, метафара ў яго творах.

**«Люцыян Таполя».** Праблема мастака і мастацтва ў паэме. Увасабленне свабодалюбства, таленавітасці народа ў вобразе Люцыяна Таполі. Спалучэнне эпічнага і лірычнага пачаткаў у творы. Выкарыстанне сродкаў паэтызацыі і гратэску ў паэме. Блізкасць героя паэмы Максіма Танка да купалаўскага Гусляра.

♦ **Для самастойнага чытання**

*Максім Танк.* 2—3 вершы.

***Тэорыя літаратуры.*** Сілаба-танічная сістэма вершаскладання. Верлібр, вобраз асацыятыўны (паглыбленне паняццяў).

***Мастацтва.*** М у з ы к а: *У. Алоўнікаў.* Рамансы «Дуб», «Партызанскія акопы»; *А. Багатыроў.* Рамансы «Вяселле», «Калісьці бура на Карпатах», «Клубамі чорнымі дым віўся», «Нарач»; *Г. Вагнер.* Рамансы «Два арлы», «Плача хмара без жалю»; *Я. Глебаў.* Раманс «Нарач»; *І. Лучанок.* Раманс «Два арлы»; *У. Мулявін.* Раманс «Завушніцы»; *П. Падкавыраў.* Раманс «Не шкадуйце, хлопцы, пораху»; *Ю. Семяняка.* Рамансы «Нарач», «Ганна», «Ну і вечар вясновы!»; *Д. Смольскі.* Рамансы «Быць чалавекам я рад», «Ля гэтых сосен», «Плача хмара без жалю»; *Ю. Талеснік.* Раманс «Завушніцы»; *А. Туранкоў.* Рамансы «Вясновая навальніца», «Грай жа, музыка», «У навальніцу»; *Э. Тырманд.* Рамансы «А што гэта за даліна», «Каб ведалі», «Мой хлеб надзённы», «Сасна», «Ва ўсім, вядома, вінават», «Тост за дружбу», «Памяць».

С к у л ь п т у р а: *А. Бембель.* «Уз'яднанне Заходняй Беларусі».

Ж ы в а п і с: *С. Вярсоцкі.* «Возера Нарач»; *С. Герус.* «Партрэт М. Танка»; *Я. Зайцаў.* «Партрэт М. Танка»; *Н. Шчасная.* «Партрэт М. Танка».

**Літаратура**

*Арочка, М.* Максім Танк: жыццё ў паэзіі / М. Арочка. — Мінск, 1984.

*Бугаёў, Д.* Паэзія Максіма Танка / Д. Бугаёў. — 2-е выд. — Мінск, 2003.

*Калеснік, У.* Максім Танк: нарыс жыцця і творчасці / У. Калеснік. — Мінск, 1981.

Максім Танк: фотаальбом / аўт. тэксту В. Рагойша. — Мінск, 1985.

*Мікуліч, М.* Максім Танк: на скразняках стагоддзяў / М. Мікуліч. — Мінск, 1999.

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ПАСЛЯВАЕННАГА ЧАСУ (ДА СЯРЭДЗІНЫ 1960-х ГАДОЎ) (19 гадзін)

**Беларуская літаратура пасляваеннага дзесяцігоддзя (1945—1955 гг.)** *(1 гадзіна).*

Патрыятычны і жыццялюбны пафас творчасці, абумоўлены заканчэннем вайны, мірным будаўніцтвам. Ваенная тэма як цэнтральная ў літаратуры.

Вызначальныя творы пасляваеннага дзесяцігоддзя на маральна-этычныя тэмы: апавяданні І. Мележа, Я. Брыля, А. Кулакоўскага, раманы І. Шамякіна, паэмы А. Куляшова, П. Броўкі.

**Беларуская літаратура ў гады абнаўлення грамадства (1956— 1965 гг.)** *(1 гадзіна).*

Змены ў грамадскай атмасферы сярэдзіны 50-х гадоў і іх дабратворны ўплыў на развіццё беларускай літаратуры. Рэабілітацыя беларускіх пісьменнікаў: Цішкі Гартнага, М. Гарэцкага, У. Жылкі, Міхася Зарэцкага (пасмяротна) і інш. Актыўнае і шматграннае развіццё мастацтва слова. Узвышэнне ў літаратуры народных ідэалаў праўды, сумленнасці і справядлівасці, гуманізму. Узмацненне крытычнага пачатку ў літаратурнай творчасці, адмаўленне ад схематызму, тэорыі бесканфліктнасці.

Прыход у беларускую літаратуру В. Быкава, І. Пташнікава, І. Навуменкі. А. Адамовіча, І. Мележа, У. Караткевіча, В. Адамчыка, І. Чыгрынава, А. Пысіна, М. Стральцова, А. Вярцінскага, А. Кудраўца, В. Зуёнка і інш.

Рамантычная хваля ў мастацтве і яе праявы ў літаратуры, жывапісе, музыцы, тэатры (1956—1965 гг.). Вяртанне да класічных традыцый рэалістычнага мастацтва (проза І. Мележа, В. Быкава, Я. Брыля, А. Кулакоўскага, паэзія А. Вялюгіна, А. Пысіна, М. Аўрамчыка, Аляксея Русецкага, К. Кірэенкі, А. Вярцінскага, драматургія К. Губарэвіча, А. Макаёнка).

**♦ Для самастойнага чытання**

*А. Вялюгін.* Вершы; *А. Кулакоўскі* «Нявестка»; *А. Пысін.* Вершы; *М. Стральцоў.* «Смаленне вепрука».

**Я н к а  Б р ы л ь.** Апавяданні **«Галя», «Memento mori»** *(2 гадзіны).*

Жыццё і творчасць пісьменніка.

**«Галя».** Праблема чалавечага шчасця і сэнсу жыцця. Спалучэнне лірычнай усхваляванасці з глыбокім пранікненнем у псіхалогію чалавека. Гісторыя кахання гераіні. Праблема маральнага выбару і адказнасці чалавека за свае ўчынкі. Духоўныя каштоўнасці і іх значэнне для чалавека. Пейзаж у творы. Мастацкая дэталь. Асаблівасці кампазіцыі апавядання.

**«Memento mori».** Паказ вайны ў апавяданні. Маральны подзвіг старога селяніна ў творы. Уменне аўтара ўбачыць гераічнае за рамкамі бытавых сцэн. Асуджэнне фашызму ў апавяданні. Глыбокае разуменне народнага гераізму. Урачыстая танальнасць аўтарскага маўлення.

♦ **Для самастойнага чытання**

*Я. Брыль.* «Муштук і папка».

***Тэорыя літаратуры.*** Стыль пісьменніка (паглыбленне паняцця).

***Мастацтва.*** С к у л ь п т у р а: *С. Вакар.* «Пісьменнік Я. Брыль».

Ж ы в а п і с: *М. Будавей.* «Партрэт Я. Брыля»; *В. Грамыка.* «Партрэт Я. Брыля».

**Літаратура**

*Адамовіч, А.* Здалёк і зблізку / А. Адамовіч. — Мінск, 1976.

*Бугаёў, Д.* Спавядальнае слова / Д. Бугаёў. — Мінск, 2001.

*Калеснік, У.* Янка Брыль: нарыс жыцця і творчасці / У. Калеснік. — Мінск, 1990.

*Канэ, Ю.* Як паветра і хлеб: жыццёвы і творчы шлях Янкі Брыля / Ю. Канэ. — Мінск, 1988.

*Кісліцына, Г.* Лірычная мініяцюра як жанр беларускай літаратуры / Г. Кісліцына. — Мінск, 2000.

*Ляшук, В. Я.* Вывучэнне творчасці Янкі Брыля ў школе / В. Я. Ляшук. — Мінск, 2004.

*Стральцоў, М.* Жыццё ў слове / М. Стральцоў. — Мінск, 1965.

Янка Брыль: фотаальбом / аўт. тэксту А. Вялюгін. — Мінск, 1987.

**П і м е н  П а н ч а н к а.** Вершы: **«Краіна мая», «Герой», «Родная мова», «Толькі лісцем рабін шалахні...», «Крык**

**сойкі», «Той дзень прапаў і страчаны навекі...», «Спарышы»** *(2 гадзіны).*

Жыццёвы і творчы шлях паэта.

**Лірыка.** Патрыятычны пафас ваеннай паэзіі П. Панчанкі. Гераічнае і трагічнае ў вершах пра Радзіму і яе абаронцаў.

Роздум пра сэнс жыцця, гуманныя адносіны паміж людзьмі ў творах 1960-х гадоў. Пашырэнне тэматычнай, жанрава-стылёвай разнастайнасці лірыкі 1970—1980-х гадоў. Духоўная эвалюцыя лірычнага героя. Вернасць праўдзе жыцця. Спавядальны характар, адкрытасць, шчырасць лірычнага пачуцця. Бескампраміснасць паэтычнага слова. Публіцыстычная завостранасць верша, разнастайнасць рытміка-інтанацыйнага малюнка, багацце сродкаў мастацкага выяўлення.

♦ **Для самастойнага чытання**

*П. Панчанка.* 3—4 вершы.

***Тэорыя літаратуры.*** Выяўленне аўтарскай пазіцыі ў творы. Публіцыстычнасць у паэзіі. Лірычны герой і аўтар.

***Мастацтва.*** М у з ы к а: *П. Падкавыраў.* Фрагменты з вакальнага цыкла «Партызаны» (сл. Янкі Купалы, Максіма Танка, П. Панчанкі); *В. Іваноў.* «Тапаліны звон» (сл. П. Панчанкі).

Ж ы в а п і с: *Я. Батальёнак.* «Даляглядзы»; *М. Будавей.* «Партрэт Пімена Панчанкі»; *С. Каткоў.* «На Бярэзіне»; *В. Шкаруба.* «Світанак».

**Літаратура**

*Бечык, В.* Прад высокаю красою... / В. Бечык. — Мінск, 1984.

*Бярозкін, Р.* Пімен Панчанка: крытыка-біяграфічны нарыс / Р. Бярозкін. — Мінск, 1968.

*Гапава, В.* Пімен Панчанка / В. Гапава. — Мінск, 1977.

*Гілевіч, Н.* У гэта веру / Н. Гілевіч. — Мінск, 1978.

**І в а н М е л е ж.** Раман **«Людзі на балоце»** *(4 гадзіны).* Жыццёвы і творчы шлях пісьменніка.

**«Людзі на балоце».** Творчая гісторыя, тэматыка і праблематыка «Палескай хронікі». Жанрава-кампазіцыйная цэласнасць твора. Асаблівасць драматычнага канфлікту.

Шматгранныя нацыянальныя характары ў рамане. Майстэрства раскрыцця ўнутранага свету галоўных герояў Васіля

Дзятла і Ганны Чарнушкі. Настойлівае імкненне Васіля да самасцвярджэння і незалежнасці, яго сціпласць, цярплівасць, працавітасць, разгубленасць у складаных жыццёвых абставінах. Драматычны лёс Ганны.

Нетрадыцыйны падыход аўтара да раскрыцця псіхалогіі заможных сялян. Розныя адносіны да людзей, да працы, да будучыні ў старога Глушака і яго сыноў. Драматызм становішча Глушака ў час калектывізацыі. Вастрыня драматычнай калізіі.

Чалавек і прырода ў творы. Паэтызацыя сялянскай працы. Псіхалагічнае майстэрства Мележа-празаіка. Роля ўнутранага маналога, няўласна-асабовай мовы, мовы герояў (палескага дыялекту) у раскрыцці індывідуальных характараў.

Нацыянальная самабытнасць творчасці І. Мележа і яе агульначалавечая значнасць.

**♦ Для самастойнага чытання**

*І. Мележ.* «Подых навальніцы» (ва ўрыўках).

***Тэорыя літаратуры.*** Стыль пісьменніка (паглыбленне паняцця). Традыцыі і наватарства.

***Мастацтва.*** Ж ы в а п і с: *Г. Вашчанка.* «Маё Палессе»; *А. Гараўскі.* «Пінскія балоты»; *Ю. Зайцаў.* «Людзі Палесся»; *Н. Шчасная.* «Партрэт Івана Мележа».

В ы я ў л е н ч а е  м а с т а ц т в а: *Л. Талбузін.* Медаль «Іван Мележ».

К і н а м а с т а ц т в а: кінафільм «Людзі на балоце» (рэж. *В. Тураў*); тэлеспектакль «Завеі, снежань...» (рэж. *У. Забэла*).

**Літаратура**

*Адамовіч, А.* Здалёк і зблізку / А. Адамовіч. — Мінск, 1976.

*Адамович, А.* Война и деревня в современной литературе / А. Адамович. — Минск, 1982.

*Бугаёў, Д.* Вернасць прызванню: творчая індывідуальнасць І. Мележа / Д. Бугаёў. — Мінск, 1988.

*Гніламёдаў, У.* Іван Мележ: нарыс жыцця і творчасці / У. Гніламёдаў. — Мінск, 1984.

*Дзюбайла, П. К.* Беларускі раман: гады 70-я / П. К. Дзюбайла. — Мінск, 1978.

*Дзюбайла, П.* Панарама сучаснай беларускай прозы / П. Дзюбайла. — Мінск, 1986.

*Дзюбайла, П. К.* У пошуках духоўных каштоўнасцей: беларуская проза сёння / П. К. Дзюбайла. — Мінск, 1987.

*Каваленка, В.* Веліч праўды: выбранае / В. Каваленка. — Мінск, 1989.

*Куляшоў, Ф.* Іван Мележ: літаратурная біяграфія / Ф. Куляшоў. — Мінск, 1968.

*Ляшук, В. Я.* Вывучэнне творчасці І. Мележа ў школе / В. Я. Ляшук. — Мінск, 2003.

Сказ пра Івана Мележа: фотаальбом / уклад. А. Адамовіч. — Мінск, 1984.

Успаміны пра Івана Мележа. — Мінск, 1982.

*Шамякін, І.* Карэнні і галіны / І. Шамякін. — Мінск, 1987.

*Яскевич, А. С.* Становление белорусской художественной традиции / А. С. Яскевич. — Минск, 1987.

**Уладзімір Караткевіч.** Аповесці **«Дзікае паляванне караля Стаха»** або **«Чазенія»**; раман **«Каласы пад сярпом тваім»** (кніга першая «Выйсце крыніц»; з другой кнігі «Сякера пры дрэве» — раздзелы I, II, VII, XII, XVII) *(6 гадзін)*.

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніка.

**«Дзікае паляванне караля Стаха».** Канкрэтна-гістарычная аснова твора. Каларыт, атмасфера мінулай эпохі (80-я гады XIX ст.). Зварот пісьменніка да легенды пра караля Стаха Горскага (пач. XVII ст.), рамантычнае яе асэнсаванне. Асуджэнне сацыяльнага прыгнёту і ўціску. Роздум аб прызначэнні чалавека на зямлі, лёсе беларускага народа, узаемасувязі розных гістарычных эпох. Праблемы дабра і зла, кахання, мужнасці і гераізму. Вобразы Андрэя Беларэцкага, Андрэя Свеціловіча і Надзеі Яноўскай. Асаблівасці кампазіцыі твора.

**«Чазенія».** Праблематыка аповесці. Вобразы Севярына Будрыса і Гражыны. Выяўленне характараў герояў у неардынарных абставінах. Мастацкая роля прыроды ў творы. Сэнс назвы аповесці. Жанр і кампазіцыя твора.

Раман **«Каласы пад сярпом тваім».** Гістарычная аснова рамана. Рэальныя гістарычныя асобы ў творы: Каліноўскі, Шаўчэнка, Серакоўскі, Манюшка, Дунін-Марцінкевіч. Паказ станаўлення характару будучага кіраўніка сялянскага паўстання Кастуся Каліноўскага. Духоўны воблік галоўнага героя рамана Алеся Загорскага. Прадстаўнікі дваранства ў рамане (Даніла

Вежа-Загорскі, Хаданскія, Кроер). Дзеячы шляхецкага руху Яраслаў Раўбіч і Багдан Война. Стыхійны характар антыпрыгонніцкай барацьбы сялян. Паказ супярэчнасцей паміж дваранскімі рэвалюцыянерамі і кіраўніком сялянскага паўстання Корчакам. Грунтоўнасць гістарычнага мыслення аўтара. Праўдзівасць адлюстравання чалавечых характараў. Хараство кахання Алеся Загорскага і Майкі Раўбіч. Своеасаблівасць мастацкага стылю рамана. Дынамічнасць сюжэта. Сумяшчэнне рэалістычных і рамантычных мастацкіх абагульненняў, гістарычнага і гісторыка-легендарнага ў творы. Месца і роля лірычных адступленняў і пейзажных малюнкаў. Вобразная сімволіка. Сувязь рамана з паэтыкай народных балад і легенд.

♦ **Для самастойнага чытання**

*У. Караткевіч.* «Ладдзя Роспачы»; вершы са зборніка «Быў. Ёсць. Буду».

***Тэорыя літаратуры.*** Рамантычнае і рэалістычнае адлюстраванне жыцця ў літаратуры (паглыбленне паняццяў). Гістарычны раман.

***Мастацтва.*** М у з ы к а: *Я. Глебаў.* Раманс «Любы мой»; *Л. Мурашка.* Раманс «Дагарэў за брамай неба край»; *Д. Смольскі.* Опера «Сівая легенда»; *У. Солтан У.* Опера «Дзікае паляванне караля Стаха».

С к у л ь п т у р а: *С. Вакар.* «Пісьменнік У. Караткевіч».

Ж ы в а п і с: *У. Зінкевіч.* «Партрэт У. Караткевіча»; *М. Будавей.* «Партрэт У. Караткевіча»; *Л. Дударанка.* «Партрэт Васіля Быкава», «Беларускія пісьменнікі Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч, Ніл Гілевіч».

К і н а- і т э л е м а с т а ц т в а: тэлеспектакль «Лісце каштанаў»; фільмы: «Будзь шчаслівa, рака» (сцэн. *У. Караткевіч*), «Быў, ёсць, буду» (сцэн. і рэж. *Ю. Цвяткоў*), «Дзікае паляванне караля Стаха» (рэж. *В. Рубінчык*), «Кніганошы» (рэж. *У. Трацянкоў*), «Ладдзя роспачы» (рэж. *Л. Тарасаў*), «Лісце каштанаў» (рэж. *У. Забэла*), «Маці ўрагану» (рэж. *Ю. Марухін*), «Памяць каменя» (сцэн. *У. Караткевіч*), «Сведкі вечнасці» (сцэн. *У. Караткевіч*), «Сівая легенда» (рэж. *Б. Парэмта*), «Сіняя-сіняя» (рэж. *Н. Арцімовіч*), «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» (сцэн. *У. Караткевіч*), «Чорны замак Альшанскі» (рэж. *М. Пташук*).

**Літаратура**

*Андраюк, С.* Пісьменнікі. Кнігі / С. Андраюк. — Мінск, 1997.

*Верабей, А.* Абуджаная памяць / А. Верабей. — Мінск, 1997.

*Верабей, А.* Уладзімір Караткевіч: нарыс жыцця і творчасці / А. Верабей. — 2-е выд. — Мінск, 2005.

*Ішчанка, Г. М.* Вывучэнне творчасці У. Караткевіча ў школе / Г. М. Ішчанка. — Мінск, 2003.

*Калеснік, У.* Усё чалавечае / У. Калеснік. — Мінск, 1993.

*Караткевіч, У.* «Быў. Ёсць. Буду»: успаміны, інтэрв'ю, эсэ. — Мінск, 2005.

*Мальдзіс, А.* Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча / А. Мальдзіс. — Мінск, 1990.

*Русецкі, А.* Уладзімір Караткевіч: праз гісторыю ў сучаснасць / А. Русецкі. — Мінск, 2000.

*Чабан, Т. К.* Крылы рамантыкі / Т. К. Чабан. — Мінск, 1982.

*Шынкарэнка, В.* Пад ветразем дабра і прыгажосці / В. Шынкарэнка. — Мінск, 1995.

*Шынкарэнка, В. К.* Нястомных пошукаў дарога / В. К. Шынкарэнка. — Мінск, 2002.

**Андрэй Макаёнак. «Зацюканы апостал»** або **«Пагарэльцы»** *(3 гадзіны)*.

Жыццёвы і творчы шлях драматурга.

**«Зацюканы апостал».** Жанравая адметнасць п'есы. Спалучэнне ў творы камічнага і трагічнага. Умоўнасць часу і месца дзеяння. Характарыстыка персанажаў, іх сімвалічнасць і падкрэсленая абагульненасць. Маральна-этычны змест камедыі, сцвярджэнне аўтарам духоўных агульначалавечых каштоўнасцей. Майстэрства А. Макаёнка ў абмалёўцы характараў.

**«Пагарэльцы».** Творчая гісторыя трагікамедыі. Канфлікт бацькоў і дзяцей у п'есе. Спалучэнне нізкага з узвышаным, трагедыйнага з камічным у псіхалагічнай абмалёўцы пристасавальнікаў, кар'ерыстаў, цынікаў, прайдзісветаў і дэмагогаў. Майстэрства драматурга ў стварэнні вобразаў-тыпаў. Адметнасць кампазіцыі твора, роля пралога, эпілога, аўтарскіх рэмарак у разгортванні сюжэта. Алегарычнасць, вобразнасць мовы п'есы.

***Тэорыя літаратуры.*** Сатырычная камедыя. Трагікамедыя. Моўная характарыстыка персанажаў (паглыбленне паняцця).

***Мастацтва.*** Ж ы в а п і с: *М. Будавей.* «А. Макаёнак». Т э а т р а л ь н а е  м а с т а ц т в а: спектаклі «Зацюканы апостал» (рэж. *Б. Луцэнка*), «Пагарэльцы» (рэж. *В. Раеўскі*).

**Літаратура**

*Лаўшук, С.* З верай у дабрыню / С. Лаўшук // Макаёнак, А. Зб. тв.: у 5 т. — Мінск, 1987. — Т. 1. — С. 5—18.

*Колас, Г.* Аўтографы Андрэя Макаёнка / Г. Колас. — Мінск, 1992.

*Сохар, Ю.* На пульсе жыцця: Андрэй Макаёнак і беларускі тэатр / Ю. Сохар. — Мінск, 1979.

*Усікаў, Я.* Андрэй Макаёнак / Я. Усікаў. — Мінск, 1984.

У с я г о: на вывучэнне твораў — 49 гадзін;
на творчыя работы — 4 гадзіны.

## Рэкамендацыйны спіс твораў для завучвання на памяць

*Кандрат Крапіва.* Байка (на выбар вучняў).

*Максім Танк.* Верш «Родная мова».

*А. Куляшоў.* Верш (на выбар настаўніка).

*П. Панчанка.* Верш (на выбар настаўніка).

*І. Мележ.* Урывак з рамана «Людзі на балоце» (на выбар настаўніка).

## Прыкладны спіс твораў для пазакласнага чытання

*Г. Апалінэр.* «Зямны акіян: выбранае».

Зб. «Беларуская байка» (уклад. Э. Валасевіч).

*Р. Баравікова.* Зб. «Каханне».

*Р. Бёрнс.* «Вам слова, Джон Ячмень!: выбраная лірыка».

*Г. Бураўкін.* Зб. «Чытаю тайнапіс вачэй».

*А. Вярцінскі.* Зб. «Хлопчык глядзіць...».

*С. Грахоўскі.* «Зона маўчання».

*А. Грачанікаў.* Зб. «Палессе».

*Л. Дайнека.* «Жалезныя жалуды».

*Г. Далідовіч.* «Гаспадар-камень».

Зб. «Душа мая тужлівая» (уклад. В. Шніп).

*А. Дзялендзік.* «Гаспадар».

*А. Жук.* «Паляванне на Апошняга Жураўля».

*С. Законнікаў.* «Чорная быль».

*А. Звонак.* Зб. «Светлацені».

*В. Зуёнак.* «Маўчанне травы», зб. «Лета трывожных дажджоў».
*В. Казько.* «Суд у Слабадзе», «Хроніка дзетдомаўскага саду».
*Е. Лось.* Зб. «І каласуе даўгалецце...».
*І. Навуменка.* «Сасна пры дарозе».
*А. Петрашкевіч.* «Дагарэла свечачка...».
*А. Пісьмянкоў.* «Думаць вершы...».
Зб. «Прайсці праз зону» (уклад. І. Бутовіч).
*П. Пруднікаў.* «Колкі дрот».
*І. Пташнікаў.* «Найдорф».
*А. Пысін.* Вершы са зб. «Твае далоні», «Ёсць на свеце мой алень».
*А. Разанаў.* Зб. «Вастрыё стралы».
*Б. Сачанка.* «Апошнія і першыя».
*Я. Сіпакоў.* Зб. «Веча славянскіх балад».
*М. Стральцоў.* «Выбранае».
*Максім Танк.* Зб. «Збор калосся».
*І. Шамякін.* Зб. «Палеская мадонна».
*В. Шніп.* Зб. «Гронка святла».
*Я. Янішчыц.* Зб. «Маналог вавёркі».
*З. Марозаў.* Зб. «Вяртанне да цішыні».

## АСНОЎНЫЯ ВІДЫ ВУСНЫХ І ПІСЬМОВЫХ РАБОТ ПА ЛІТАРАТУРЫ Ў X КЛАСЕ

Выразнае чытанне мастацкіх твораў.

Складанне простага і разгорнутага плана ўласнага вуснага і пісьмовага паведамлення.

Вусны і пісьмовы пераказ урыўка з эпічнага твора з элементамі аналізу.

Вуснае і пісьмовае сачыненне-апісанне выгляду героя, карціны прыроды і інш. (на падставе вывучаных твораў), сачыненне-разважанне па праблеме, узнятай пісьменнікам.

Даклад або рэферат на літаратурную тэму па адной крыніцы.

Рэцэнзія, тэзісы, канспект літаратурна-крытычнага артыкула або лекцыі настаўніка.

Водгук на самастойна прачытаную кнігу, прагледжаныя кінафільм, тэлеперадачу, спектакль.

Складанне бібліяграфіі па тэме, прапанаванай настаўнікам.

## АСНОЎНЫЯ ПАТРАБАВАННІ
## ДА ВЕДАЎ, УМЕННЯЎ І ЛІТАРАТУРНАГА РАЗВІЦЦЯ ВУЧНЯЎ X КЛАСА

Вучні павінны в е д а ц ь:

шляхі і галоўныя этапы развіцця беларускай літаратуры (ад старажытных часоў да нашых дзён);

асноўныя эпохі і напрамкі, роды і жанры літаратуры;

асноўныя звесткі пра жыццёвы і творчы шлях пісьменнікаў;

змест, праблематыку, сістэму вобразаў вывучанага твора;

асноўныя прыметы рамантычнага, рэалістычнага і мадэрнісцкага тыпаў мастацкай творчасці;

псіхалагічныя прыёмы раскрыцця характару ў мастацкім творы;

асноўныя тэарэтыка-літаратурныя паняцці, прадугледжаныя праграмай;

тэксты, рэкамендаваныя праграмай для завучвання на памяць.

Вучні павінны ў м е ц ь:

вызначаць асноўныя праблемы літаратурнага твора;

характарызаваць літаратурнага героя;

аналізаваць прыёмы раскрыцця характару ў мастацкім творы;

самастойна ацэньваць вывучаныя творы з улікам іх мастацкай спецыфікі і абгрунтоўваць гэту ацэнку;

рыхтаваць вусны (або пісьмовы) разгорнуты адказ на праблемнае пытанне па вывучаным творы, карыстаючыся літаратуразнаўчымі крыніцамі;

пісаць сачыненне па вывучаным творы;

складаць план і канспект літаратурна-крытычнага артыкула;

рыхтаваць даклад або рэферат на літаратурную тэму;

рыхтаваць вусны і пісьмовы водгук на самастойна прачытаную кнігу, прагледжаныя кінафільм, тэлеперадачу, спектакль;

пісаць рэцэнзію на самастойна прачытаную кнігу, прагледжаныя кінафільм, тэлеперадачу, спектакль;

супастаўляць (на аснове асабістых уражанняў) літаратурны твор з ілюстрацыямі да яго, а таксама з яго кіна- і тэлеэкранізацыямі;

карыстацца рознага роду даведачна-інфармацыйнай літаратурай.

# XI КЛАС

## (53 гадзіны)

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ПЕРЫЯДУ 1966—1985 ГАДОЎ
(30 гадзін)

**Агляд** *(1 гадзіна)*. Пашырэнне сферы мастацкага даследавання рэчаіснасці. Жанравыя і тэматычныя пошукі літаратуры, паглыбленне яе чалавеказнаўчага і гуманістычнага зместу. Узмацненне аналітызму ў даследаванні мінулага і сучаснасці.

Узбагачэнне светабачання беларускіх паэтаў, іх жанравастылёвыя пошукі (Я. Янішчыц, Т. Бондар, Р. Баравікова, А. Разанаў, Г. Пашкоў, К. Камейша, Н. Мацяш і інш.). Грамадзянскасць і маральна-этычная скіраванасць пафасу паэтычнай творчасці. Павышаная цікавасць да філасофскіх праблем, складаных пытанняў чалавечага жыцця.

Праблематыка беларускай прозы (І. Шамякін, Я. Брыль, В. Адамчык, В. Карамазаў, Л. Левановіч, Я. Сіпакоў, А. Жук, В. Казько, Г. Далідовіч, Г. Марчук, В. Гардзей, В. Гігевіч і інш.).

Здабыткі ў жанрах драмы і камедыі (п'есы Кандрата Крапівы, А. Макаёнка, У. Караткевіча, М. Матукоўскага, А. Петрашкевіча, А. Дзялендзіка, Г. Марчука, А. Дударава і інш.). Праблемнасць, канфліктная аснова твораў беларускіх драматургаў.

♦ **Для самастойнага чытання**

*В. Адамчык.* «Чужая бацькаўшчына»; *А. Жук.* «Халодная птушка»; *Г. Марчук.* «Кракаўскі студэнт»; *Н. Мацяш.* 2—3 вершы на выбар настаўніка; «Я з вогненнай вёскі...» (дакументальная кніга *А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калесніка*).

**Літаратура**

*Адамовіч, А.* Літаратура, мы і час / А. Адамовіч. — Мінск, 1979.

*Андраюк, С.* А жыццё — вышэй за ўсё: выбранае / С. Андраюк. — Мінск, 1992.

Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: у 4 т. — Мінск, 1999—2003. — Т. 3, кн. 1—4[1].

---

[1] Пры вывучэнні іншых тэм па беларускай літаратуры другой паловы XX ст. таксама рэкамендуецца звяртацца да гэтага выдання.

Гісторыя беларускай літаратуры: XX стагоддзе: 20—50-я гг. / пад агул. рэд. М. А. Лазарука, А. А. Семяновіча. — 2-е выд. — Мінск, 2000.

*Гніламёдаў, У.* Ад даўніны да сучаснасці: нарыс пра беларускую паэзію / У. Гніламёдаў. — Мінск, 2001.

*Грамадчанка, Т. К.* Перад праўдай высокай і вечнай: беларуская проза сёння / Т. К. Грамадчанка. — Мінск, 1991.

*Каваленка, В.* Веліч праўды: выбранае / В. Каваленка. — Мінск, 1989.

*Локун, В. І.* Маральна-філасофскія пошукі беларускай ваеннай і гістарычнай прозы, 1950—1960-я гг. / В. І. Локун. — Мінск, 1995.

*Мушынскі, М.* Каардынаты пошуку: беларуская крытыка: набыткі, перспектывы / М. Мушынскі. — Мінск, 1988.

*Рагуля, А.* Імгненні... / А. Рагуля. — Мінск, 1990.

**Іван Шамякін.** Аповесць **«Непаўторная вясна»** або аповесць **«Гандлярка і паэт»**; раман **«Сэрца на далоні»** *(6 гадзін)*.

Жыццёвы і творчы шлях пісьменніка.

**«Непаўторная вясна».** Пенталогія «Трывожнае шчасце» — кніга аповесцей пра даваеннае пакаленне моладзі, якое прайшло праз выпрабаванні вайны. Творчая задума кнігі. Аўтабіяграфічныя моманты ў «Трывожным шчасці». Пятро Шапятовіч і Саша Траянава — галоўныя героі пенталогіі.

Адлюстраванне даваеннага жыцця моладзі ў аповесці «Непаўторная вясна». Духоўны свет Пятра і Сашы, іх узаемаадносіны. Паэзія кахання і прыгожых чалавечых пачуццяў. Эмацыянальна-псіхалагічная змястоўнасць твора. Лірычны характар аўтарскага пісьма. Уяўленне пра змест і сюжэтныя лініі наступных твораў пенталогіі.

**«Гандлярка і паэт».** Гісторыя напісання аповесці. Тэма трагічнага лёсу жанчыны на вайне. Вобраз Вольгі Ляновіч. Каханне ў лёсе гераіні. Вобраз Алеся Шпака, яго роля ў духоўным узвышэнні Вольгі Ляновіч. Фарміраванне характару Алеся Гапанюка. Праблема маральнага выбару ў творы. Майстэрства пісьменніка ў стварэнні сюжэта, псіхалагічнай абмалёўцы характараў.

**«Сэрца на далоні».** Праблематыка рамана. Вастрыня канфлікту. Маральна-этычная сутнасць аўтарскай пазіцыі. Рэтра-

спектыўны зварот да падзей вайны. Сутыкненне праўды і дэмагогіі ў ацэнках дзейнасці падпольшчыкаў. Роля кар'ерыста Гукана, які хавае праўду пра актыўную падпольную дзейнасць доктара Савіча. Прынцыповасць і рашучасць Кірылы Шыковіча ў выкрыцці Гукана. Партызанскае мінулае Яраша. Вобраз Зосі Савіч, яе жыццёвы лёс.

Маладое пакаленне ў рамане. Няўстойлівасць жыццёвай пазіцыі Славіка Шыковіча. Складаны шлях духоўнага станаўлення Тараса. Пачатак самастойнага жыцця Славіка і Тараса — напамінак старэйшаму пакаленню пра рэальную магчымасць узнікнення праблемы бацькоў і дзяцей, неабходнасці выхавання новага пакалення.

Сімволіка назвы твора.

**♦ Для самастойнага чытання**

*І. Шамякін.* «Начныя зарніцы», «Агонь і снег», «Мост» (аповесці з пенталогіі «Трывожнае шчасце» — на выбар настаўніка).

***Тэорыя літаратуры.*** Жанр аповесці (паглыбленне паняцця).

***Мастацтва.*** Ж ы в а п і с: *М. Будавей.* «Партрэт Івана Шамякіна»; *Н. Шчасная.* «Снежныя зімы (партрэт пісьменніка Шамякіна)»; *У. Масленікаў.* «Мае бацькі ў маі 1945 года».

Т э а т р а л ь н а е   м а с т а ц т в а: спектаклі «Трывожнае шчасце», «Сэрца на далоні», «І змоўклі птушкі» (па творах *І. Шамякіна*);

К і н а м а с т а ц т в а: мастацкія фільмы «Гандлярка і паэт» (рэж. *С. Самсонаў*), «Вазьму твой боль» (рэж. *М. Пташук*).

**Літаратура**

*Бельскі, А.* Каханне, маладосць і трывогі сэрца / А. Бельскі // Шамякін, І. Трывожнае шчасце: аповесці. — Мінск, 2008. — С. 5—9.

*Гардзіцкі, А.* Творчасць Івана Шамякіна / А. Гардзіцкі. — Мінск, 1971.

*Каваленка, В.* Іван Шамякін: нарыс жыцця і творчасці / В. Каваленка. — Мінск, 1980.

Локун, В. Кругі жыцця — кругі літаратуры / В. Локун. — Мінск, 2002.

Майхровіч, С. Іван Шамякін / С. Майхровіч. — Мінск, 1978.

**В а с і л ь  Б ы к а ў.** Аповесці **«Сотнікаў», «Знак бяды»** *(5 гадзін).*

Жыццёвы і творчы шлях пісьменніка.

**«Сотнікаў».** Праблематыка аповесці. Чалавек перад знішчальнай сілай бесчалавечных абставін. Вобразы Сотнікава і Рыбака ў творы, іх глыбокі псіхалагізм. Уменне Сотнікава змагацца да канца ў любых абставінах; вернасць перакананням. Трагічны фінал Сотнікава. Вобраз Рыбака, яго спрытнасць і лоўкасць. Здрадніцтва дзеля захавання свайго жыцця. Духоўная смерць Рыбака. Персанажы другога плана ў аповесці (стараста, Дзёмчыха, Бася), іх мужнасць. Выкрыццё паліцэйскіх — прыслужнікаў немцаў у творы (Партноў, Стась Гаманюк, Будзіла). Мастацкая дасканаласць твора. Яго сюжэт і кампазіцыя. Пейзаж у аповесці. Роля мастацкай дэталі ў абмалёўцы герояў і падзей.

**«Знак бяды».** Актуальнасць маральна-філасофскай праблематыкі аповесці. Вастрыня трагедыйнага канфлікту. Маштабнасць характараў галоўных герояў — Петрака і Сцепаніды. Глыбокі псіхалагізм аповесці. Зварот аўтара да эпізодаў даваеннага жыцця з мэтай больш глыбокага раскрыцця характараў. Выкрыццё жорсткасці, бесчалавечнасці фашызму. Паказ прыслужнікаў акупацыйнага рэжыму. Мастацкая сімволіка твора. Экранізацыя аповесці «Знак бяды» (рэжысёр М. Пташук).

Значэнне творчасці Быкава для развіцця беларускай літаратуры.

♦ **Для самастойнага чытання**

*В. Быкаў.* «Пакахай мяне, салдацік».

***Тэорыя літаратуры.*** Выяўленне аўтарскай пазіцыі ў мастацкім творы (паглыбленне паняцця). Аўтарская канцэпцыя жыцця і асобы. Гераічнае і трагічнае ў літаратуры (паглыбленне паняццяў). Вобразы-сімвалы, мастацкія дэталі, іх роля ў тэксце.

***Мастацтва.*** М у з ы к а: *Л. Шчамялёў.* «Працаўнікі муз» (кампазітар І. Лучанок, пісьменнік В. Быкаў і мастак М. Савіцкі).

Ж ы в а п і с: *М. Будавей.* «Партрэт В. Быкава»; *В. Быкаў.* Ілюстрацыі да апавяданняў «Трое», «Страчаныя мары», карціны «Лужына», «Бацькоўская хата»; *М. Данцыг.* «Партрэт

В. Быкава»; *А. Кашкурэвіч.* Ілюстрацыі да аповесцей В. Быкава «Пайсці і не вярнуцца», «Яго батальён»; *Г. Паплаўскі.* Ілюстрацыі да аповесцей В. Быкава «Дажыць да світання», «Сотнікаў»; *У. Тоўсцік.* «Васілю Уладзіміравічу Быкаву прысвячаецца»; «Васілёва зорка»: альбом.

Кінамастацтва: трохсерыйны тэлевізійны фільм «Доўгія вёрсты вайны» (рэж. *А. Карпаў*); фільмы: «Абеліск» (рэж. *Р. Віктараў*), «Дажыць да світання» (рэж. *М. Яршоў, В. Сакалоў*), «Знак бяды» (рэж. *М. Пташук*), «Пастка» (рэж. *Л. Мартынюк*), «Трэцяя ракета» (рэж. *Р. Віктараў*), «Фруза» (рэж. *В. Нікіфараў*).

**Літаратура**


*Адамовіч, А.* Здалёк і зблізку / А. Адамовіч. — Мінск, 1976.

*Афанасьев, И.* Кто восходит на Голгофу: антивоенная идея в творчестве В. Быкова / И. Афанасьев. — Минск, 1991.

*Бугаёў, Д. Я.* Вывучэнне творчасці Васіля Быкава ў школе / Д. Я. Бугаёў, М. У. Верціхоўская, В. У. Верціхоўская. — Мінск, 2005.

*Бугаёў, Д.* Праўда і мужнасць таленту / Д. Бугаёў. — Мінск, 1995.

Васіль Быкаў: альбом / уклад. А. Адамовіч. — Мінск, 1986.

*Вярцінскі, А.* Высокае неба ідэала / А. Вярцінскі. — Мінск, 1980.

*Дедков, И.* Василь Быков: Повесть о человеке, который выстоял / И. Дедков. — М., 1990.

*Каваленка, В.* Жывое аблічча дзён / В. Каваленка. — Мінск, 1979.

*Лазарев, Л.* Василь Быков: очерк творчества / Л. Лазарев. — М., 1979.


**Эрнэст Хемінгуэй.** Аповесць **«Стары і мора»** *(1 гадзіна).*

**«Стары і мора»** — адзін з найлепшых твораў славутага амерыканскага пісьменніка. Праблемы жыцця і смерці, прыроды і чалавека, пераемнасці пакаленняў. Галоўны герой аповесці рыбак Санцьяга — чалавек, які не здаецца перад цяжкімі выпрабаваннямі жыцця. Яго аптымізм, высокае пачуццё чалавечай годнасці. Лейтматыў твора — словы Санцьяга: «Чалавека можна знішчыць, але яго нельга перамагчы». Падтэкст у творы.

**Літаратура**


*Герцык, А.* Літаратура народаў свету ў школе / А. Герцык. — Мінск, 2007.

**М і х а с ь   С т р а л ь ц о ў.** Апавяданні **«Сена на асфальце», «На чацвёртым годзе вайны»** *(2 гадзіны).*

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніка.

**«Сена на асфальце».** Эцюды-ўспаміны пра маладосць, каханне, жыццёвыя праблемы і клопаты. Вобраз аўтара-апавядальніка, яго «самая патаемная і самая душэўная думка» — прымірыць горад і вёску. Прырода ў творы. Глыбокі лірызм апавядання. Адметнасць кампазіцыі.

**«На чацвёртым годзе вайны».** Гора і нястачы, прынесеныя ў сялянскую сям'ю вайной, якую кожны з сямейнікаў перажывае па-свойму. Вобразы старой маці, нявесткі Марусі і яе маленькага сына. Заўчаснае сталенне хлопчыка, яго рашучае жаданне дапамагчы маці і бабулі, узяць на сябе адказнасць за лёс сям'і. Глыбокі псіхалагізм у паказе характараў.

♦ **Для самастойнага чытання**

*М. Стральцоў.* «Двое ў лесе».

***Тэорыя літаратуры.*** Унутраны маналог (паглыбленне паняцця).

**Літаратура**

*Бугаёў, Д.* Шматграннасць / Д. Бугаёў. — Мінск, 1970.

*Сямёнава, А.* Гарачы след таленту / А. Сямёнава. — Мінск, 1979.

*Шамякіна, Т.* На лініі перасячэння / Т. Шамякіна. — Мінск, 1981.

**Н і л   Г і л е в і ч.** Вершы: **«Ах, якая над Гайнай купальская ноч!..», «Святочны, старажытны дух калядны...», «Паклон табе, мой беларускі краю!..»)**; раман у вершах **«Родныя дзеці»** (ва ўрыўках) *(2 гадзіны).*

Жыццёвы і творчы шлях паэта.

Шырокі тэматычны змест паэзіі. Любоў да Бацькаўшчыны, клопат пра яе лёс, шанаванне роднай мовы, захаванне культурнай спадчыны. Лірыка прыроды, дружбы, кахання. Глыбокі лірызм, песеннасць вершаў, фальклорныя матывы ў творчасці паэта. Класічныя традыцыі і наватарства ў галіне паэтыкі. «Родныя дзеці» як узор рамана ў вершах.

***Тэорыя літаратуры.*** Раман у вершах як жанр.

***Мастацтва.*** Ж ы в а п і с: *М. Андруковіч.* «Лагойскі краявід»; *М. Бушчык.* «Відная ноч».

Г р а ф і к а: *А. Лапіцкая.* «Гучаць над Палессем старажытныя песні».

М у з ы к а: *Э. Зарыцкі.* Песня «Палыновая ростань» (сл. Н. Гілевіча); *Л. Захлеўны.* Песня «Сонца ў азерцы» (сл. Н. Гілевіча); *І. Лучанок.* Песня «Я хаджу закаханы» (сл. Н. Гілевіча); *Э. Ханок.* Песня «Вы шуміце, бярозы...» (сл. Н. Гілевіча); «Аксамітавы вечар»: кампакт-дыск; «Нашы песні»: кампакт-дыск (ансамбль «Сябры»).

**Літаратура**

*Бечык, В.* Прад высокаю красою... / В. Бечык. — Мінск, 1984.

*Бярозкін, Р.* Паэзія — маё жыццё / Р. Бярозкін. — Мінск, 1989.

*Каваленка, В.* Жывое аблічча дзён / В. Каваленка. — Мінск, 1979.

*Конан, У.* Паэтычны голас сумлення / У. Конан // Полымя. — 1996. — № 9. — С. 293—307.

*Сіненка, Г.* Ніл Гілевіч: нарыс творчасці / Г. Сіненка. — Мінск, 1981.

**І в а н Ч ы г р ы н а ў.** Апавяданні **«Дзівак з Ганчарнай вуліцы», «У ціхім тумане»** *(2 гадзіны).*

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніка.

**«Дзівак з Ганчарнай вуліцы».** Памяць мінулай вайны і лёс старога лесніка Дземідзёнка. Зварот да традыцыйных каштоўнасцей, гармонія чалавека з прыродай, людзьмі, самім сабой. Вобраз аўтара-апавядальніка.

**«У ціхім тумане».** Новыя падыходы да асэнсавання тэмы вайны. Узаемаадносіны былых ахвяр і здраднікаў Радзімы. Праблема віны і даравання. Вобразы Рэйдзіхі і Ганны. Гуманістычны пафас апавядання.

**♦ Для самастойнага чытання**

*І. Чыгрынаў.* «Ішоў на вайну чалавек».

***Мастацтва.*** Ж ы в а п і с: *В. Грамыка.* «Па-над Прыпяццю. 1941 год»; *А. Малішэўскі.* «Мы вернемся»; *І. Белановіч.* «Сустрэча з недалёкім мінулым».

**Літаратура**

*Бугаёў, Д.* Арганічнасць таленту / Д. Бугаёў. — Мінск, 1979.

*Грамадчанка, Т. К.* Жывая памяць народа: нарыс жыцця І. Чыгрынава / Т. К. Грамадчанка. — Мінск, 1984.

*Марціновіч, А.* Іван Чыгрынаў: нарыс жыцця і творчасці / А. Марціновіч. — Мінск, 1998.

*Шамякіна, Т.* На лініі перасячэння / Т. Шамякіна. — Мінск, 1981.

**І в а н  Н а в у м е н к а.** Апавяданні **«Семнаццатай вясной», «Хлопцы самай вялікай вайны»** *(2 гадзіны).*

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніка.

**«Семнаццатай вясной».** Паказ лёсу моладзі ў гады вайны з фашызмам. Раскрыццё ў творы характараў Цімоха, Стасі і іншых герояў. Эмацыянальнасць зачыну апавядання, лірызм аповеду. Сімвалічнасць вобраза бэзу.

**«Хлопцы самай вялікай вайны».** Жорсткая праўда жыцця. Адсутнасць у апавяданні элементаў рамантыкі. Унутраная самаацэнка юнакоў; жаночы, мацярынскі погляд на рэальнасці вайны. Шматгранны партрэт пакалення. Роля мастацкай дэталі ў творы.

♦ **Для самастойнага чытання**

*І. Навуменка.* 2 апавяданні.

***Тэорыя літаратуры.*** Сюжэт і яго элементы, пазасюжэтныя кампаненты твора (паглыбленне паняццяў).

**Літаратура**

*Марціновіч, А.* З вышыні пражытага: штрыхі да творчага партрэта І. Навуменкі / А. Марціновіч // Роднае слова. — 2000. — № 2. — С. 4—8.

*Піскун, Л.* Іван Навуменка / Л. Піскун. — Мазыр, 1997.

*Піскун, Л.* Феномен мастацкай індывідуальнасці: агляд творчасці І. Навуменкі / Л. Піскун // Роднае слова. — 1995. — № 2. — С. 7—13; № 3. — С. 11—14.

*Сіненка, Г.* Іван Навуменка: нарыс творчасці / Г. Сіненка. — Мінск, 1981.

**Р ы г о р  Б а р а д у л і н.** Вершы: **«Неруш», «Яна адна, зямля вякоў...», «Заспаная раніца мжыстая...», «Пакуль жывеш, развітвайся з жыццём...», «Божа, паспагадай усім...»** *(2 гадзіны).*

Жыццёвы і творчы шлях паэта.

Народнасць і самабытнасць паэзіі Р. Барадуліна. Сувязь яго творчасці з традыцыямі фальклору, міфалогіі, класічнай літаратуры. Свет Радзімы-Беларусі ў яго паэзіі, выяўленне пачуцця любові да зямлі бацькоў. Услаўленне роднага слова як духоўнай святыні. Шчырасць, даверлівасць пачуццяў у лірыцы кахання, тонкі псіхалагізм і экспрэсіўнасць у іх выяўленні. Асаблівасці паэтычнага майстэрства Р. Барадуліна: арыгінальная метафарычна-асацыятыўная вобразнасць, гукапіс, рытміка, рыфма ў яго творах.

♦ **Для самастойнага чытання**

*Р. Барадулін.* 2—3 вершы.

***Мастацтва.*** Ж ы в а п і с: *В. Жолтак.* «Восеньская сімфонія»; *І. Рэй.* «Зямля мая беларуская».

**Літаратура**


*Бечык, В.* Выбранае / В. Бечык. — Мінск, 1989.

*Гарэлік, Л.* «Зямля бацькоў дала мне права...»: станаўленне творчай індывідуальнасці Р. Барадуліна / Л. Гарэлік. — Мінск, 1983.

*Гніламёдаў, У.* Ад даўніны да сучаснасці: нарыс пра беларускую паэзію / У. Гніламёдаў. — Мінск, 2001.

*Лойка, А.* Пра Барадуліна — без цытатаў / А. Лойка // Роднае слова. — 2000. — № 2. — С. 14—16.

*Рагуля, А.* Імгненні... / А. Рагуля. — Мінск, 1990.

*Стральцоў, М.* Пячатка майстра: літ.-крытыч. арт., эсэ / М. Стральцоў. — Мінск, 1986.


**Г е н р ы х  Б ё л ь.** Раман **«Дом без гаспадара»** (ва ўрыўках) *(2 гадзіны).*

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніка.

Раман **«Дом без гаспадара»** — твор пра цяжкія душэўныя пакуты пасляваеннага пакалення Германіі. Лёс удавы паэта Раймунда Баха — Нэлы. Вобразы непераадоленага мінулага ў творы. Праблема бацькоў і дзяцей. Думкі аўтара пра ўсенародную віну за паўтарэнне фашызму. Глыбокае раскрыццё псіхалогіі дзяцей-сірот у рамане (Марцін і Генрых). Вобраз мастака Альберта. Сэнс назвы рамана. Асаблівасці кампазіцыі. Прыёмы аўтарскага маналогу пры раскрыцці ўнутранага свету герояў.

**Літаратура**

*Бёль, Г.* Дом без гаспадара / Г. Бёль. — Мінск, 1996.

*Герцык, А.* Раман Генрыха Бёля «Дом без гаспадара» / А. Герцык // Роднае слова. — 1998. — № 1. — С. 111—122.

История немецкой литературы: в 3 т. — М., 1986. — Т. 3.

*Мотылева, Т.* Генрих Белль: проза ранних лет / Т. Мотылева // Белль, Г.: Избранное. — М., 1987. — С. 558—572.

**Я ў г е н і я  Я н і ш ч ы ц.** Вершы **«Чаму ніколі не баюся я...», «Не воблака, а проста аблачынка...», «Помню, помню праз гады...», «Любоў мая...»** *(2 гадзіны).*

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць паэтэсы.

Малая радзіма, казачная палеская прырода, вясковы і гарадскі побыт, пададзеныя ў светлых колерах у лірыцы. Спроба паяднаць традыцыйны верш і рытмізаваную прозу ў творах. Тэматычная палітра паэзіі Я. Янішчыц. Эвалюцыя пафасу ў творах: ад мажорнага, радаснага да сумнага, трывожнага.

**Г е о р г і й  М а р ч у к.** Навелы **«Канон Богу», «Канон Базару», «Канон Гарыні», «Канон Маці»** *(1 гадзіна).*

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніка.

Жанрава-стылёвая спецыфіка твораў, іх спавядальнасць. Захапляльнае падарожжа па радзіме пісьменніка, асэнсаванне жыцця палешукоў, іх традыцый. Мудрасць разумення чалавечага шчасця і іншых духоўных каштоўнасцей.

***Мастацтва.*** К і н а м а с т а ц т в а: фільм «Ліст да Феліні» (рэж. *Д. Зайцаў*).

**А л я к с е й  Д у д а р а ў.** П'еса **«Князь Вітаўт»** або **«Чорная панна Нясвіжа»** *(2 гадзіны).*

Кароткія звесткі пра жыццё і творчасць пісьменніка.

**«Князь Вітаўт».** Наватарскі падыход драматурга да ўвасаблення далёкага мінулага. Жанравая адметнасць твора, асаблівасці яго кампазіцыі. Вітаўт і Ягайла як вобразы-тыпы. Маральна-этычнае завастрэнне канфлікту. Ахвярнасць, вернасць (пакаёўка Алёна) і здрада, халодны разлік, угодлівасць (стражнік Люцень). Праблема асабістага шчасця ў п'есе. Сцвярджэнне ў творы галоўных каштоўнасцей на зямлі: любові, еднасці, згоды і міру.

**«Чорная панна Нясвіжа».** Мастацкае пераасэнсаванне аўтарам гісторыка-легендарнага матэрыялу. Кампазіцыйная і моўная адметнасць твора. Рамантызацыя, спалучэнне рэальнага і ўмоўна-фантастычнага планаў, меладраматызм як жанравастылёвыя асаблівасці п'есы. Сістэма вобразаў. Каханне і ўлада, сутыкненне асабістых і дзяржаўных інтарэсаў. Праблема выбару і яе вырашэнне ў п'есе. Яркасць характараў Барбары і Жыгімонта, псіхалагічная матываванасць іх паводзін. Майстэрства дыялогу.

♦ **Для самастойнага чытання**

*А. Дудараў.* «Радавыя».

***Тэорыя літаратуры.*** Гістарычная драма.

***Мастацтва.*** Т э а т р а л ь н а е м а с т а ц т в а: спектаклі «Вечар» (рэж. *В. Мазынскі*), «Князь Вітаўт» (рэж. *В. Раеўскі, Б. Герлаван*), «Радавыя» (рэж. *В. Раеўскі, Б. Герлаван*), «Чорная панна Нясвіжа» (рэж. *В. Раеўскі, Б. Герлаван*).

**Літаратура**

*Васючэнка, П.* Сучасная беларуская драматургія / П. Васючэнка. — Мінск, 2000.

*Васючэнка, П.* Ад Буслая да Вітаўта / П. Васючэнка // Полымя. — 1995. — № 5. — С. 246—268.

*Завадская, І.* «Як цяжка князем быць — і верыць Богу»: пра спектакль «Князь Вітаўт» / І. Завадская // Роднае слова. — 2001. — № 8. — С. 98—99.

*Ратабыльская, Т. А.* «Спыніся, імгненне...»: старонкі тэатральнага жыцця Беларусі 1990-х гг. / Т. А. Ратабыльская. — Мінск, 2000.

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА НА СУЧАСНЫМ ЭТАПЕ (З СЯРЭДЗІНЫ 1980-х ГАДОЎ) (19 гадзін)

Літаратурны працэс у Беларусі на сучасным этапе. Прыход у літаратуру новых пакаленняў творчай моладзі. Знаёмства з літаратурнымі часопісамі і публікацыямі ў іх твораў сучасных аўтараў («Полымя», «Маладосць» і інш.). Утварэнне грамадскага аб'яднання «Саюз пісьменнікаў Беларусі».

**Паэзія** (2—3 аўтары на выбар настаўніка) *(7 гадзін)*. Паглыбленне агульначалавечага, маральна-філасофскага, гуманіс-

тычнага зместу лірыкі, яе грамадзянска-публіцыстычнага і інтымна-псіхалагічнага пачаткаў у творчасці Максіма Танка, П. Панчанкі, С. Грахоўскага, В. Зуёнка, А. Вярцінскага, А. Лойкі, Ю. Свіркі, Д. Бічэль, Г. Пашкова, М. Пазнякова, А. Салтука, М. Маляўкі, М. Дуксы, У. Карызны, Л. Галубовіча, А. Сыса, З. Марозава і інш.

Чарнобыль у творах Я. Сіпакова (паэма «Одзіум»), М. Мятліцкага (зборнікі «Палескі смутак», «Бабчын»), М. Башлакова (зборнік «Пяро зязюлі падніму»), А. Зэкава (зборнік «Чарнобыльскі вецер»).

Урбаністычныя матывы ў сучаснай паэзіі (А. Глобус, Г. Булыка, Л. Дранько-Майсюк і інш.).

Пошукі і наватарства ў галіне паэтычнай формы (Максім Танк, А. Разанаў, Р. Баравікова, М. Мятліцкі).

Разнастайнасць творчых індывідуальнасцей у сучаснай паэзіі: М. Башлакоў, К. Цыбульскі, К. Жук, А. Бадак, Л. Рублеўская, В. Шніп, П. Вераб'ёў, Т. Трафімава, М. Шабовіч, Н. Шклярава, І. Пракаповіч, З. Падліпская і інш.

**Васіль Зуёнак.** Шырыня творчых інтарэсаў паэта. Уменне ўбачыць карані мінулага ў сённяшнім, асэнсаваць даўнія вытокі сялянскай мудрасці. Пейзажная лірыка паэта. Дамінантныя вобразы-сімвалы: «ралля-аснова», «ворыва», «ніва», «хата», «зерне праўды», «трава»; стылёвыя зрухі (ад эмпірычнага адлюстравання з'яў, пачуццяў да іх філасофскага асэнсавання). Гісторыя роднага краю ў паэме «Сяліба»; тыповасць галоўнага героя твора.

**Янка Сіпакоў.** Патрыятычнае гучанне, спавядальнасць, разнастайнасць вобразаў як рысы індывідуальнага стылю пісьменніка. Пейзажная лірыка Я. Сіпакова. Аўтабіяграфізм твораў на ваенную тэматыку. Вершы на гістарычныя тэмы, спалучанасць у іх эпічнай і лірычнай плыняў. Я. Сіпакоў — майстар баладнага жанру. Лёс славянскіх народаў, адлюстраванне рыс іх характараў у баладах.

**Анатоль Вярцінскі.** А. Вярцінскі — прадстаўнік філасофска-інтэлектуальнай плыні ў сучаснай беларускай паэзіі. Сцвярджэнне чалавечай высакароднасці і дабрыні. Паэма «Песня пра хлеб». Успаміны паэта пра сваё маленства, пра самы дарагі падарунак зямлі — хлеб. Глыбокая любоў да роднай зямлі. Роля пейзажных малюнкаў у паэме.

**М а р' я н Д у к с а.** Вызначэнне маральных арыенціраў, пошук духоўных каштоўнасцей у зборніку «Заснежаныя ягады». Вобраз радзімы, паэтызацыя краявідаў. Увасабленне ідэалаў дабра і міласэрнасці. Маральна-этычнае асэнсаванне праблем жыцця і часу. Адметнасць стылю аўтара.

**Р а і с а Б а р а в і к о в а.** Першы зборнік «Рамонкавы бераг»: сімвалічнасць назвы, вобразы пялёсткаў і сонца як выявы радаснага настрою. Матывы дабрыні, суперажывання людскога болю, упадабненне крылатай птушцы, вобразы саду, дрэва ў зборніках «Люстэрка для самотнай», «Слухаю сэрца», «Каханне». Псіхалагізм, светласць інтымных перажыванняў паэтэсы. Рысы медытатыўнасці ў лірыцы канца XX — пачатку XXI стагоддзя (цыкл вершаў «Васьмірадкоўі апошніх пацалункаў»).

**А л е с ь Р а з а н а ў.** Філасофска-інтэлектуальны кірунак творчасці: суадносіны агульначалавечага (быційнага) і нацыянальна-гістарычнага (асабістага). Тэма Бацькаўшчыны ў лірыцы паэта. Трагізм светаадчування мастака ў творах на гістарычную тэматыку («Радзіма...», «Рагнеда», «Стары горад», «Парог»). Традыцыі і наватарства: адметнасць жанрава-стылёвых формаў, стыль пісьма паэта. Асацыятыўная вобразнасць. Роля А. Разанава ў развіцці традыцый беларускай філасофскай паэзіі.

**Г е н а д з ь П а ш к о ў.** Асноўныя вобразы і матывы лірыкі (зборнікі паэзіі «Журавінавы востраў» і «Тваім святлом благаславёны»). Свет роднай зямлі ў творчасці паэта. Паэтычныя малюнкі роднай прыроды. Выяўленне інтымных пачуццяў у лірыцы кахання. Асаблівасці творчай манеры паэта.

**Проза** (2—3 аўтары на выбар настаўніка) *(6 гадзін)*. Сацыяльныя і маральна-філасофскія праблемы ў сучаснай прозе: В. Казько. «Хроніка дзетдомаўскага саду»; В. Карамазаў. «Бежанцы»; А. Савіцкі. «Пісьмо ў рай»; А. Жук. «Праклятая любоў»; А. Федарэнка. «Вёска»; А. Казлоў. «Незламаная свечка» (на выбар).

Чарнобыльская тэма ў сучаснай прозе (Б. Сачанка. «Родны кут», «Еўка»; І. Шамякін. «Злая зорка»; Л. Левановіч. «Палыновы вецер»).

Лёс народа Заходняй Беларусі ў раманах В. Адамчыка «Чужая бацькаўшчына», «Год нулявы», Г. Далідовіча «Заходнікі» (твор на выбар).

Тэма вайны: В. Быкаў. «У тумане»; І. Чыгрынаў. «Вяртанне да віны»; А. Адамовіч. «Нямко»; Г. Марчук. «Крык на хутары».

Тэма гістарычнага мінулага ў творах Л. Дайнекі, В. Коўтун, К. Тарасава.

Адлюстраванне падзей савецкага мінулага: В. Быкаў. «Сцюжа»; І. Навуменка. «Вір»; Я. Сіпакоў. «Кулак».

**Іван Пташнікаў** як адзін з таленавітых прадстаўнікоў філалагічнага пакалення. Прырода, малая радзіма, вайна і мір — вызначальныя тэмы творчасці пісьменніка. Трагізм як адметная рыса аповесці «Тартак». Гераічны пафас аповесці «Найдорф». Вобразы людзей-працаўнікоў, улюбёных у родныя мясціны, патрыётаў, Андрэя Вялічкі (раман «Мсціжы») і Алімпіяды Падаляк (раман «Алімпіяда»). Жанравая разнастайнасць, эмацыянальная напружанасць, дынамізм апавяданняў «Францужанкі», «Тры пуды жыта», «Пагоня». Маляўнічасць мовы, псіхалагізм, філасафічнасць як адметныя рысы індывідуальнага стылю мастака слова.

**Віктар Казько** — майстар інтэлектуальнай, філасофскай прозы. Асуджэнне вайны праз балючую памяць, драматычны лёс Кolькі Лецечкі і яго пакалення (аповесць «Суд у Слабадзе»). Раман «Неруш» у шэрагу іншых твораў пра парушэнне гармоніі зямнога жыцця («Белы параход» Ч. Айтматава, «Цар-рыба» В. Астаф'ева і інш.). Вобраз Палесся як сімвалу нерушнага жыцця. Рэальныя (Мацвей Роўда, Шахрай, дзед Дзям'ян, Нене) і міфалагічныя (жалезны чалавек, Галоска-галасніца) вобразы ў творы.

**Віктар Карамазаў** — адзін з вядучых сучасных празаікаў, прадстаўнік філалагічнага пакалення. Псіхалагізм апавяданняў з першай кнігі пісьменніка «Падранак». Горад і вёска, бацькі і дзеці ў аповесці «Бярозавыя венікі». Вобраз лесу, ахоўнікі яго таямніц у рамане «Пушча». Твор-даследаванне пра В. К. Бялыніцкага-Бірулю «Крыж на зямлі і поўня ў небе». Майстэрства пісьменніка ў асвятленні праблем сучаснасці.

**Драматургія** (1—2 аўтары на выбар настаўніка) *(6 гадзін)*. Асноўныя тэндэнцыі ў развіцці беларускай драматургіі другой паловы 80—90-х гадоў. Традыцыі драматургіі Кандрата Крапівы і А. Макаёнка, творчае выкарыстанне гэтых традыцый маладзейшымі пісьменнікамі.

Узмацненне цікавасці да гістарычнага мінулага: А. Петрашкевіч. «Прарок для Айчыны», «Меч Рагвалода»; І. Чыгрынаў. «Звон не малітва»; Р. Баравікова «Барбара Радзівіл» і інш. Трагічны лёс беларускай вёскі і сялянства ў п'есе У. Бутрамеева «Страсці па Аўдзею». Сатырычная камедыя М. Матукоўскага «Мудрамер», яе маральна-этычная праблематыка.

Новая хваля ў беларускай драматургіі.

**Алесь Петрашкевіч.** П'еса «Напісанае застаецца» або «Прарок для Айчыны». Канфлікт, рэальныя гістарычныя асобы ў творах. Мастацкая ўмоўнасць у п'есах. Мінулае і будучыня ў драматургіі А. Петрашкевіча. Цэнтральны герой п'ес Францыск Скарына як выбітная постаць XVI стагоддзя. Маральныя праблемы і іх вырашэнне. Майстэрства Петрашкевіча-драматурга.

**Уладзімір Бутрамееў.** Раскаванасць мастацкага мыслення (В. Раеўскі), вастрыня канфлікту ў драме «Страсці па Аўдзею». Гістарычныя падзеі 30-х гг. XX стагоддзя ў п'есе. Трактоўка вобраза галоўнага героя. Спроба рымейка «Новыя прыгоды Несцеркі». «Фальклурызм» твора.

**Сяргей Кавалёў.** П'есы драматурга для дзяцей («Драўляны Рыцар», «Дарога на Віфлеем»), іх наватарства. П'есы-рымейкі «Звар'яцелы Альберт, або Прароцтвы шляхціца Завальні», «Трышчан ды Іжота», «Саламея, або У пошуках шчаслівага месца», «Стомлены д'ябал». Гістарычная аснова і мастацкая ўмоўнасць у іх.

***Мастацтва.*** Скульптура: *У. Слабодчыкаў.* «Чарнобыльская мадонна»; *А. Фінскі.* «Чарнобыльскі крыж».

Жывапіс: *В. Барабанцаў.* Трыпціх «Пакінутая вёска», «Зона», «Мёртвы калодзеж»; *А. Кашкурэвіч.* Трыпціх «Прадчуванне бяды»; *У. Кожух.* Серыя карцін «Чарнобыльская хроніка»; *І. Рэй.* «Дзякуй, мама!», «З вогненнай вёскі», «Боль вогненных гадоў. Год 41-ы», «Беларуская восень», «Поры года»;

*М. Савіцкі.* «Чорная быль»; *С. Цімохаў.* «Смутак Чарнобыля»; *У. Гоманаў.* «Партрэт А. Петрашкевіча».

Тэатральнае мастацтва і кінамастацтва: спектаклі «Адкуль грэх?» (рэж. *П. Малчанаў*, *А. Краўчук*, па творы А. Петрашкевіча), «Страсці па Аўдзею» (рэж. *В. Раеўскі*, па творы У. Бутрамеева), «Тарас на Парнасе» (рэж. *Н. Башава*), «Стомлены д'ябал» (рэж. *Р. Таліпаў*), «Трыстан ды Ізольда» (рэж. *А. Гарцуеў*); тэлеспектаклі «Прарок для Айчыны» (па творы А. Петрашкевіча), «Укралі кодэкс» (рэж. *Г. Вагаў*, па творы А. Петрашкевіча).

**Літаратура**


Анталогія беларускай паэзіі: у 3 т. / рэдкал.: Р. Барадулін [і інш.]. — Мінск: Маст. літ., 1993. — Т. 2—3.

*Арочка, М. М.* На парозе 90-х: літаратурны агляд / М. М. Арочка, П. К. Дзюбайла, С. С. Лаўшук. — Мінск, 1993.

*Бельскі, А. І.* Паэзія // Беларуская літаратура XX стагоддзя: у 4 т. / А. І. Бельскі. — Мінск, 1999—2003. — Т. 4. Кн. 2: 1986—2000. — С. 39—87.

*Бельскі, А. І.* Сучасная беларуская літаратура: станаўленне і развіццё творчых індывідуальнасцяў (80—90-я гг.) / А. І. Бельскі. — Мінск, 1997.

*Бугаёў, Д.* Арганічнасць таленту: літ.-крытыч. артыкулы / Д. Бугаёў. — Мінск, 1989.

*Бечык, В.* Выбранае: літ.-крытыч. артыкулы / В. Бечык. — Мінск, 1989.

*Бярозкін, Р.* Паэзія — маё жыццё: выбранае / Р. Бярозкін. — Мінск, 1989.

*Васючэнка, П.* Сучасная беларуская драматургія / П. Васючэнка. — Мінск, 2000.

*Гніламёдаў, У.* Ад даўніны да сучаснасці: нарыс пра беларускую паэзію / У. Гніламёдаў. — Мінск, 2001.

*Грамадчанка, Т.* Перад праўдай высокай і вечнай: беларуская проза сёння / Т. Грамадчанка. — Мінск, 1991.

*Грыцаль, Т. М.* Беларуская літаратура ў школе: вывучэнне сучаснай прозы ў старэйшых класах / Т. М. Грыцаль. — Мінск, 2004.

*Каваленка, В.* Веліч праўды / В. Каваленка. — Мінск, 1989.

*Кавалёў, С.* Як пакахаць ружу: літ.-крытыч. артыкулы пра маладую беларускую паэзію 80-х гадоў / С. Кавалёў. — Мінск, 1989.

*Кавалёў, С.* Партрэт шкла / С. Кавалёў. — Мінск, 1991.

*Лаўшук, С. С.* Сучасная беларуская драматургія / С. С. Лаўшук. — Мінск, 1977.

*Марціновіч, А.* Шляхам праўды / А. Марціновіч. — Мінск, 1994.

*Тарасюк, Л. К.* Вернасць вытокам: фальклорныя традыцыі ў сучаснай беларускай паэзіі / Л. К. Тарасюк. — Мінск, 1985.

*Шаўлоўская, М.* Беларуская драматургія / М. Шаўлоўская. — Мінск, 1981.

У с я г о: на вывучэнне твораў — 49 гадзін;
на творчыя работы — 4 гадзіны.

## Рэкамендацыйны спіс твораў для завучвання на памяць

*М. Стральцоў.* Урывак з апавядання «Сена на асфальце» (на выбар настаўніка).

*Н. Гілевіч.* Верш або ўрывак з рамана ў вершах «Родныя дзеці» (на выбар настаўніка).

*Я. Янішчыц.* Верш (на выбар вучняў).

Верш з сучаснай беларускай паэзіі (на выбар вучняў).

## Рэкамендацыйны спіс твораў для пазакласнага чытання

### П а э з і я

«Галасы вёснаў: сучасная беларуская паэзія». ШБ (склад. А. Бельскі, У. Дзіско).

«Пад сэрцам у Радзімы: сучасная беларуская паэзія». ШБ (склад. М. Скобла).

«Споведзь калосся: беларуская паэзія другой паловы XX стагоддзя». ШБ (склад. А. Бельскі, У. Дзіско).

«Сталасць думкі, маладосць душы: зб. паэзіі». ШБ (склад. М. Мятліцкі).

*Р. Баравікова.* Зб. «Каханне», «Люстэрка для самотнай», «Дрэва для райскай птушкі».

*Р. Барадулін.* «Самота паломніцтва».

*Л. Галубовіч.* Зб. «Споведзь бяссоннай душы», «Заложнік цемры».

*Ю. Голуб.* Зб. «Сын небасхілу».

*Алесь Звонак.* Зб. «Светлацені».

*В. Зуёнак.* Зб. «Лета трывожных дажджоў», «Чорная лесвіца».

*К. Камейша.* Зб. «Кубак блакіту».

*П. Макаль.* Зб. «Твар і душа», «Азбука любві».

*М. Мятліцкі*. Зб. «Палескі смутак», «Замкнёны дом».

*П. Панчанка*. Зб. «Горкі жолуд», «Высокі бераг», «Зямля ў мяне адна».

*У. Паўлаў*. Зб. «Чысты чацвер».

*А. Пісьмянкоў*. Зб. «Чытаю зоры», «Планіда».

*А. Разанаў*. Зб. «Вастрыё стралы», «У горадзе валадарыць Рагвалод».

*Л. Рублеўская*. Зб. «Замак месячнага сяйва».

*Аляксей Русецкі*. Зб. «Яго вялікасць».

*А. Сербантовіч*. Зб. «Пярсцёнак».

*А. Сыс*. Зб. «Пан лес», «Агмень».

*Максім Танк*. Зб. «Збор калосся», «Мой каўчэг», «Errata».

*В. Шніп*. Зб. «Балада камянёў».

*Я. Янішчыц*. Зб. «У шуме жытняга святла», «Каліна зімы», «Пачынаецца ўсё з любві...» (на выбар).

## Проза

*В. Адамчык*. Раманы «Год нулявы», «Голас крыві брата твайго», «І скажа той, хто народзіцца» (на выбар).

*Я. Брыль*. Зб. «З людзьмі і сам-насам».

*В. Быкаў*. Зб. «Сцяна».

*С. Грахоўскі*. Апавяданні «Зона маўчання», «Такія сінія снягі».

*В. Гігевіч*. Аповесці «Карабель», «Пабакі».

*Л. Дайнека*. Раман «Жалезныя жалуды».

*Г. Далідовіч*. Раман «Гаспадар-камень».

*А. Жук*. Аповесць «Праклятая любоў».

*В. Казько*. Раман «Хроніка дзетдомаўскага саду», аповесць «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел».

*В. Карамазаў*. Аповесць «Аброчны крыж», эсэ «Зачараваная душа».

*А. Кудравец*. Зб. «Смерць нацыяналіста».

*Г. Марчук*. Аповесць «Кветкі правінцыі».

*І. Навуменка*. Аповесці «Любімы горад», «Вір».

*В. Праўдзін*. «Шлях на Галгофу».

*І. Пташнікаў*. Раман «Мсціжы».

*Б. Сачанка*. Аповесць «Родны кут».

*Я. Сіпакоў*. Зб. «Тыя, што ідуць».

*А. Федарэнка*. «Бляха».

*І. Чыгрынаў*. Раманы «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві» (на выбар).

*І. Шамякін*. Аповесць «Ахвяры», раман «Злая зорка», аповесці са зб. «Палеская мадонна», «Пошукі прытулку» (на выбар).

### Д р а м а т у р г і я

*А. Дзялендзік.* «Гаспадар».
*А. Дударaў.* «Парог», «Палачанка».
*Г. Марчук.* «Калі заспявае певень».
*А. Петрашкевіч.* «Меч Рагвалода».
*А. Федарэнка.* «Багаты кватарант».
*І. Чыгрынаў.* «Следчая справа Вашчылы».

## АСНОЎНЫЯ ВІДЫ ВУСНЫХ І ПІСЬМОВЫХ РАБОТ ПА ЛІТАРАТУРЫ Ў XI КЛАСЕ

Выразнае чытанне мастацкіх твораў.

Складанне плана ўласнага вуснага і пісьмовага выказвання.

Разгорнутыя і сціслыя вусныя адказы на праблемныя пытанні, даклады і паведамленні на літаратурную тэму (з выкарыстаннем адной або некалькіх крыніц).

Тэзісы і канспекты літаратурна-крытычных артыкулаў па пытаннях літаратуры.

Сачыненні і рэфераты па праграмных творах.

Рэцэнзіі на самастойна прачытаную кнігу, прагледжаныя кінафільм, тэлеперадачу, спектакль, на твор жывапісу або музыкі.

## АСНОЎНЫЯ ПАТРАБАВАННІ ДА ВЕДАЎ, УМЕННЯЎ І ЛІТАРАТУРНАГА РАЗВІЦЦЯ ВУЧНЯЎ XI КЛАСА

Вучні павінны в е д а ц ь:

асноўныя звесткі пра жыццёвы і творчы шлях пісьменнікаў;

асноўныя ідэйна-маральныя праблемы вывучаных твораў;

асноўныя жанравыя і стылёвыя асаблівасці праграмных мастацкіх твораў;

спецыфіку літаратуры як мастацтва слова, літаратурныя роды і жанры;

асноўныя тэарэтыка-літаратурныя паняцці, прадугледжаныя праграмай;

асноўныя перыяды развіцця нацыянальнай літаратуры;

асаблівасці, якія вылучаюць беларускую літаратуру сярод іншых літаратур свету, складаюць яе унікальнасць, адметнасць;

асаблівасці рамантычнага, рэалістычнага і мадэрнісцкага тыпаў мастацкай творчасці;

тэксты, рэкамендаваныя праграмай для завучвання на памяць.

Вучні павінны **ў м е ц ь:**

узнаўляць мастацкія карціны, створаныя пісьменнікам;

аналізаваць твор з улікам яго ідэйна-мастацкай цэласнасці і аўтарскай пазіцыі;

вызначаць асноўную праблематыку твора;

выяўляць асноўныя адметнасці стылю (творчай індывідуальнасці) пісьменніка;

характарызаваць героя твора, супастаўляць герояў аднаго або некалькіх твораў;

абгрунтоўваць сваю ацэнку прачытанага твора;

весці дыялог па прачытаных творах, улічваць іншы пункт гледжання на твор і аргументавана адстойваць сваё меркаванне;

адрозніваць высокамастацкую літаратуру ад «масавай»;

карыстацца літаратуразнаўчымі крыніцамі і даведачнымі матэрыяламі (энцыклапедыямі, даведнікамі, слоўнікамі літаратуразнаўчых тэрмінаў).

## З м е с т



Вучэбнае выданне

ВУЧЭБНАЯ ПРАГРАМА
для агульнаадукацыйных устаноў
з беларускай і рускай мовамі навучання

**БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА**
**V–XI класы**

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Ф. Леўкіна*
Камп'ютэрная вёрстка *А. М. Кісялёва*
Карэктар *Т. Ф. Шайко*

Падпісана ў друк 25.05.2009. Фармат 60×84/16. Папера газетная.
Гарнітура Школьная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 7,44.
Ул.-выд. арк. 6,45. Тыраж 3730 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/04994469
ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

Мінскае абласное унітарнае прадпрыемства «Барысаўская ўзбуйненая
тыпаграфія імя 1 Мая». ЛП № 02330/0150443 ад 19.12.2008.
Вул. Будаўнікоў, 33, 222120, г. Барысаў